ВІКТАР
КАРАМАЗАЎ

# ВЯСЁЛКА СЯРОД ЗІМЫ

ПАДАРОЖЖЫ

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1978

Бел 2
К 21

Для старэйшага школьнага ўзросту

Мастак Л. МАРЧАНКА

**Карамазаў В.**

К 21 Вясёлка сярод зімы: Падарожжы. Для стар. школ. узросту /Мал. Л. Марчанка.— Мн.: Маст. літ., 1978.— 160 с., іл.

Героі нарысаў «Векавое» і «Вясёлка сярод зімы» — нашы сучаснікі, сапраўдныя патрыёты роднай зямлі, змагары за яе шчасце, людзі багатай і шчодрай душы.

«Руны мараны» — падарожжа ў суровы і маляўнічы свет Поўначы, да народа, які стварыў гераічную «Калевалу».

К $\frac{70803-212}{М\ 302(05)-78}$ 171—78 Бел 2

© Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1978 г.

У Махаедава мы прыехалі надвечар, калі пасля ясных, цёплых дзён бабінага лета надвор'е рэзка змянілася: неба заплыло хмарамі, вецер перакруціўся, наваліўся з халаднейшага паўночнага боку, пайшоў золкі, нудны дождж.

Фургон-машына, лясгасная тэхнічка, спынілася ля канторы лясніцтва. Ехаць далей, у Сяргееў Хутар, малады шафёр не адважваўся, бо дарога туды вяла пушчанская, глухменістая, парэзаная глыбокімі палескімі каляінамі — у непагадзь, ды яшчэ на ноч гледзячы, лёгка было адбіцца ад вялікага Махаедава і не прыбіцца да малога Хутара. Каму ахвота?

І раптам ля машыны апынуўся нізкі, вузкаваты ў плячах чалавек, апрануты ў доўгі сіні плашч, пад леснікоўскай, з зялёным аколышкам, фуражкаю. Не пад настрой усім, надвор'ю і людзям, ён загаварыў весела, з прыязнай усмешкаю на смуглява-чырванаватым твары.

— А ты заварочвай у Нароўлю,— махнуў рукою на шафёра.— Мы тут на кані дабяромся.

Каб быў той конь... Па каня яму, як высветлілася, трэба было пеша хлюпаць пад дажджом кіламетраў шэсць ды шэсць назад. Але зусім не сумны, прывабны сваёй бываласцю, шчырай душэўнасцю голас («Вясною воз вады — лыжка гразі. Восенню вады лыжка — воз гразі. А хіба воз гразі — гэта гразь?») крыху супакоіў, падвесяліў, і я адчуў, што з гэтым чалавекам, прыкрытым ад непагоды фуражкаю ды плашчом лесніка, не прападзеш на любой лесавой дарозе, з машынаю ці без машыны, з канём ці без каня.

(Цяпер мне прыемна думаць, што тады, пры нашым першым знаёмстве з Анацкам, я не памыліўся ў ім.)

Не, у тыя дні пасля бабінага лета восень усё ж выдалася не такая ўжо гнілая. Яна адно спачатку напалохала шэрым нудным дажджом, нізкім цьмяным небам, халодным лістабойным ветрам, але была крута пераменлівая і,

мяняючыся, кожны дзень чым-небудзь спагадала лесу, агароду, скаціне, чалавеку: то сухімі, падшэрхлымі за ноч дарогамі, то ясным, зорным уначы і блакітным удзень небам, то сонцам, ад якога мякчэла зямля і лес успыхваў аблажным барвовым вогнішчам, то нечаканай пасля моцных вятроў цішынёю, гэтакай запаведнай, што нават крок лішні зрабіць боязна, каб цішыня, нібы шклянка, не рассыпалася пад цяжкім абцасам.

Жыць я запыніўся ў Анацкі.

Тым першым познім вечарам, калі я з'явіўся ў яго прасторнай, пасярод Хутара, хаце, калі быў з дарогі прывечаны восеньскімі дарамі агарода і лесу, за акном то шумеў, то аціхаў дождж, па чорных шыбах знадворку плыла-блішчала нябесная вада, а Сцяпан Пракопавіч Анацка бясконца ўспамінаў вайну. Чаму вайну? Можа, што за акном было халодна, мокра, гразка, няўтульна, а ваенныя дарогі радавога салдата зябкія і гразкія таксама, мала сказаць — няўтульныя. Ён жа якімі толькі дарогамі не пахадзіў ад сорак першага да сорак пятага! Адсунуўшы ад сябе хлеб і чарку, гаспадар хаты клаў на стол медаль за Прагу і ўспамінаў тыя, пад Прагай, акопы, той агонь, тыя незабытыя жахі, потым побач клаў медаль за Варшаву — успамінаў не менш пякельныя дні і ночы Варшавы, потым аднекуль з-пад стала даставаў пажоўклыя медалі за Берлін, за Будапешт, медаль «За адвагу», ордэн Славы — зноў успаміны плылі бясконца, як тая нябесная вада па шыбе, адглянцаванай цемнню ночы.

І яшчэ адна дарога вайны была ў Анацкі — дарога партызанскага праваднікa па родных, вакол Сяргеевага Хутара, лясах. Нядоўгая, праўда, месяцы тры, але памятная. Гэта калі трапіў у акружэнне, прыбіўся да Каўпака, да яго ляснога лагера пад Махаедавам. Была ў Анацкі ахвота і пра яе расказаць, ды за акном спынілася машына, грукнулі ў сенцах дзверы — на парозе з'явіўся чалавек: мокры, нейкі нясмелы.

— Прабачце, што ў гэтакі час...

Адкінуў з кудлатай галавы капюшон, лузнуў на грудзях у пятлю бліщчасты гузік, чырвонай мокрай рукою дастаў з кішэні паперку — падаў Анацку.

— Па дровы?..

— Паўдня буксавалі. А машына не свая, каб з пустым назад вяртацца...

Ляснік сумна апусціў галаву, маўчаў. Ох як не хацелася ўставаць з-за стала, думаць зараз пра лес, пра начныя пад дажджом дровы. Але стаяў перад ім чалавек, жывы чалавек, і падняў Анацка вочы на госця, згроб са стала ў далонь медалі.

Ужо два плашчы шасталі каля парога.

Дзве пары ботаў пратупалі ў сенцах.

Зноў загула машына.

За акном усё цякло і цякло са страхі, усё плескатаў пад сцяною ў капяжы дождж. Плыло па шыбе. А шыба — чорная. Ноч цяжкая, нібы гразь. Яшчэ адна Анацкава ноч. Ужо не салдацкая — мірная нібыта, леснікоўская. Але які гэта мір? Хутчэй — ці не працяг тых далёкіх начэй, тых акопаў пад Прагай, Варшавай, Берлінам.

Я ляжаў на ложку, не спаў, чакаў: вось рыпнуць у сенцах дзверы, пачуецца тупат цяжкіх Анацкавых ботаў... Ляжаў і чуў, як у дажджавой вадзе паласкаў начное радно вецер, як жвірам сыпаў па шыбах.

Ці то шумеў лес?

І лес, вядома. Шумела-гуло аблжна, навокал і па-над хатаю, нібы ў высозных густых шатах. Ужо бачыў я тыя зялёныя шаты, не асобныя шапкі дубоў, а зялёнае высознае неба, падпёртае стромымі, нібы калоны сабора, імклівымі, нібы маланкі, стваламі. Адчуваў жывую цеплыню дрэў — далонямі, тварам. Падумаў: ці не ад рэчкі Муцвіцы гай прыйшоў зноў да мяне, абступіў Анацкаву хату, закалыхвае Хутар сваёй трохсотгадовай песняю? Яго песню — тады яна была куды лагаднейшая — мне давя-

лося чуць улетку, калі разам з ляснічым Ведзьгуном мы хадзілі ад дуба да дуба, у чатыры рукі абдымалі кожнае дрэва, выхадзілі ўсю дуброву, усе яе тры гектары, і ні на адным дрэве не сашчапілі рук, хоць мужыкі мы з ім ладныя, рукі ў нас некароткія. Узялі ў памочнікі дырэктара лясгаса Сірапіна, у шэсць рук дуб ледзь абхапілі.

Я і раней сустракаўся з дрэвамі-волатамі. Ведаю, як яны могуць уразіць сваім мужным векам, неверагодна доўгай жывой памяццю, старэчай моцаю, прагаю да жыцця. Але тут уражвала не толькі гэта, не толькі доўгае жыццё і саракаметровая вышыня дубоў, якія ніколі не ведалі раскошы лугавых сваіх супляменнікаў, трыста гадоў стаялі ў шчыльным, нібы войска, страі, раслі «ў кажуху, але з голай галавою» і таму дасталі макушамі воблакі. Яшчэ ўразіў і водгук чалавечай душы на ўсю гэтую веліч, узлёт душы, яе раптоўнае жаданне ўзняцца на вышыню, дзе блакітнае неба рабілася смарагдавым, затканым узорамі дубовага лісця, прымацаванага да скляпення бялявымі шляпкамі жалудоў, здзівіла, што ў асяроддзі дубоў-волатаў і ты, чалавек, робішся нібыта парасткам дубровы, адчуваеш непатольную прагу глыбіні яе каранёў, вышыні яе неба.

Ведаю, як гаснуць з часам пачуцці, гаснуць — нібы вугаль, выкінуты з вогнішча. Застаецца адно — памяць аб іх. Застаюцца нейкія знакі. Сляды ў памяці.

А тут... Мінула лета, да свайго апошняга рубяжа дакацілася восень, а мяне зноў паклікала дуброва. Знайшоўся Сяргееў Хутар, якога я раней не ведаў. Знайшлася хата лесніка Анацкі.

Шуміць, лупцуе па хаце дождж. Нібы праз дождж — голас:

«Аднойчы ў дубах мяне заспела навальніца. У верхавінні лапоча дождж, а на зямлі суха, ціха. Дубавы стрэхі не прапускалі ні кроплі. Неўзабаве сцямнела. І вось тады пачалі біць маланкі. Я ніцма ляжу на зямлі, галаву ашчаперыў, а яны малоцяць, ажно дубы падскокваюць і тра-

шчаць, ірвуцца, што бомбы. Твар ад зямлі адыму, зірну перад сабою — бачу агонь, як ён з зямлі рве дубавы лапы, а яны зноў за зямлю хапаюцца. З-пад лап чорная зямля ўгару ляціць, чырвоныя іскры пырскаюць... Валасы на галаве дыбарам...»

Успамінаў Сірапін.

Не, не адна толькі душа вяла мяне сюды восеньскімі дарогамі. Вяла яшчэ і думка.

Я ведаў, што дуброва на Муцвіцы адзіная ў Беларусі, гэтакая па цяперашнім часе старая ды вялікая — трохсотгадовы, на цэлыя гектары гай. Але як яна, адзіная ў нашым сённяшнім цывілізаваным свеце, ацалела? Хто яе збярог? Што яна памятае? Што можа паведаць? Хіба не спакуслівa навесці масты ад дубровы, яе сённяшняга дня — у дні далёкія, якія яна памятае, да людзей, якія пад яе небам жылі і жывуць?

Нехта бразнуў клямкаю...

Тупаюць у сенцах боты. Ціха, асцярожна.

Адчыняюцца хатнія дзверы. Ля парога шоргае мокры плашч. Значыць, вярнуўся гаспадар...

Чуваць, як Анацка, стрымана пакрэктваючы, сцягвае з ног боты, як мякка, мабыць, у адных шкарпэтках, ідзе на кухню. Там, на кухні, уключае святло: жаўтлявая шчыліна між дзвярных створак успыхвае за маім ложкам.

Дзынкае шклянка.

Цяпер Пракопавіч нап'ецца малака ды забурыцца спаць, працаю здабыўшы права на самы салодкі сон.

Ноч нясе сны ў хаты, хлявы, гаі, бары.

Штосьці сніш ты, трохсотгадовы дзед, штосьці бачыш-чуеш пад шапатлівай лісцвянай коўдраю. Але — што? Табе сніцца даўняе жыццё, тое, што пабачыў і наслухаўся ты за свой доўгі век пад калыханкі вятроў!..

«Быў навокал лес і бор вялікі, і лавілі тут звяроў...»

Пад старасць сны заўсёды, мабыць, сівыя, павольна-

былінныя, як сама «Повесть временных лет», бо з вышыні высокіх гадоў спяшацца няма куды, а відаць далёка і шмат. Як далёка і шмат відаць нашаму дасведчанаму сучасніку: «Па ўзбярэжжы Дняпра стаялі непраходныя лясы, багатыя дубамі, таўшчынёю па два метры і болей. З 1839 года такія дубы пачалі нарыхтоўваць для суднабудаўніцтва ў лясах заходніх губерняў. Дрэвы бязлітасна секлі па прытоках Прыпяці, на сорак вёрст ад ракі. Сустракаліся дубы з клеймамі Адміралцейства часоў Пятра Першага...»

Гэта пазней. А раней?..

«За дуб, ссечаны без дазволу, цар Пётр Першы караў смерцю. Па берагах Нявы, Ахты і Тасны на кожнай пятай вярсце стаяла шыбеніца — чакала самавольнага парубшчыка. Калі лясныя наглядчыкі хавалі злачынцаў ад царскай кары, ім самім выразалі наздрыны, а потым гналі на катаргу. Ён жа, самадзержац Пётр Вялікі, забараніў секчы дубы сякераю, патрабаваў валіць іх пілою, каб ніводная трэска карабельнага дрэва не ішла ў глум. Ён жа, цар Пётр Вялікі, адсякаў рукі таму, хто труну рабіў дубовую, а не з мяккага дрэва. Калі цару данеслі, што мужык Марцін з вёскі Пянькі падрыхтаваў сабе труну, доўбленую з дуба, цар загадаў чацвертаваць мужыка Марціна, і царскія служкі выканалі загад цара, хоць мужыка Марціна ўжо трэба было падымаць з зямлі, вытрасаць з той доўбленай дубовай труны...»

А пазней? Што яшчэ бачыў і помніш, гай вячысты?

«Імператрыца Екацярына Першая скасавала лясную адміністрацыю Пятра Першага, лясы перадала ваяводам, і тады мацней заляскаталі па лясах сякеры, зашоргалі пілы, пасыпаўся лес. А яшчэ пазней царыца Анна вярнула лясныя законы і стражу Пятра, зноў выбіла сякеру з рук лесанарыхтоўцаў. Калі па Прыпяці плылі баркі, робленыя з дошак, апрацаваных сякераю, баркі затрымлівалі, каманду каралі розгамі, а гаспадара баркі абкладалі штрафам. А яшчэ пазней указы Пятра Першага, свайго

бацькі, адстойвала імператрыца Елізавета. Мужыка, які быў віноўны ў лясным пажары, царыца загадвала лавіць і кідаць у той лясны агонь...»

А потым?.. Пазней?..

«І пазней правілі лясамі законы царыцы Екацярыны Другой, цара Паўла Першага, цара Аляксандра Першага...»

А яшчэ пазней? Пасля цароў?..

«А тады ў мой дуброўны гоман прыйшоў Анацка...»

Сцяпан Пракопавіч?

«Не, той Анацка зваўся Дарафеем Лаўрэнавічам».

Але чаму ты, гай, шуміш пра Дарафея? То ты казаў пра цароў ды царыц, іх уладу над лесам, а то — Дарафей Анацка! Ці, можа, ён таксама быў цар?..

Абурана зашумеў вячысты гай, нервова залапатаў лісцем, густа забарабаніў па зямлі буйным дажджом, нібы сыпануў выспеленымі жалудамі.

Супакоіўся. Ужо зноў закалыхвае. Але не да сну, калі чуеш далёкі, як з-пад зямлі, стогн мужыкоў, калі ў вушах грымяць катаржныя кайданы, калі вецер свішча ў шыбеніцах і пахне жывой крывёю лобнага месца.

Ты скажы, стары гай, хіба той стогн людзей, тыя царскія жорсткасці ратавалі цябе ад смерці?

«Мяне ўратаваў Дарафей Анацка».

Зноў ты за Дарафея?!.

Пакрыўджана замоўкла дуброва, нібы адступілася ад хаты, зноў падалася за Хутар, на бераг Муцвіцы. Пуста навокал без дуброўнага гоману. Пустэча і вусціш каляным холадам сціскаюць душу. І навальваецца сон — нібы палёт у вечную бездань.

Світае.

Сівеюць у вокнах шыбы. Яснеюць сцены. Чуваць, як гаспадыня шоргае на кухні па загнеце скавародою, налівае ў яе з лыжкі. Шыпяць, пахнуць на ўсю хату дранікі.

Раптам адчыняюцца дзверы, і па-ранейшаму светлы, свежы твар Пракопавіча ўсміхаецца мне зычліва.

— Ужо не спіш, Філімонавіч?

— Устаю...

— А куды спяшацца? Ляжы, пакуль баба дранікаў напячэ. Паснедаем, тады паедзем у абход.

Пракопавіч стаіць у ботах, у цёплай, на футры, куртцы, пад леснікоўскай фуражкаю.

— Вы некуды сабраліся? — пытаюся я.

— Пайду лавіць каня. Ну, спі...

І ціха прычыняе за сабою дзверы.

У хаце ўсё мацней пахне дранікамі, усё ўвішней з кухні ў сенцы і з сенцаў у кухню бегаюць, пасабляючы маці, Анацкавы дзяўчаты — Тамара і Жэня,— за печчу пачынае каўкаць, нібы кацяня, малое, і там жа, за сценкаю, за цёплай печчу, пачынае спяваць маладая маці — Тамара:

Ой ты, коценька-каток,
Мой ты мякенькі лабок...

А я ляжу і думаю пра тое, што доўжыць мне начныя сны. Думаю: вось жывём мы, людзі, па сваіх хатах, хутарах, вёсках, гарадах, і ўсюды вакол нас стаіць лес, наш карміцель і паіцель, ратнік і нянька, святло нашых думак і пачуццяў, шуміць мірна, лагодна, разумеючы нас, усе нашы беды і радасці,— а мы яго як разумеем? Што ён стаіць адным нам на патрэбу? Каб зручней карыстацца лесам, каб даць апраўданне сваім сякерам ды пілам, падганяем ягоны век пад свой людскі век, адмяраем яму той жыццёвы шлях, які належыць не яму, а нам, людзям. Прыдумалі і даказалі нібыта, лес не пытаючы, што ў пяцьдзесят гадоў хваіне можна і трэба ўспорваць вены, гнаць з яе жывіцу, рабіць яе донарам, а ў семдзесят — секчы. Прыдумалі нам, людзям, зручны, але не ім, дрэвам, самой прыродаю вызначаны ўзрост маладосці, спеласці, старасці. Восемдзесят гадоў хвоі — перастой, сто дубу — перастарак. А дуброва на Муцвіцы стаіць трыста гадоў і ніякім перастаркам сябе не адчувае, шуміць молада, ствол — нібы звон, і не чапай яе — будзе стаяць у «перастойным»

узросце яшчэ сотні гадоў, да самага снегу кожны год трымаючы на сабе зялёнае дзябёлае лісце.

Можа, намі кіруе жорсткая неабходнасць пастаяннага карыстання лесам, яго багаццямі?

Вядома. Без гэтага чалавек не абыдзецца. Ды і лес не супраць дзяліць свае багацці з чалавекам, сваім гаспадаром. Лес шчодры. Але хоча, каб яго шчодрасцю не злоўжывалі. Ён самаахвярны. Але хоча, каб мы заўсёды памяталі, што ў нас з ім адзін лёс, адна ніва, палітая крывёю і потам, аглушаная стрэламі і стогнам, заблытаная палітыкамі ўсіх часоў. Была лесу і абарона. Якая? Царскія ўказы? Але хіба жорсткасць калі-небудзь ратавала зямлю і народы? Ніколі. Вось сведчанне: усяго праз трыццаць гадоў пасля смерці Пятра Першага ў багатых лясах па рацэ Тасне, якія Пётр агароджваў шыбеніцамі, рэвізоры Адміралцейства не знайшлі ні дубу, ні сасны.

Была здаўна лясная ахова? Сапраўды, былі — вальдмайстры, фарстмайстры, лясныя рэвізоры, губернскія і акруговыя ляснічыя, падляснічыя, кандуктары, палясоўшчыкі, лясныя і пажарныя старасты, лашманы, пазней — корпус ляснічых з вайсковай арганізацыяй, з яго батальённымі і ротнымі ляснічымі, унтэр-афіцэрамі, коннымі аб'ездчыкамі, ферстэрамі, пешымі і коннымі стралкамі, памочнікамі стралкоў пешых і конных, запаснымі стралкамі... Але вось што пісаў пра тую ахову ляснічы Казанскай губерні М. Зобаў: «Ад Пятра Вялікага ў нашым лесаводстве пераважала паднявольная праца. Варта згадаць палясоўшчыкаў і пажарных стараст, лашманаў, варту са стралковых батальёнаў, ваенных лясных стражнікаў з аплатаю 15 рублёў у год. Іх паднявольная праца была малакарысная, а паколькі яна была дармовая, дык не патрабавалася ніякіх думак і гаспадарчых разлікаў...» А што сказаць пра тую ахову, чытаючы сведчанне «Ляснога часопіса»: «...у віцебскіх лесаўладальнікаў ёсць імкненне пакончыць нават з невялікімі гаямі і зараснікамі. На лес пачалі глядзець як на адзіны сродак выбрацца

з цяжкіх абставін. І стогне лес пад сякерамі, высякаецца, незалежна ад парод і ўзростаў. Лес сякуць, вывозяць, сплаўляюць. Пануе ліхаманка, усе імкнуцца хутчэй збыць з рук лясны тавар». І тое ж самае — у Магілёўскай губерні, дзе «сустракаюцца стогадовыя дубы, неяк выпадкова абыдзеныя сякераю жыздрынскага абодніка ці клёпніка, ды бярозы, абадраныя дзягцярным заводам. Сасновы лес дзе-нідзе ацалеў, а большая частка яго сплыла па рачных шляхах у Рыгу ў выглядзе англійскіх брусоў ці мачт». І тое ж самае — у губернях Мінскай, Гродзенскай, Віленскай...

Асобныя выпадкі?.. Тады — вось думка буйнога вучонага-лесавода, прафесара Пятроўскай лясной акадэміі Ф. Арнольда: «Хто сочыць за рухам грамадскага і прамысловага жыцця Расіі... той не можа не бачыць паўсюднай лесавынішчальнай ліхаманкі, якая ахапіла рускіх лесаўладальнікаў».

Прыватнае сведчанне?.. Тады — адкуль з'явілася трывога ў царскага міністра дзяржаўных маёмасцей графа Кісялёва, які камандаваў лясным дэпартаментам і корпусам ляснічых, пра якога А. Герцэн сказаў, што «гэта, здаецца, вельмі прыстойны чалавек»: «Пры цяперашнім становішчы лясной справы ў Расіі не ўмацаванне сродкаў да памнажэння даходаў ад лясоў павінна займаць першае месца, а зберажэнне іх ад канчатковага вынішчэння, якое нам пагражае і будзе пагражаць...»

А за акном — лагодны голас:

— Дык станоўся, Жучок!

Знаёмы голас адразу вяртае мяне ў сваё, абжытае рэчышча думак і пачуццяў. Душа цяплее. Я ўсхопліваюся з ложка і падыходжу да акна.

На падворку — гаспадар з канём, чорным, нібы ноч, і сабака, таксама чорны, нібы ноч. Высалапіўшы язык, сабака падскоквае да конскай галавы, цэліць зноў і зноў лізнуць каня, дружбака, у морду, радасна скавыча, танцуе перад канём на задніх лапах, а конь боўтае галавою

то ўніз, то ўверх, як жартуе з сабакам, і ўпарта не жадае станавіцца ў аглоблі, куды яго пхае Пракопавіч.

Вось і дзень настаў...

Сяргееў Хутар — вёска маленькая, усяго дзесяць хат, і на кані мы хутка мінаем апошнія вокны злева, апошнія справа, уязджаем у лес. Тут сваё жыццё, не тое што у вёсцы, і мы чуйна прыслухоўваемся да кожнага шолаху. Але ці шмат пачуеш у мокрым ранішнім лесе позняе восені? Як кроплі дажджу, зрываючыся з дрэў, шпокаюць на дол, усланы апалым лісцем; як вавёрка, хуткая і рыжая, нібы агонь, шабуршыць на дубе; як Жук б'е капытамі ў мокры дарожны жвір, дзе-нідзе плёхае па вадзе, ды ляскочуць колы пад намі?..

Анацка спыняе каня. Саскочыўшы з воза, абкручвае лейцы вакол прыдарожнага клёна, выцягвае з-пад сена старую бярданку, ляскае замкамі і вешае яе на плячо.

Ля ног з'яўляюцца Мухтар і яшчэ адзін, чужы, кабель: буйны, шмат маладзейшы за Мухтара — відаць па ясных сухіх вачах,— але спакойны, нібы ў гасцях, рыжаваты грудзінаю і жыватом, з чарнявымі галавой і спіною. Як уранні да каня, Мухтар кідаецца да Анацкі, падскоквае высака, каб удзячна лізнуць у твар, а рыжы сядзіць убаку, спакойна пазірае на ўсіх.

— Ды адстань, сатана! — з велікадушнай усмешкай адмахваецца ад Мухтара Пракопавіч.— А ты?.. Што глядзіш, Жук?.. Во ён, ганчак Косцікаў...

І кабель — Жук, як конь Анацкаў. А Косцю я ўжо ведаю — другі ляснік на Хутары. Маладзейшы за Анацку і не такі, здаецца, гаваркі, як Анацка. Учора ўвечары ён завітаў у хату, калі мы сядзелі за сталом, вячэралі. Запрасілі да стала, але ён чамусьці не сеў — павярнуўся і пайшоў. Цяпер, убачыўшы Жука, я заўважыў, што кабель нечым нагадвае свайго гаспадара: буйны, спакойны, сціплы, трымаецца збоку, а вочы разумныя.

На адным месцы сабакам стаяць сумна, яны хутка адшукалі след і пагналі паперадзе сябе салодкі жывы дух, а мы з Пракопавічам увайшлі ў дубовы гай.

Нас амаль адразу запынілі чатыры калоны. Таўшчэзныя, але не цяжкія, не масіўныя, наадварот, лёгкія, стромыя, бо стаялі высозныя, усё роўна як прабівалі неба, утворанае ажурнымі шатамі, самкнутымі на той вышыні, дзе не пазнаеш: ці то пеніцца жывое лісце, ці то збегліся пазелянелыя воблакі.

Доўга не затрымаўшыся пад дубамі, Анацка пайшоў паміж іх далей, бо даўно з імі звыкся, а я знерухомеў, адчуўшы, што вось зараз Анацка расхіне за дубамі-калонамі дзверы ў галоўную залу сабора і адтуль, з-пад скляпення залы, на мяне абрынецца велічная арганная музыка — узнясе на сваіх крылах пад самыя шаты. Знерухомелы, я чакаў. Але маўчаў арган. І тады я пачаў супакойвацца, як у звычайнай хаце. Асцярожна пераступаючы цераз магутныя, выпучаныя з зямлі, гарбата-пеністыя, вузлаватыя, ззелянелыя ў мяккай замшэласці дубавы лапы-карані, я прайшоў паміж калон следам за Анацкам і апынуўся ў сапраўды незвычайнай зале. Расхінулася нада мною таямнічае скляпенне на калонах, ужо іншых, як тыя чатыры, але таксама велічных, і хоць калоны акружалі магутныя, цесна ад іх не рабілася. Расхінулася прастора, якой не ўбачыш ні ў якім саборы. Ад вышыні кружылася галава. Чаравала запаведная цішыня і чысціня, мастацкая прадуманасць усіх аб'ёмаў і ліній, фарбаў, жывапісу, улада ўрачыстасці і прыгажосці, той напоўненасці духоўнасцю, якая можа сустрэцца адно ў прыродзе, дзе мастацкі геній працаваў не адну бяссонную ноч, нават не год — стагоддзі.

Я стаяў утрапёны, забыўшыся на Анацку, не бачачы яго перад сабою. Адно голас пачуў — побач:

— Ты, Філімонавіч, пытаўся пра Дарафея Анацку? Дык гэта яго абход. Ён тут лесаваў з пятнаццатага года. Да самай смерці. А паміраючы, перадаў мне. Цяпер мой

абход. А я Дарафею пляменнікам даводжуся. Ён, значыцца, мой дзядзька.

— Родненькі?

Маё здзіўленне Пракопавіч сустрэў шчаслівай усмешкай:

— А-га, родненькі.

Я глядзеў на лесніка, як на нечаканае адкрыццё, разглядаў, нібы перада мною сам Дарафей Лаўрэнавіч.

— Мне ж яшчэ ў Нароўлі казалі: хочаш ведаць, як выжыла Махаедаўская дуброва, пашукай Дарафеевы сляды ў Сяргеевым Хутары.

— Як жа! Памятаю Лаўрэнавіча. Забыць — грэх.

— Які ён быў з сябе?

— Нявідны. Як і я. Маленькі, сухенькі. Але вусы!.. Вусы шыкоўныя!

Мне ўспомніўся фотаздымак. Там стары Анацка сапраўды выглядаў маленькім, сухенькім, а вочы на свет глядзелі глыбокія, запалыя, поўныя агню, думак. Ён стаяў са стрэльбачкай на плячы каля сваіх дубоў, і такі здаваўся дробны ля іх, асілкаў, і такія яны здаваліся магутныя побач з ім, малым.

Мне хацелася засыпаць Пракопавіча пытаннямі пра чалавека, што цікавіў моцна, як гай на Муцвіцы, але ляснік павярнуўся і пайшоў далей, у глыбіню дубровы.

Я рушыў следам.

Пракопавіч крочыў нетаропка, злева і справа паспяваючы агледзець кожнае дрэва, ад камля да шатра, прыслухацца да кожнага ляснога шолаху. Крок у яго быў мяккі, нячутны, як у чалавека ляснога, непрыкметна вісела на плячы бярданка, і мне здавалася, што наперадзе крочыць сам Дарафей Анацка, таму я знарок адставаў, каб бачыць яго разам з усім гаем, з усімі яго калонамі і смарагдавым высозным скляпеннем, у акружэнні ўсяго ляснога харавства. Чым далей мы ішлі, тым усё больш прыгожа і ўрачыста гай расхінаў сваю веліч. Як бы не толькі чалавек з бярданкаю за плячыма развінаў перад

сабою дуброву, разводзіў у бакі дрэвы-калоны, але сама дуброва развіналася, вяла свайго гаспадара з аднае залы ў другую, з радасцю паказвала яму сябе, сваё багацце. Яны паміж сабою былі ў доўгім і верным сваяцтве — гэта кідалася ў вочы.

Блізка забрахалі сабакі. Анацка спыніўся.

— Мухтар, сюды! Жук!..

Брэх не сунімаўся. Анацка кінуўся да сабак.

Паміж дрэў ляжала дубовая вывараць, пень ды шапка сплеценых каранёў, грувасцілася высака, як на тры чалавечыя росты, а пад вываранцю валтузіліся сабакі.

Анацка нагою адкінуў аднаго, другога, схапіў за каршэнь, вывалак з-пад выварацi: у ямцы пад вываранцю, пад таўшчэзнымі, заглыбленымі ў зямлю каранямі, прытуліўся стары вожык, ружовымі бліпчастымі вочкамі пазіраў на нас, наставіўшы іголкі, сядзеў спакойна, нібы маленькі дыназаўр, глядзеў сумна, як з нейкіх дагістарычных часоў. Звычайны вожык, сто разоў бачаны ў прыхатніх агародах, па малінніках, жыхар любога лесу, рова, палыновага гушчару, ён здаваўся тут, у мудрагелістым лабірынце каранёў, чорных і пакручастых, экзатычнай мініяцюраю сапраўды дагістарычнага веку, істотаю настолькі старажытнаю, што век дубоў у параўнанні з яго векам быў векам матылька, і, не столькі падумаўшы, як адчуўшы гэта душою, я здзівіўся, як гэта ён, малы вожык, змог ад тых далёкіх часоў першабытнасці пранесці, данесці да нас, у наш сённяшні дзень, свае іголкі, колькі разоў яму, мужнаму жыхару каварнай зямлі, давялося абысці, абхітрыць, пасіліць смерць, вынішчэнне, каб жыць побач з намі, цывілізаванымі істотамі дваццатага стагоддзя, і якія ўдзячныя мы павінны быць прыродзе, што яна дала яму, мініяцюрнаму дыназаўру, гэтакую надзейную сарочку, за якую ні рукамі, ні зубамі не схопішся. Гэта зразумеў і Мухтар. Ён сядзеў і бездапаможна калаціўся, як пабіты. А Жук яшчэ заходзіў то з аднаго, то з другога боку, доўгай лапаю спрабаваў выграбці вожыка з ямiны.

Лапа калацілася, нібы апечаная, і сабака нарэшце таксама адышоў, аблізваючыся.

Анацка прысыпаў вожыка сухім лісцем. Сабакі сумна пашыліся ў гушчар.

— А дуб гэты мы раскрыжавалі два гады назад,— успомніў Пракопавіч.— Пад сорак раўметраў дроў нарэзалі. Га?! Як лёду. Тры здаравушчыя машыны загрузілі.

— Здаволіўся жыць?

— Зямля трымаць яго змаглася, правалілася пад ім. А то б яшчэ жыў. Піла зубы ламала. Сякера адлятала. Вось табе і перастарак.

Анацка падышоў да жывога дуба, паклаў на яго далоні, задраў угару галаў, доўга глядзеў у зялёны верх, усміхаўся, нібы першы раз бачыў.

Салодка ўздыхнуў:

— Карабельны!

Дуб стаяў высозны і стромы, быццам баравая сасна ў спелыя гады, і ствол, як у баравой сасны, быў чысцюткі, ані сучочка на метраў дваццаць, да самай зялёнай шапкі, падкінутай у неба, падшытай да маналітнага дуброўнага шатра.

— А ці адсюль не вазілі карабельны дуб? — думаю, зноў здзіўлены, як дажыло дрэва да нашага веку.

— Багата вазілі,— кажа Анацка.

— А гэты?

— Гэты гаёк у сарочцы нарадзіўся...

Садзімся на пень. Анацка закурвае, а я падбухторваю яго да ўспамінаў, што маглі б хоць збольшага высвятліць мінулае дубровы. Яму, пляменніку Дарафея Лаўрэнавіча, гэта лягчэй зрабіць ад таго часу, як тут пачаў лесаваць дзядзька — нешта з расказаў старога лесніка засталося ў галаве пляменніка? Ды тая мяжа — 1915 год, не дужа далёкая, калі прымераць яе да ўсяго жыцця дубровы. А што там — за пятнаццатым? З вельмі скупога ведання тагачаснасці Анацка і я можам адно здагадвацца, што калі ў 1839 годзе ў заходніх губернях, у тым ліку на Прыпя-

ці, пачалі нарыхтоўваць дубы на будаўніцтва флоту, дык да Муцвіцы, да Сяргеевага Хутара нарыхтоўшчыкі не дабраліся, бо дубы секлі не далей, як за сорак вёрст ад сплаўных рэк, тут — ад Прыпяці. Сама прырода паклапацілася схаваць дуброву ў глухамань, далей ад рэк і дарог. А іначай даўным-даўно скацілася б яна ў раку, паплыла б, як плылі іншыя дубы палескія, уверх па Прыпяці, па Агінскім канале, Нёмане, праз Мемель — у Кранштат на суднаверфі, або другім водным шляхам: уніз па Прыпяці, па Дняпры, Бярэзінскай сістэме, Заходняй Дзвіне, праз Рыгу — у той жа Кранштат. Праўда, гісторыя захавала звесткі, што яшчэ раней «лясныя дачы па Прыпяці былі... месцамі нарыхтовак дубовых лясоў для Чарнаморскіх партоў». Але раней — не лягчэй, наадварот — яшчэ цяжэй давалася людзям вывазка дубовых кражоў.

Пачалося дваццатае стагоддзе, самае грознае для Махаедаўскіх дач. Надзвычай багатыя спелымі дубамі і соснамі, яны зрабіліся вялікай спакусаю купцам, прамыслоўцам. Ужо ў 1905 годзе правялі канал Жалонь — Прыпяць да молевага сплаву. А другі купец праклаў з Махаедава да Нароўлі вузкакалейку, каб па ёй вывозіць лес на мясцовую суднаверф. А ў чатырнаццатым годзе яшчэ адзін купец-немец пагнаў адсюль чыгунку на Оўруч, Вільчу.

Ужо не выпадковым наскокам, жалезнай хваткаю, раскінуўшы чыгункі і каналы, новы век з'явіўся ў пушчу. Вось тады, у 1915 годзе, у лясную стражу на Сяргеевым Хутары заступіў Дарафей Лаўрэнавіч Анацка.

— Помню,— прыжмурыўшы вочы, заглядае ў былое Ракопавіч,— як дзядзька Дарафей рабіў лесніком, а яго Аляксей, сын родны, начальнікам лесаўчастка, вёў нарыхтоўкі лесу. Аляксей лес таксама любіў, зла яму не хацеў. Але ж у яго работа — валі ды вазі. А дзядзька кожнае паваленае дрэва нібы з свайго сэрца выдзіраў. За кожнае, бывала, схварэе. Аляксею лесасеку адвядуць, а дзядзька сына ў дзялянку не пускае. І гэтае, кажа, не дам секчы, і гэтае. Ты, сын, кажа, хочаш мяне распрануць, голым на

людзей пусціць? Хочаш зганьбаваць бацьку? Не ўдасца. Які я, кажа, буду ляснік, калі ў мяне лясочку для душы не застанецца, калі не пакіну пасля сябе памяць у лесе? Ён і нас, маладых лeснікоў, гэтаму вучыў. Казаў: той не ляснік, хто пасля сябе памяць-лес не пакідае. Ці памяць-бор, ці памяць-гай. Каб людзі і пасля цябе прыходзілі на твой лес памаліцца. Гэтакі быў дзядзька Дарафей. Не глядзі, што маленькі, сухенькі. Сіла ў яго была на дзесяць абходаў. Дальбог! Бывала, прыйдзеш у маладняк рабіць рубкі догляду, дык ён жа цябе ў дзесяць патоў угоніць, пакуль дасць дрэўца ссекчы. І гэтае, кажа, не сячы — акно будзе, і гэтае не чапай — жыць хоча. Кожнае каліва яму шкада. Сам бачыў, як у дзядзькавым абходзе мужык хацеў выразаць пугаўё, а дзядзька папёр яго з лесу. Кажа, у маім абходзе пугаўё не расце. У мяне дрэвы растуць. На балоце пугаўё пашукай. Вось гэтакі быў нябожчык Дарафей.— Пракопавіч дакурыў цыгарку, сунуў пад абцас бычок, паслухаў, як брахалі сабакі, устаў з пня, зручней прыладзіў на плячы бярданку.— У Мухтара песня, чуеш, залівістая. А Жук — басуе. Ці не ладзяць яны там трымаюць? — Зноў прыслухаўся. Я падумаў, ці не здыме ён зараз бярданку з пляча, ці не кінецца на сабачы лямант, бо казаў, што ёсць нейкая ліцэнзія, але ляснік стаяў спакойны.— А Дарафей... Што Дарафей?.. Пры ім дачу пляжылі моцна. І ў дваццатыя, і ў трыццатыя. З дваццаць восьмага года дубы ў Германію адгружалі. Везлі адсюль у Ленінград, Уладзівасток, Кранштат — на верфі. І ці яму, Дарафею, лёгка далася дубраўка? Ой цяжка! Але быў такі: калі ўжо загародзіць дуб сваімі вусамі, то любы адступіцца — хоць ляснічы, хоць дырэктар, хоць сам бог...

Пракопавіч усё ж рушыў на сабачы лямант, але ішоў нетаропка, ішоў і спыняўся то каля аднаго дуба, то каля другога. На адным памацаў старое рубішча, след маланкі — кару сагнала вузкай палосаю, зверху ўніз, на следзе пасохла рудая мяздра; на другім дубе палоса ляжала шы-

рэйшая, на добрую далонь шырынёю, чорная, штопарам абвівала дрэва — тут маланка некалі паклала сваю разору не напрамкі, а як лягчэй, па слаі, які ў дрэве ішоў кручана, пасля нехта раскладаў пад дубам вогнішча, нейкі дзікі начлежнік, і агонь высмаліў усохлы след маланкі, па той самай спіралі, нідзе не пасягнуўшы на жывую кару, бо не па зубах агню было жывое дрэва; спыніліся каля трэцяга дуба — метры на чатыры ад зямлі ў ім зеўрала дупло і стаяла пры дубе, пры дупле, доўгая арэхавая хлабысціна: Пракопавіч узяў яе, адразу зрабіўся пахмурны, злосны — чахнуў хлабысціну аб калена, яшчэ і яшчэ раз, адкінуў у кусты.

Бліснуў на мяне вачамі:

— Багацеюць людзі.

— На чым? — не зразумеў я.

— На вавёрках. Гэтым ражном — каб ён у іх па плячах хадзіў — выпаруць вавёрку з дупла, стрэльбу ўскінуць і... душа з яе вон. Чаго цярпець не мог дзядзька Дарафей. Каб людзі цягаліся па лесе зброддлівымі катамі. Ласыя...

Сабачы брэх не сунімаўся. Памаўчаўшы, Пракопавіч шыбануў да таго ляманту.

За дубровай перасеклі квартальную лінію, прадраліся праз густы алешнік і на ўзгорку пашыліся саснячком. Культуры былі маладыя, да сонца цягнуліся гадкоў дзесяць, рубкі догляду, прарэджванне тут ляснік яшчэ не рабіў, і сасняк, перасыпаны бярэзнікам, стаяў глуха, непраходна, але Пракопавіч лез праз яго спрытна, нібы рысь, я ледзь паспяваў за ім. Ужо блізка ад сабак спыніліся, застылі.

— Бачыш? Прыгажуны!

Перад намі стаялі лось і лоша, абапал якіх скакалі, звягаючы, сабакі.

— Я іх у сваім абходзе трэці год берагу.

— Старыя?

— І малады з імі. Недзе блізка ходзіць.

Магутны рагач стаяў горда, высака ўскінуўшы галаву, глядзеў у наш бок, а лоша спакойна паскубвала траву. На сабак яны вельмі не зважалі, як тыя ні шалелі. Мне хацелася падысці бліжэй, я зрабіў яшчэ крок, другі, ды раптам пад ботам хруснула сухая галінка, і ласі, у тое ж імгненне, здрыгануліся, лёгка панесліся праз бела-ружова-зялёны маладняк, пакідаючы за сабою сабачы брэх і рассыпісты пошчак капытоў.

— Мухтар, назад!.. Жук!..

Мы выйшлі на дарогу, да каня.

Пракопавіч адвязваў ад дрэва лейцы, я ўсаджваўся на возе, калі з'явіліся сабакі. Гарачыя, потныя, асабліва стары Мухтар, нервовыя ад няўдалага гону, яны ніяк не маглі супакоіцца, кружылі вакол каня і Пракопавіча, скавыталі, як плакалі.

— Не тужы, Мухтарык,— супакойваў Анацка свайго кабяля і, ужо едучы далей, апраўдваў ні то сабаку, ні то сябе: — У яго правілы. Убачыў на маім плячы стрэльбу, значыць, павінен адшукаць і трымаць звера. Ці на мяне выгнаць. А я, па правілах, павінен вушамі не хлопаць, лавіць звера на мушку. Калі стрэльбы няма, тады Мухтар бяжыць адзаду моўчкі, увесь дзень будзе носам боты мне чысціць. А цяпер... І стрэльба на плячы, і звер пад носам, а стралок маўчыць. Такога Мухтар не разумее. Але дзядзьку майго, нябожчыка Дарафея, царства яму нябеснае, за гэтакую раскошу таксама часцяком не разумелі. І сабакі, і людзі. Ускіне, бывала, бярданку — і апусціць. Не магу, кажа. Свет лясны, кажа, і без майго стрэлу бяднее. Ці я, кажа, вораг роднае пушчы?.. Но-го, Жук!..— Раптам спытаў: — Дык куды цяпер паедзем? Куды Жук павязе ці самі дарогу пакажам?..

Цудоўныя гэта былі дні. Можа, самыя ясныя дні мае гэтае восені. Незалежна ад таго, ліў дождж пад нізкім шэрым небам альбо ў ахвотку ззяла сонца ў чыстым, недзе па-над самым лесам ледзь-ледзь асмужаным небе.

Светла і ясна было на душы.

Выдаліся дні, калі настрой душы вельмі лёгка зліваўся з настроем цвяроза шапатлівых гаёў і бароў, астылых лясных дарог, апусцела супакоеных палёў, з тым бляклым святлом сонца, якое колькі дзён лашчыла і пашу за хутарскімі хатамі, і пасохлую раллю агародаў, і кароўскія ды конскія спіны, пакруглелыя за сытнае лета, і сухія аконныя шыбы, і лясныя сцены вакол Хутара, і твары вясковых кабет і дзяцей, і кожны лісцік з дрэва, які нетаропка пралятаў па-над вёскаю ад пушчанскае вышыні, палаючым кавалачкам золата ці срэбра апускаўся на страху ці дарогу, ганак ці агарод. У гэтай шчаслівай еднасці з жыццём і настроем яшчэ дзень-два назад незнаёмага мне Хутара я выходзіў з хаты, азіраўся, бачыў Пракопавіча, які заклапочана стаяў над дубовым кражам, ішоў да яго, каб пасобіць распілаваць краж на чурбакі, потым у дзве сякеры калолі дровы, а зрабіўшы адну справу, ішлі за вёску па зялёнкі, прыносілі і пачыналі смажыць на абед ці вячэру, альбо, пераскочыўшы праз жардзянае прасла, я кіраваў у агарод да дачок Сцяпана Пракопавіча, браў капаніцу і ахвотна пасабляў ім, Тамары і Жэні, капаць бульбу. Увечары ўсёй талакою вазілі бульбу ў ямку, за сталом спраўлялі дакопкі, гулялі ў падкіднога, а пасля — удвух з Пракопавічам пад густа высыпанымі ў небе зорамі ішлі ў самы канец вёскі, на выган, да старэнькай хаткі лясунні Мар'і Прыполак, каб паспяваць з ёю песні. Жыла старая адна, жыла ціха, небагата, і голас мела ціхі, а падпяваць ёй было цікава.

За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зялянога.
Пад тым дубам крыніца стаяла,
А ў крыніцы дзеўка ваду брала...—

ні то сумная, ні то светлая — усяго хапае — песня.

Нават сумныя радкі Мар'я Тарасаўна спявала светла. Моцы ў яе голасе не было, але як ззяў твар! Асабліва калі яна спявала пра Кармалюку: «Хлопец добры Кармалюка,

ён па свеце ходзіць, не адну дзяўчыну з розуму ён зводзіць». І прыгожы, як маладое жыццё, і дужы, як дуб, і лёгкі, як вецер, і справядлівы, як зямля, і горды, як арол. Кармалюка не толькі тое робіць, што кахае дзяўчат і маладзіц, але ён яшчэ прымушае хлопцаў брацца за вілы вострыя, начаваць у засідках на паноў, каб усёй грамадою дзяліць панскае багацце.

— Гэта ж не песня, а казанне,— заўважаў задуменна Анацка.

— Такое казанне хіба не песня? — шчыра дзівілася з яго слоў старая пявуння і пераможна ўсміхалася.

Не, гэта не перабольшанне: твар яе маладзеў, калі яна спявала і думала пра маладога Кармалюку. У гэтую хвіліну яна нібы глядзелася ў люстэрка, якое Кармалюка падносіў маці, дачасна састарэлай і збедаванай у адзіноце — колькі гадоў не бачыла сына-гуляку! — у тое люстэрка, у якім маці Кармалюкі бачыць сябе нечакана маладой і прыгожай, такой прыгожай, ажно сын закахаўся ў маці.

Песні Мар'і Прыполак. Чаму яны здаюцца песнямі старой Анацкавай дубровы? Чаму іх успрымаеш як песні-ўспаміны старых дубоў пра сваю маладосць?..

Сапраўды, дзіўныя стаялі дні. Ціхія, ясныя. Гэтакія дні, бывае, дораць сустрэчу з нейкай вышэйшай Ісцінай.

Дарэчы, восень, асабліва яе сярэдзіна і сход, звычайна абвастраюць у душы чаканне новай, вышэйшай ісціны. Гэта надыходзіць як патрэба ў жыццёвай праўдзе, яснасці, як вынік пражытых, часам пуста і марна, дзён. Ні ўзімку, ні ўвесну, ні ўлетку я не адчуваю гэтага з такой вастрынёю, як увосень. Зіма звычайна дорыць жыццё спакойнае, быццам працяглы сон; увесну на ўзлёт шугаюць пачуцці, душа; летам проста мала часу на роздум і чаканне, тлуму больш, чым яснасці; затое восень — пара куды большай ісціны, праўды, большага сэнсу.

Вось ляжу...

...ляжу на возе за спіною ў Анацкі, калачуся дробненька разам з возам і возчыкам на паплеценай каранямі дрэў дарозе, гляджу па баках на сасniякі, бярэзнікі, рэдкія прыдарожныя дубы і моўчкі слухаю то Анацку, то лес. Калі ж лес маўчыць і маўчыць мой возчык, тады находзіць думнасць.

— Скажыце, Пракопавіч, як правільна,— пытаюся,— Махаедава ці Мухаедава?

— Як напішаш, так і правільна,— адказвае Анацка.— Былі часы, калі наш брат паляшук і мох і мух еў...

Наперадзе неяк раптам ды моцна загула машына, і Жук сам, не чуючы лейцаў, выбірае гал збоч вузкай лясной дарогі, зварочвае. Машына, зраўняўшыся з возам, спыняецца. З кабіны, з абедзвюх дзверцаў, вылазяць маладыя хлопцы — стаяць на падножках.

— Прывет, Пракопавіч!

Анацка прыдзірліва глядзіць на іх.

— Га, пчолкі на мядок?

Рагочуць хлопцы.

— Што ж вы зноў да мяне?

— А да каго ж нам, Пракопавіч? У вашым абходзе самы ўзятак! — зноў з рогатам.

— Ну-ну, вазьміце, калі знойдзеце.

Я ўжо здагадваюся, што за хлопцы. Па машыне, па тым адзіным карчы, што самотна качаецца ў кузаве. Па ўсім відаць, што яны з лесаўчастка, тыя самыя, што карчуюць па лесе старыя пні, возяць на смалакурню. У кузаве і бур стаіць, і мех з узрыўчаткаю.

— Значыць, шкадуеце нам карчы? Хаваеце?

— Няма чаго іх шкадаваць. Але і паказваць не хачу. Я ж вам сто разоў казаў. Навучыцеся рабіць сваю справу культурна, тады буду пасабляць. А як вы робіце? Адзін корч з зямлі выдзераце, а на дзесяць метраў вакол сябе маладняк упляжыце. І хоць бы ўзялі ў рукі рыдлёўку, ямы пазакідалі. А то пасля вас ідзеш па лесе, быццам па снарадных варонках.

— То ж у лесе. Не ў хаце.

— Ну дык і едзьце па сваіх хатах. А тут вам рабіць няма чаго. Ці ведаеце, як дзядзька Дарафей пасля вайны лес у парадак прыводзіў? Дзе якая снарадная варонка, там ён на каленях зямлю выпоўзваў. Што мінёр. Кожную варонку засыпле, кожны след вайны дзярнінай накрые. А вы?..

— Дзівак быў ваш Дарафей.

— Ну, каціцеся!..

Так і не сказаў Пракопавіч хлопцам, дзе ў яго абходзе смаляныя карчы, як тыя ні стараліся выведаць. Раз'ехаліся. Жук патрухаў далей, Анацка маўчаў, а я думаў пра сустрэчу з хлопцамі, пра іх размову і пра тое, што ў гэтай размове зноў узнік успамін пра Дарафея. Дзіўна. Аб чым размова ні зойдзе, Дарафей тут як тут, на языку і ў памяці. Нібы сядзіць з намі побач на возе, бачыць і чуе ўсё тое, што бачым і чуем мы, пра што ні загаворым — абысці яго нельга. Але чаму кожны крок у лесе, свой і не свой, Анацка прымервае да дзядзькавага кроку? Можа б, я і спытаўся ў яго пра гэта, ды раптам Пракопавіч павярнуўся да мяне, утаропіўся пранізлівым, ледзь засмучоным паглядам, а потым, нібы штосьці ва мне зразумеўшы, зноў адвярнуўся, усеўся ямчэй і загаварыў:

— Я так скажу. Іншы чалавек і рослы, і ладны, і косць у яго шырокая, а душа — дзіўна малая, з авечы хвост. А як у дзядзькі Дарафея? Сам дробненькі, сухенькі, нібы трэсачка, зусім нявідны гражданін, а душа? Калі не ўсю зямлю, дык Махаедаўскую пушчу абдымала ўсю, да апошняга дрэўца, да самага дробнага парастка.

— Ці можа адна душа ўсё абняць, сагрэць?

— За ўсё не скажу. А ў сваім лесе... кожан парастак!

— Кожны бачыць і ведаць?

— А як жа? Той не ляснік, хто не ведае ў сваім абходзе кожан парастак. Абавязкова!..

У гэтай размове ён і сам, Дарафей Анацка, здаваўся мне магутным пушчанскім дрэвам, душою пушчы. Калі я

ўяўляў яго дрэвам, дык адчуваў, што ў гэтага дрэва і верх высозны, як у самага вячыстага дуба, і корань глыбокі, разрослы, назаўсёды з роднай зямлёй замацаваны, як у дуба. Дрэва было жывое, вечна жывое. Мяне не бянтэжыла, што Дарафея даўно няма. Быў Сцяпан Анацка, адданы дзядзькавым лясным запаветам,— цяпер ён быў тым галоўным дрэвам пушчы, яе высокім верхам і глыбокім коранем. Я слухаў яго, як саму пушчу, як Дарафея Анацку, і чутае выклікала ў памяці асацыяцыі, бо не было выпадковым, часовым — было водгуллем і Дарафеевых, і яшчэ ранейшых часоў.

Вось ён сказаў: «Той не ляснік, хто не ведае ў сваім абходзе кожан парастак»,— а я адразу згадаў старонку з нядаўна прачытанага ў Гомелі рукапісу ўспамінаў беларускага ляснога акадэміка, прафесара Вячаслава Іванавіча Перахода «Мой жыццёвы шлях».

Пераход апісвае, як у 1916 годзе, працуючы рэвізорам заводскіх лясоў горнага Урала, ён прыехаў у адно з лясніцтваў.

«Ляснічы добра вымуштраваў стражу, яна называла памочніка ляснічага — «ваше благородие», ляснічага — «ваше высокоблагородие», а калі я спытаў, колькі дзесяцін лесу ў аб'ездчыка, той адказаў, прыклаўшы руку да казырка:

— Не могу знать, ваше превосходительство».

Далей:

«Калі я пад'ехаў да канцылярыі лясніцтва, ля дома стаяў сам ляснічы ў сюртуку, перад шарэнгаю аб'ездчыкаў...

— Честь имею доложить! — адрапартаваў ляснічы.— Во вверенном мне лесничестве все обстоит благополучно.

— Очень рад,— адказаў я.

Зайшлі ў дом.

У прачыненыя дзверы я ўбачыў стол, застаўлены ядою і піцвом. Направа была канцылярыя. Я пазнаёміўся з планам лесанасаджэнняў і сабраўся ў лес.

— Пожалуйте закусить с дороги,— прапанаваў ляснічы.

— Спасибо. Я уже завтракал в пути. Сначала проедем по лесу, посмотрим пользование, а затем вернемся.

Ляснічы быў незадаволены, але пагадзіўся і пайшоў даваць распараджэнні наконт каня і фурмана, якім — вядома! — аказаўся вопытны аб'ездчык.

Мы паехалі.

Не паспелі ад'ехаць тры кіламетры, як сустрэлі возчыка з двума хлыстамі. Я запыніў яго:

— По какому билету заготовлены? Разрешение на вывозку?

Дазволу на лес не было.

Паехалі далей. Пытаюся ў ляснічага:

— Как называется эта речушка?

Ляснічы не ведаў, маўчаў. Уратаваў аб'ездчык на козлах:

— Сухокаменка, ваше превосходительство! Летом пересыхает, сухие камни лежат, а весной бурливая.

Зноў сустрэлі мужыка. З драўмі.

— Ордер на дрова?

— Никак нет-с! Мы с разрешения-с...— ён паказаў на фурмана.

Паехалі далей. Адкрылася гара. Я спытаў:

— Что за гора?

Ляснічы не ведаў. Зноў уратаваў фурман:

— Разбойничья, ваше превосходительство!..

Сустрэлі яшчэ дзве падводы. Адну з драўмі, другую з бервяном. І зноў — незаконныя вывазкі.

Малюнак быў зразумелы: ляснічы ў лесе не бываў, лесу не ведаў, а стража гэтым карысталася, распрадавала лес як хацела, багацела за кошт казны. Лес плакаў...»

Анацка спыніў каня.

Я чакаў: зараз нешта скажа, неяк зрэагуе на пачутае. Але ён не варушыўся. Тады я прадоўжыў успамін Перахода:

«Вярнуліся ў лясную канцылярыю. Яна была ў поўным парадку. Кнігі прашнураваныя, касавыя справы кожны дзень падбіваліся, вынікі гаспадарчыя распісаны.

І раптам:

— Н-н-не... не угодно ли проверить в наличности, господин коллежский ассесор? — спытаў ляснічы.

У мяне ў пятліцах былі дзве палоскі і тры зорачкі, а ў яго адна палоска, ён быў тытулярны саветнік. Уставіўшыся на мае пятліцы, ляснічы пачаў выварочваць свае кішэні.

— Нет! — разгубіўся я.— Чужие карманы проверять неприлично. Вам надо иметь несгораемый ящик. На Урале, кажется, железа много...

Вечарам мы пілі чай».

Я скончыў — Анацка сядзеў задумлівы. Выпадак, апісаны Пераходам, уразіў яго. Адно я не мог зразумець: што канкрэтна ўразіла? Якая думка? Які вобраз? Можа, напышлівыя звароты — «ваше благородие», «ваше превосходительство»,— што так непрывычна чуць сёння?

Нарэшце Анацка заварушыўся, заўздыхаў, нібы вызваляючыся ад цяжкіх думак.

— Скажы, Філімонавіч, гэты чалавек з нашых?

— Дзед яго жыў у Нароўлі, плыты ганяў.

— Я гляджу, што ён ведае лясную службу. Добра сказаў. Лес заўсёды плача, калі ляснік ці ляснічы мала ў ім бываюць. Гэта і дзядзька Дарафей казаў. Была ў Дарафея хата, была жонка, былі дзеці, а ў лесе дняваў і начаваў. Спытай, хто яго часцей бачыў — лес ці жонка? Яна ў Махаедаве жыве і цяпер. Спытай пра старога. Яна скажа, што забыць Дарафея не можа, цана яму высокая. А што памятае пра яго — памаўчыць, пашле да лесу, бо, скажа, лес на яго болей нагледзеўся, як яна, у леса трэба пытацца пра Дарафея. Яна не паспела на мужа нагледзецца. Лес не даў...

Анацка не спяшаўся вывесці мяне за межы свайго абходу, дубровы і Муцвіцы, мне нават пачынала здавацца, што ён не хоча паказаць сцежкі далёкія, за сваімі капцамі. Можа, тут была нейкая мужыцкая хітрасць?

Вось сядзім за сталом, вячэраем. Пракопавіч пытае: «Скажы, Філімонавіч, ты прыехаў пісаць пра нас кніжку?» На шчырасць — шчырасцю. «Можа, буду, а можа — не. Як атрымаецца»,— адказваю. «А пра мяне, калі атрымаецца, напішаш?» — «Магчыма. Каго ж я ў Хутары ведаю лепей, як вас? Ваш хлеб ем, ваша малако п'ю, ды і... акрамя малака... У вашай хаце сны па начах бачу. Чыёй хаце ў Хутары мне яшчэ пакланіцца, як не вашай?» — «І пра мой лес напішаш? Пра дуброву?» — «Мабыць...» — «І пра маю бабу напішаш?» А Мар'я Уладзіміраўна якраз выстаўляе перад намі на стол грыбочкі, гурочкі, і як тут не кіўнеш згодна: «Вядома...» Сама гаспадыня маўчыць, але ніводнае слова наша міма вушэй не прапускае — відаць па яе насцярожанасці. «Ну, а пра маіх дзевак? Пра Тамару, Жэню... Яны ў мяне рабацяшчыя, слухмяныя...» Усміхаючыся, хоць не відаць, каб гаспадар жартаваў. «І пра Галю, Валю. Яны, праўда, бацьку пакінулі, Хутар змянілі на горад. Але... у іх мужыкі добрыя. Хоць Віця — Галін, хоць Валодзя — Валін. А Барыс, можа, у нядзелю да нас прыкоціць з Кіева. Томін...»

Не, тут хіба хітрасць? Калі на языку — што ў галаве, на душы. Адно жаданне: «Хай у цябе атрымаецца...»

Праўда, хітрынка ў Пракопавіча ёсць, і не чужая, свая. Тая жывая іскарка ў воку, без якой вока страціла б нейкую сваю цеплыню, цікавасць. Тая аздоба ў слове, без якой слова, бывае, фуркне міма вуха — пачуеш, ды не запомніш.

А за Анацкавы капцы мы ўсё ж заехалі. І быў там... бор!

Было тое самае, што і ў дуброве на Муцвіцы, здзіўленне перад лесам. Нават не верылася, каб гэтак блізка ад унікальнай дубровы на колькі гектараў стаяў-красаваўся

бор, якому таксама за дзвесце, што пасля аднаго падарунка — дубровы, ты раптам атрымоўваеш другі не менш дзіўны падарунак. Дзякуючы чыёй шчодрасці-міласці?

Сосны стаялі стромыя, нібы то былі таўшчэзныя канаты, напятыя паміж зямлёю і небам, гладкія, да меднага бляску адшліфаваныя за два вякі вятрамі, снягамі, дажджамі, шумелі зялёнымі чубамі ў вышыні, не дасягальнай нікому, акрамя вавёрак ды птушак, і ад зямлі да самых чубоў на іх не было ніводнай галінкі, сляды ад усіх колішніх галінак даўно заплылі жывой смалою, згладзіліся, ды і кара над імі самкнулася. Чысцюткія і светлыя, мабыць, заўсёды, яны яшчэ чысцейшымі і святлейшымі рабіліся пад халаднаватым сонцам, якое з невысокай восеньскай арбіты прасвечвала бор бакавымі промнямі, і гэтаксама свяцілася зямля, на якой яны стаялі,— глушэча арляковай папараці, зжоўклай, ледзь не счарнелай, лямец збітай за лета посцілкі з сіўцу і верасу, яшчэ ўсыпанага ссінела-ружовымі пацеркамі, дружны самапас зусім маладога сасновага падросту, які даволі вольна рос пад высозным матчыным крылом.

Мы з Анацкам хадзілі ад сасны да сасны, як гулялі па парку, на кожнай грэючы далоні, вочы, душы, хадзілі, быццам нямыя, бо ёсць хвіліны, на вагах якіх нашы словы нічога не вартыя ў параўнанні з нашымі пачуццямі, думкамі, калі пачуцці і думкі нават не церпяць суседства са словам. Думкі ляцелі далёка, бо іх гналі пачуцці, ляцелі аж на той бераг юнацтва, дзе ў рукі аднойчы трапіла невялічкая кніжка пра мае родныя крычаўскія лясы, пра іх даволі важкі ўклад у будаўніцтва Чарнаморскага ваеннага флоту. Хто з нас, хлопцаў, тады не марыў пра моры, караблі, матроскія цяльняшкі і бушлаты? І раптам такое: Крычаўскае графства Пацёмкіна з'явілася галоўнай базаю ў забеспячэнні Херсонскага адміралцейства будаўнічым і мачтавым лесам, канатамі, парусінаю, такелажам, фіцілём, ніткамі для пашыву ветразяў, яшчэ шмат чым, але галоўнае — грот-мачтамі для самых вялікіх фрэгатаў,

мачтамі, што былі пад сорак метраў у вышыню! Я шукаў тыя сосны, быццам яны яшчэ маглі вынесці мяне ў марамару, але не знаходзіў. І праз колькі гадоў шукаў, абышоўшы і Крычаўшчыну, і суседнюю Чэрыкаўшчыну — зноў не знаходзіў. Людзі, якія добра ведалі лес, землякі-леснікі, казалі, што сасна, каб згадзіцца на гэтакую мачту, павінна мець не толькі гордую, строму вышыню, але і смаляны стрыжак, амаль на ўсю таўшчыню дрэва. Век такой сасны — гадоў пад дзвесце. Дзе яе ўбачыць? Мне паказвалі самы стары на Сажы бор. Яго называлі пера-стоем, а яму было ўсяго восемдзесят.

І вось, задраўшы галаў, я глядзеў у высозныя вершаліны двухсотгадовых...

Галава кружылася. Зямля пад нагамі гайдалася, нібы палуба старога фрэгата. Сонечныя ствалы здаваліся гротмачтамі, а шатры, заблытаныя ў воблаках,— зялёнымі ветразямі.

Я плыў у край мары, абжытай юнацтвам.

Анацка падаў голас:

— Там Жук застаяўся...

Ах гэтых слоў мае думкі вяртаюцца з вольнага плавання назад, у сённяшні дзень, але сэнс іх да мяне яшчэ не даходзіць, яшчэ я трымаюся за берагі ранейшага рэчышча: «Якое шчасце, што гэты бор стаіць, і якая будзе бяда, калі заўтра гэтыя апошнія карабельныя сосны зваляцца з ног! Як збяднее зямля, як пахіснуцца нашы прамыя сувязі з яе сівой даўнінай, так патрэбныя нам сёння, заўтра, на векі вечныя — як збяднеем тады мы, людзі!..»

— Паедзем,— паўтарае сваё запрашэнне Анацка.

Я гляджу цяпер на яго:

— Куды?

— З гэтага бору дарога ў нас адна. У Лісаву да Ліса.

Мы ехалі нетаропка, і не таму, што нас ніхто нікуды не гнаў, ніхто не прыспешвала, такое адбывалася, напэўна, таму, што ў гэтую пару года, у гэты шчаслівы восень-

скі дзень нетаропкасць была натуральным станам самой прыроды, усяго жывога ў ёй. Павольна, на адной хуткасці з нашым лёгкім возам, абапал дарогі праплывалі дрэвы, замаруджана парыпвалі ды пастуквалі колы, з бяроз ды клёнаў летуценна злятала лісце, пабліскваючы на астылым сонцы, непаспешліва, пазней за ўсе іншыя дрэвы, жаўцелі дубы, ды і то меншыя, слабейшыя, з дрэва на дрэва, па-над дарогаю, марудна пералятаді сарокі ды сойкі. Было шмат прастору і цішыні. Кожная жывая лісціна і галіна, кожнае дрэва, здавалася, кідалі сваю ўвагу ўжо не на сябе, як некалі ўвесну, а на штосьці больш-менш далёкае, на сваё акружэнне, усё жывое да нечага пільна прыглядалася, прыслухоўвалася, старалася зразумець іншую жывую істоту.

Гэты стан авалодваў і мною. Я таксама, як дрэва ці яго асобная галінка, як травіна ці лісціна, не спяшаўся ні рухацца, ні гаварыць, ні думаць, ні перажываць, быў у стане дзіўнай нетаропкасці і з радасцю адчуваў, як гэтая нетаропкасць яднае мяне з прасторам цвярозага восеньскага лесу, растварае маю душу ў вячыстай баравой сцішанасці.

У Лісаве, як і ў Сяргеевым Хутары, спяшаліся дакопваць бульбу. Падганялі і позні каляндар, і дождж, які прайшоў раней, і замаразак, які ў апошнюю ноч сівым бухматым дыханнем апусціўся на зямлю.

Людзі завіхаліся на ўсіх агародах. Маладзейшыя і старэйшыя — на дакопках, зусім малыя — сцягалі ў лаўжы і палілі бульбоўнік. Лаўжы дымілі за кожным плотам, па ўсёй вёсцы расплываўся гаркавы водар, змешаны з водарам падгарэлай печанай бульбы і сухой пясчанай зямлі. Яшчэ пахла аржаной саломай, якою прыкідалі на ноч, ад марозаў, скапаную і ссыпаную ў бурты бульбу. Дзе-нідзе яе перабіралі, зносілі ў сцёпкі, збудаваныя амаль у кожным агародзе.

Хаты ў вёсцы стаялі вялікія, вясёлыя, абстаўленыя дагледжанымі хлявамі, платамі, сцёпкамі, але Жук выбраў сярод іх шэрую, зажураную, пры якой і хлевушок — нібы на адну зімоўку скіданы з танклявага тапорніку. Я не мог прызнаць гэтакую хату за леснікову і не спяшаўся злазіць з воза, але Пракопавіч, прывязаўшы лейцы да ганка, сказаў: «Вось і прыехалі. Злазь». Я недаверліва перапытаў: «Прыехалі?» І Анацка паказаў позіркам на хатнія дзверы: «Вунь сам Іванавіч, гаспадар бору-памяці».

Ліс стаяў на парозе, трымаючыся за клямку: высокага росту, шыракаплечы, нібыта скроены і пашыты прыродаю на доўгі век. Але калі я падышоў бліжэй, калі, здароўкаючыся, прыгледзеўся да чалавека, асабліва — ужо ў хаце, калі мы паселі насупраць адзін аднаго і Ліс тое-сёе казаў пра сваё жыццё, за кожным словам сцінаючыся ад пякельнага груднога болю, я здзівіўся — там, на ганку, зводдаль, ён глядзеў на мяне быццам з нейкіх трыццатых-саракавых гадоў. Косць засталася прыродная, не здрабнела і не сагнулася, па ёй была відаць ранейшая моц, а дыханне слабое, як у схварэлага чалавека. І таму, што Аляксей Іванавіч цяжка хварэў, размова клеілася не пра тое жыццё, якое бачыцца маладым здаровым людзям — ім, па іх наіўнасці, яно здаецца вечным, вечна сонечным,— а пра рэальнае і ў сваёй жорсткасці да чалавека, дзе навідавоку не адны яго пачаткі, але ўжо і канцы, дзе не застаецца загадак ні ў яго ясных днях, ні ў яго чорных начах. Спачатку Ліс казаў мала, адно слухаў, больш казала жонка, перабіраючы ля парога бульбу...

Як у дваццаць восьмым годзе Іван — бацька Аляксея Іванавіча, таксама ляснік,— праваліўся ў палонку, злёг і паклікаў да свайго ложка сына, сказаў яму: «Збірайся, Аляксей, за мяне ў абход. Я сваё адслужыў».

Як яны, Лісы, усёй сям'ёю, з дзецьмі, усе гады рабілі ў лесе: ахоўвалі яго, садзілі і даглядалі маладняк, біліся з пажарамі, з лясными хваробамі.

Як аднойчы ва ўрочышчы Тур'е ўзняўся верхавы пажар і яго тушылі сустрэчным агнём, а пасля пажарышча карчавалі, узорвалі, садзілі дубкі, як бераглі тыя пасадкі ад маразоў, ад патраў скацінаю.

— Ну, а памяць-бор?..

І зноў не сам Ліс, а Лісава жонка расказвала, як у трыццаць трэцім да яго правялі ляжнёўку, сабраліся пілаваць — тады і Аляксей, і жонка, і дзеці днявалі і начавалі ў бары. Потым у трыццаць дзевятым па сосны прыехалі на здаровых польскіх конях. І зноў Аляксей Іванавіч засланіў бор. А пасля вайны...

Нарэшце ўзняў галаў стары ляснік. Кожнаму з нас паглядзеў у вочы, паспрабаваў устаць з услона, ды схапіўся за грудзі, зноў сеў. Цяжка дыхаючы, загаварыў:

— Збярог бор ад смерці. А як сам злёг, дык ніхто дзверы не адчыніць. Вось вы прыехалі — дзякуй. А я ж, Сцяпан,— ён утрапёна, як з глыбіні ў глыбіню, уставіўся на Анацку,— зла людзям не рабіў. Секчы абы-што і абы-дзе, як каму ўздумаецца, не даваў. Бо волі не даваў любому лясному спусташэнню. Лес бярог. Дарафея памятаеш, Сцяпан? Мы з ім былі самыя заядлыя леснікі. А ты ад нас лесаваць вучыўся. Ці не так?

Анацка кіўнуў:

— Так, Іванавіч.

— Дык за што на мяне людзі злыя? Я ж ім пакідаю дзялянку амурскага аксаміту! У аднаго ў мяне, больш нідзе ва ўсім Палессі. І памяць-бор пакідаю. Дзе яшчэ такі бор? Нідзе няма. За што ж на мяне зло мець? Што сабе на хляўчук не ўзяў з лесу добрай лясіны? Што колькі разоў галаву нёс пад сякеру злыдняў? Усё — дзеля лесу, дзеля іх, людзей...

Калі мы ўжо выйшлі з хаты, следам за намі выйшаў і Ліс. Мы ад'язджалі, а Ліс, спіною абапёршыся аб вушак, стаяў на ганку, сашчапіўшы на грудзях вялізныя белыя рукі. Ля яго высокага пляча стаяла старая, падтрымлівала мужа.

Я ўспомніў... Мне расказвалі, як Ліс, змагаючыся ў сваім абходзе з рознымі клапамі, вусачамі, караедамі, размнажаў і ахоўваў мурашнікі. Ён рассцілаў ля старога мурашніка вялікую жончыну хустку, аддзяляў у яе частку мурашынай хаты разам з мурашамі і нёс іх у хустцы на новае месца, куды на стары пень, пад хворае дрэва, дзе лясным санітарам было найбольш работы. Гэтак развёў дзесяткі новых мурашнікаў. І вось цяпер, калі мы з Анацкам ужо выехалі на дарогу, я думаў пра гэту чалавечую ні то гаспадарлівасць, ні то апантанасць, усё яшчэ не зводзячы вачэй з Ліса, які па-ранейшаму стаяў на ганку. Глядзеў на яго белыя рукі, і мне здавалася, што ён трымае каля грудзей белую жончыну хустку з рыжымі няснымі мурашамі.

«Жыві, ляснік. Дай табе бог здароўя».

Зніклі ў створы дарогі апошнія стрэхі, вокны, векавыя грушы над платамі і стрэхамі, хваёвыя шаты апусціліся над дарогаю, засланілі вясковую далеч, а з галавы не выходзіў Ліс, яго памяць-бор і яго балючая на людзей крыўда, у якую нельга было не паверыць, але і паверыць было цяжка. Я загаварыў пра гэта з Анацкам, і той пагадзіўся са мною:

— Рана чалавек знасіўся.

— Не пабыўшы на пенсіі?

— Ды пенсія яму даўно налічана. Не мог лес кінуць. Усё яшчэ тупаў, тупаў. Перажываў моцна. Даўней, гадоў за дваццаць назад, калі яго знялі з леснікоў.

— Праштрафіўся?

— За незаконныя пні. Але ж тады самавольныя парубкі былі кожную ноч. Ледзь сцямнее — і заляскалі па лесе сякеры. Хіба ўсіх пераловіш? Ліс дужа перажываў, як яго знялі. Бо ўжо як ён лес бярог — ніхто не бярог. Без лесу не мог дыхнуць. Забяры ў мядзведзя лес, што з ім стане? А ў Ліса былі забралі. Як забралі? Правоў лесніkоўскіх пазбавілі. А шапку леснікоўскую ён не зняў. І сякеру ды рыдлёвачку акопную з дзягі не зняў ні разу.

Як на службе. А раптам у лесе пажар? Ён жа з лесу ўсё роўна не выходзіў. Ой, перажыў тады Ліс! Хадзіў — белага свету не бачыў. Быў Ліс — стала паў-Ліса. Схуднеў, пастарэў за тыя дні...

— А мурашоў па-ранейшаму разводзіў?

— І сапраўды... Я табе, Філімонавіч, так скажу. Пра лесніка людзі вечна крыва думалі. Многія і цяпер яшчэ думаюць крыва. Ім здаецца, што ляснік і п'яніца, і куркуль. Мае морду чырвоную ды сто гадоў жыткі. А ці гэта праўда?..

Здрыгануўся ўсхваляваны голас, Анацка адвярнуўся і доўга не паказваў мне твар, вочы, быццам засаромеўся нечага. А чаго яму было саромецца? Пачуццяў, якія раптам здушылі горла? Ці сваёй шчырасці? Ці, можа, тых людскіх плётак, якія старому Лісу былі большай пакутаю, як цяжкая хвароба? За Ліса перажываў? Ці за ўсіх ляснікоў? За лес?

Я разумеў Лісаву крыўду. І Анацкавы думкі. Я маўчаў.

Але душа шаптала:

«Будзь спакойны, ляснік. Злыя плёткі поўзаюць нізка, дзе шмат ценю і мала святла. А бор над Лісаваю шуміць высака. І дуброва на Муцвіцы высака ўзнялася. Яны над усімі крыўдамі, над усёй хлуснёю...»

І ўсё ж я не мог гэтак лёгка адмахнуцца ад Лісавай балючай крыўды на аднавяскоўцаў, ад Анацкавых думак пра людскую няўдзячнасць да лесніка. Тым больш што гэтакія адносіны паміж леснікам і аднавяскоўцамі мне не былі адкрыццём, чымсці новым. Я думаў, чаму яшчэ і цяпер бывае, што добры для лесу ляснік, сумленны, клапатлівы лясны гаспадар, аказваецца дрэнны людзям, якія ў гэтым лесе жывуць, з яго сусекаў усё жыццё бяруць і лясіну, і грыб, і ягаду — усё, чым ён багаты. Хто ж павінен найбольш берагчы і шанаваць лес, як не яны, яго жыха-

ры? І хто павінен шанаваць ашчаднага лесніка, як не яны таксама? Сам ляснік, вядома, не заўсёды бываў варты людской павагі, ляснік на лесніка непадобны. Але хіба мала сярод іх сапраўдных лясных патрыётаў, сумленных і мужных абаронцаў нашага лесу? Нават з усіх тых падлясьнічых, кандуктараў, палясоўшчыкаў, лясных і пажарных стараст, пешых і конных лясных стралкоў, ды і вышэй — ляснічых батальённых і ротных, губернскіх і акруговых? Наш вядомы паляшук, лясны рэвізор на Урале, «господин коллежский асессор» Вячаслаў Іванавіч Пераход хіба не быў вялікім патрыётам роднага лесу і чулым да мужыка? Хіба не яго любоў да лясной бацькаўшчыны падказала яму ўдзячныя думкі: «Калі я праязджаў праз беларускія губерні Гродзенскую і Віленскую, мне зноў вельмі хацелася папрацаваць на дзедавай зямлі. Я ўспамінаў пяскі Сакольскага павета і думаў пра іх замацаванне пасадкаю шалюгі паблізу Васількава, ля вёскі Дубраўкі. Пяскі там заносілі ворыўныя землі, забіраючы ў сялян іх асноўную базу...» Думаў гэтак у час вымушаных шматгадовых вандровак па краіне, якія пасля і закончыліся вяртаннем да роднага лесу.

А ці лёгка было ляснoму патрыёту, асабліва калі ў яго не было звання «господин коллежский асессор», чыну батальённага ці ротнага ляснічага, лесніку з казённай бляхаю на грудзях і мізэрным акладам, таму пешаму ці коннаму стралку ў форме рускага салдата, з баявой стрэльбаю на плячы? Ды яшчэ калі ён, той лясны ахоўнік, ведаў, што лес — царскі, графскі, панскі, манастырскі, усіхны, толькі не мужыцкі. І ўсё ж не царскія ўказы былі абаронцамі лесу, а ён, ляснік, вясковы мужык, які прыродным розумам, душою і вопытам сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў добра ведаў, што лес заўсёды спадзяецца адно на мужыка, на яго сялянскае сумленне і сілу, аднаму яму, мужыку, хоча служыць верай і праўдай, што ад лесу мужык залежыць куды болей, як які цар ці пан, што без лесу ён не пражыве. І таму ляснік душу сваю ўкладаў у

лес, бараніў і даглядаў яго як толькі мог, хоць... што ён атрымоўваў за гэта — за сваю бязмежную адданасць лесу?..

Катаргу, салдатчыну, штрафы за невядома чые, невядома кім пакінутыя ў лесе пні?

Заробкі, ніжэй якіх мала хто меў, хоць у той жа час усе, ад цара да мужыка, ведалі, што «танны ляснік вельмі дарага абыходзіцца лесу»?

Спрадвечную, нават ад сваіх аднавяскоўцаў, пагрозу: «Не дасі, ляснік, сасну, дык дасі заўтра дуба»?

А яшчэ меў хваробы, якія сталі здаўна леснікоўскімі: радыкуліт, раматус, язвы, гастрыты, рак страўніка. Бо ці часта ён, ляснік, дома за сямейным сталом абедаў і снедаў, гарачанькім, як усе людзі? І сталоўкі ў лесе няма. Дастане з кішэні пакуначак, хлеб з салам, з'есць на пяньку ўсухамятку — гэтым часта і жывы да вечара ці да глыбокай ночы, пакуль дадому прыб'ецца. А ў лесе — не пад хатняй страхою. На галаву — і снег сыпле, і дождж лье. Да касцей працінаюць вятры, бо яны не заўсёды лагодныя ды цёплыя. І нагам не заўсёды бывае суха-цёпла. Дзе-небудзь сагрэецца чаркаю — тут ён і п'яніца. А хто гэтак на лесніка кажа? Ды той, хто сам жа і падсуне яму чарку, каб паддобрыцца, лягчэй узяць з лесу лішнюю палку дроў. Той скажа, хто не мёрз на лясных дарогах і бездаражы, на абледзянелых ці залітых халодным восеньскім дажджом лесасеках, у начных засідках, чакаючы злыдня-браканьера, хто не тапіўся ў балотах ды снягах. А хто ўсё гэта зведаў аднойчы — той не папракне лесніка, што сёння ён сагрэўся ў лесе чаркаю, а заўтра, магчыма, зноўку ёю сагрэецца.

І ці ён, ляснік, горшы за сваіх аднавяскоўцаў, што трэба яму цярпець болей, як церпяць яны? Не горшы. Здаўна, яшчэ ад Пятроўскіх указаў, леснікі выбіраліся — хоць тады іх называлі іначай — з «людзей добрых», з «пасялян цвярозых і прыкладных паводзін», з «мужчын сямейных і прыстойных», а першы лесаахоўны закон Ра-

сіі, выдадзены ў 1888 годзе, падкрэсліваў, што «ў лясную варту прызначаюцца людзі благанадзейныя, не маладзейшыя за дваццаць адзін год». Ды і цяпер, у наш век, прыглядаючыся да лесніка, можна заўважыць, што ў сваёй вёсцы ён даволі часта бывае тым чалавекам, які вакол сябе бачыць болей і далей, адчувае паўней і вастрэй, лепей разумее не толькі лес, але і ўсякае іншае жыццё на зямлі: людское, птушынае, звярынае.

Такім леснікам мне ўяўляецца Дарафей Лаўрэнавіч Анацка. Такімі я ўбачыў Сцяпана Анацку і Ліса ў Лісаве. Іх зрок далёкі і востры. Адчуванне глыбокае і дакладнае. Душа чулая, шчодрая. Сэрца мужнае. Розум светлы. Рукі працавітыя. Усё гэта ім падказала аднойчы, што калі яны, леснікі, аддадуць у пасеку дуброву на Муцвіцы ці бор пад Лісаваю, дык сам лес, час, жыццё адвергнуць іх; і гэта яшчэ не ўсё — разарвецца нейкі важны ланцуг жыцця, прырода і людзі страцяць такое, чаго потым не вярнуць ніколі.

Хто ж іх, леснікоў, навучыў гэтак далёка бачыць? Адно свой прыродны зрок, душа, розум? Быў яшчэ і настаўнік — сам лес. Бо якая яшчэ ніва, прарастаючы маладымі парасткамі, чакае сваё жніво гэтак далёка? Якая ніва, акрамя лясной, родзіць усяго адзін раз у сто гадоў? Які хлебароб, засяваючы свой клін, загадзя ведае, што зжаць яго не паспее, што жаць будуць, можа, дзеці, можа, унукі, а можа, і праўнукі? А сам ён, сейбіт, сажне тое, што пасеялі дзед і прадзед — калі пасеялі.

Не, няма ў прыродзе другога такога сейбіта, акрамя лесніка. Няма другой такой нівы, акрамя лесу. Але... ці дакладна гэта — няма? Прыслухаемся да галасоў планеты...

Ёсць. У наш век з'явілася. І куды большая за лясны абход. Гэтая ніва — уся прыродная сарочка зямлі, дзе кожная нітачка запаведная: парві адну нітачку, другую, трэцюю — пасыплецца, зваліцца з цела ўся сарочка. Яшчэ не так даўно гэтую пагрозу прадбачылі адно вучоныя. Сёння ў звон трывожна б'е ўся планета. Дык, можа, усе

мы, людзі планеты Зямля, павінны стаць пад сцягі лясной аховы? Павінны. Ну, а ляснік?..

А ляснік застанецца лесніком. Праўда, ён мяняецца — яго мяняе сам час. Яшчэ сто гадоў назад ён не ведаў, што такое садзіць лес, ахоўваў яго дзеля таго, каб лесаўладальнік, цар ці пан, касіў і касіў няшчадна, не дбаючы пра дзень заўтрашні. Час касьбы, лясной касьбы без агляддкі, мінаваў. Настаў час сяўбы і пільнай аховы ўсяго жывога, кожнага жывога парастка, час вялікага клопату не толькі пра свой абход, але і пра ўсю зялёную сарочку Зямлі. Час увёў лесніка ў гэты бяскрайні абход, далучыў яго клопат да клопату планетарнага, сусветнага — да трывогі ўсяго чалавецтва пра лёс жывой прыроды.

Я з хваляваннем шукаю перад сабою Анацкаў твар, Лісаў твар, хачу ўбачыць, ці ведаюць пра ўсё гэта яны самі, Анацка і Ліс? Ці змогуць яны...

Бачу Ліса.

Ён стаіць на ганку, высокі і стромы, глядзіць удалеч на шумлівы бор, а ў руках ля грудзей трымае белую жончыну хустку з мурашамі. Вялікія, рыжыя, яны выпаўзаюць з хусткі яму на рукі, далёка не распаўзаюцца, нібы грэюцца ў яго на руках, а ён не зводзіць вачэй з лесу і ўсміхаецца.

І ўжо мяне супакойвае думка, што вось гэтакі, з мурашамі ў белай хустцы, Ліс вельмі натуральна і нават сімвалічна глядзіцца на фоне ўсёй нашай трывожнай зялёнай планеты, што ён ужо даўно, раней за многіх вучоных і палітыкаў, ведае яе хваробы і таму стаіць над ёю, цяжкахворай, з гэтым белым клункам.

Стаіць і ўсміхаецца. Бо ён, сам цяжкахворы, не хоча, каб надзея на здароўе і шчасце пакінула Зямлю і Людзей.

Штораніцы жыццё ў Хутары, у кожнай хаце, пачынаецца і бяжыць па адным і тым жа крузе, акрэсленым гадамі. На гэтым крузе амаль адна і тая ж, усім вядомая,

праца, адны клопаты, адны галасы, нібы яшчэ адно, заўсёды не лішняе, паўтарэнне старога школьнага падручніка.

У Анацкаў ранішнюю цішыню заўсёды першай парушае гаспадыня. Яе першыя крокі — ля печы: з драўмі, чыгунамі, вілкамі, вадою, бульбаю. А за ёю ўстае гаспадар. Свае ранішнія клопаты ён выносіць на двор. Там рыпіць варотамі хлява, веснікамі, ляскае сякераю, звоніць аброццю, а то пачынае гаварыць з Жукам, Мухтарам, каровай Машкай ці галёкае на свіней, гусей. Упрагуцца ў работу бацькі — тады ўсхопяцца дочкі, і з таго часу хатнія дзверы ледзь паспяваюць адчыняцца і зачыняцца. Вакол маткі ды бацькі, туды-сюды цераз парог, дзевак нібы вецер ганяе.

Ну, а я — госць. Я звычайна ляжу, пакуль не развіднее добра. Ляжу, лаўлю ўсе гукі і па іх пазнаю, што робіць Мар'я Уладзіміраўна, чым заняты Пракопавіч, што ў галаве і ў руках у Жэні і Тамары. Па іх гаворцы, рупліваспі, хадні-беганіне мне хочацца ўгадаць, які ў іх настрой, якое сёння надвор'е.

Зрэшты, надвор'е я ўгадваю яшчэ па вокнах, асабліва калі развіднее. Шыбы з раніцы то спацелыя, мокрыя, то бліскуча-сухія, то ў вясёлай барвовасці, нібы глядзяцца ў вогнішча.

Сёння шыбы акон белыя, як аброслыя белым мохам, распісаныя мутнымі лядовымі карункамі. Няўжо за ноч выпаў снег? Ад гэтай думкі ажно спіне зябка ў цёплай хаце. Я ўстаю з ложка.

За акном усё белае, ледзь сінюшнае: агароды, стрэхі, платы, грушы, выган. І яшчэ адна нечаканасць: нешта сёння — я толькі цяпер заўважаю — не чуваць Пракопавіча. Ні яго крокаў па хаце, ні голасу на двары.

Хутчэй апранаюся, выходжу на вуліцу.

Не, гэта яшчэ не снег. Але мароз моцна, люта скаваў зямлю, усюды ажно высыпаў густы іней. З комінаў над вёскаю падымаюцца дымы, але не вышэй ляснога верха-

вілня яны расплываюцца, нібы пад столлю, як прымярзаюць да той нябачнай столі.

«Дзе ж Пракопавіч? Ці не пайшоў да Жука?..»

Праз вёску, яшчэ зусім нямую, я шыбую на выган, на пашу, дзе начуе Жук. Ён там — чорны на белай пашы. Стаіць — не варушыцца. Змёрз. Грыва, калені, вусы на храпе белыя ад інею, як і сівец ля капытоў. А гаспадара нідзе няма. Адно фуфайка Анацкава на спіне ў Жука. Значыць, Пракопавіч тут быў. І сляды яго — у лес павялі.

Я іду па слядах. У лесе паміж дрэў цяплей, няма на зямлі таго белага покрыва, што ў вёсцы, на пашы. І шмат грыбоў. Купамі стаяць апенькі, дружнымі сем'ямі трымаюцца чорныя грузды, пляцёнкамі высыпалі маслюкі. Не за гэтую ноч, вядома, высыпалі. За гэтую ноч яны памерзлі, скамянелі, і калі я наступаю на іх чаравікам, яны храбусцяць і сыплюцца, нібы жвір. Ажно шкада — і грыбоў, і людзей, што не паспелі сабраць іх у кошык.

З лесу чуваць сякеру. І бензапілу. Абзываюцца па чарзе: то піла, то сякера. Здалёк, з гушчару. Піла ледзь набярэ разгон, заспявае — і замоўкне. Быццам пілуе танклявае жэрдзе. Тады пачынае дзяўбці сякера. Яна дзяўбе спачатку марудна, без спешкі, а потым разыдзецца, разгарачыцца, пачынае дзяўбці таропка, весела, у ахвотку, хоць таксама — не доўга. Заціхне, маўчыць. І зноў пачынае. У гэтых гуках пілы і сякеры я чую самога Сцяпана Пракопавіча, яго то гарачую, прагную да работы душу, упартыя ў рабоце рукі, то жаданне памаўчаць, падумаць, паразважаць з кожным дрэўцам, з кожным, перш чым яго ссекчы, развітацца па-добраму, як з жывою істотаю.

Дарогу з-пад ног я выпусціў, праступаю на тыя гукі.

Вось ён, Анацка. Стаіць, апусціўшы сякеру, у сасновым маладняку, якому ўжо гадкоў пад дваццаць, перасыпаным, і даволі густа, бярозкамі, асінкамі, клянамі. Барок свежы, з брусніцнікам і злямчанай рыжай асакою, заглушаны. Анацка ўважліва аглядае яго, адыходзячы то ля-

вей, то правей, нібы хоча прашыцца праз гушчар, ды баіцца ў ім заблытацца. Але раптам узмахнуў сякераю, апусціў яе пад асінку, зноў узмахнуў, сякануў бярозку, потым зноў асінку, а потым і сасонку, і яшчэ адну сасонку. Пастаяў, агледзеўся, узяўся за пілу. Смаргануў тросік — піла запела. І ўжо ляцiць з пня тая бярэзіна, тыя асінкі, сасонкі, пазначаныя сякераю. А клянок застаўся. І ніжэйныя бярозкі не зваліліся. Анацка зноў пахадзіў з сякераю, пілою зваліў бярозавую двайчатку, потым асіну, якая ростам абагнала ўвесь барок, і яшчэ бярозку з доўгімі і танклявымі, нібы пугі, галінамі; сасонак таксама не пашкадаваў, адну надта камлістую, збежыстую, другую сукаватую, трэцюю крывабокую. Потым пачаў выцягваць паваленыя дрэўцы на прагаліну, абсякаць сучча, рэзаць на двухметровыя палкі, складаць у сцірту — людзям гатовыя дровы. А я гляджу на тую баравую курціну, дзе пахадзіў Анацка, і бачу, што ён недарма падоўгу да яе прыглядаўся, перш чым узяцца за пілу ды сякеру, што кожны ўзлёт сякеры, кожная песня пілы прадуманы загадзя — колькі тых хвілін мінула, а ўжо курціна як новая, ужо сасонкі злавілі вершалінамі сонечныя промні, бо ні бяроза, ні асіна ўжо не засцяць ім, яны — пераможцы там, угары. Ды і ўнізе ім папрастарнела, пасвятлела, стаяць стромыя, адна адной не замінаючы. Цяпер відаць, што дрэвы, якія Анацка зваліў, былі тут лішнія, нават шкодныя. Бярозы перараслі сосны, забралі ад іх святло, у вецер доўгімі космамі, напэўна, моцна сцябалі ствалы сасонак; і асіны былі разрасліся, глушылі сасонкі, нічога ім, суседкам, не абяцаючы і надалей, акрамя грыбной хваробы, якая жорстка выкручвае сасновы ствол; а сасонкі пакінулі курціну адно тыя, якіх пазней прырода сама б выжыла — то чэзлая, то крывая, то сукаватая, на воўка падобная. Не, тут усё зроблена з галавою, зроблена так, каб вольна і хутка рос гонкі, прыгожы бор.

Мне прыемна глядзець на лес, на Анацку, на яго работу, як разумна і нетаропка, думаючы пра лёс кожнага

дрэўца і ўсяго будучага бору, ён робіць прарэджванне. У гэты час ляснік, вядома, бачыць перад сабою той дарослы, спелы бор, які тут будзе шумець гадоў праз пяцьдзесят, а можа, і праз сотню, на радасць унукам і праўнукам, бачыць яго прыгожым, дужым, жывым. Жывым — абавязкова. Бо іначай — дзеля чаго яму, лесніку, хадзіць па зямлі, служыць, рабіць? Ён мне ўжо неяк казаў, што ва сне лес яму бачыцца толькі жывым. Можа быць і невясёлы, і непрыветлівы, і гнеўны, можа быць заліты вадою, занесены снегам, ахутаны чорным дымам, але жывы заўсёды і заўсёды жывое вітае, да жыцця кліча.

— Га, Філімонавіч! — раптам заўважае мяне Анацка. На твары ў яго ці разгубленасць, ледзь прыкметная, ці ледзь прыкметная незадаволенасць.

— Я тут лішні?

— Ёсць работа, рукі лішнімі не бываюць.

І ўсё ж бачу, што парушыў Пракопавічу нейкую яго інтымнасць з лесам, нейкія яго думкі і мары, яго душэўную размову з сасонкамі, бярозкамі, асінкамі. Больш таго: я разумею, што ўсе гэтыя дні адрываў яго ад патрэбнай яму размовы з лесам, ад работы, якая кожны дзень просіцца да лесніка ў рукі, і вось сёння ён ужо не вытрымаў — раней за ўсіх у хаце ўсхапіўся з ложка, яшчэ цёмначы, мабыць, выйшаў за парог, аж ніхто яго і не чуў, з сякерай і пілою шыбануў у лес. Успамінаю, як ён казаў, колькі сёлета яму трэба зрабіць у абходзе асвятлення, прачыстак, прарэджвання, колькі трэба нарыхтаваць дроў, калоў, падтаварніку, колькі трэба здаць насенных шышак сасны, жалудоў, падрыхтаваць і адпусціць спажыўцу лесасеку. Работы хапала.

Я хачу ўзяць у яго сякеру, пасобіць апрыходаваць паваленыя дзеравіны, але сякеру ён не дае, кажа:

— Ідзём, пакажу нештачка...

Мы выходзім на дарогу, якая вядзе ў вёску Вуглы, і неўзабаве нашым вачам адкрываецца сасновы бор. Чысты, светлы, кожны ствол нібы з медзі, блішчыць гонкі,

кожная сасна — быццам піка з зялёным наканечнікам, хоць бор малады, яшчэ яму, напэўна, няма і шасцідзесяці.

Лагодна шархаціць у нагах пасохлая арляковая папараць — мы доўга не выходзім з бору. Анацка ідзе ад сасны да сасны з высока ўзнятай галавою, амаль каля кожнай спыняецца, бярэ залацісты ствол у рукі, пяшчотна водзіць па ім далонямі, прылягае да яго грудзьмі і глядзіць у высозны шацёр, як цэліць дрэвам у неба. Глядзіць падоўгу, уважліва, задумліва, штосьці нячутка шэпча, розумам прыкідвае, узважвае. Але перш за ўсё, вядома, любуецца, радуецца, цешыць сваю на дзіва ўражлівую душу. Яго радасць ад мяне схавацца не можа, бо зусім не цяжка чытаць душу шчырую, твар адкрыты, вочы даверлівыя. Гэтакі ён заўсёды — даступны.

У мой бок не глядзіць, глядзіць на сосны, але расказвае — мне. А магчыма — і лесу:

— У мяне гэты бор тое самае, што дуброва ў Дарафея, што памяць-бор у Ліса...

Гляджу на Анацку, не разумеючы. Гэты бор зусім малады, ваяваць за яго, як ваявалі Дарафей ці Ліс, рана — калі яшчэ яго будуць адводзіць у лесасеку. Але слухаю...

— Колькі яго гадую, душа мая тут, у гэтым бары. І вось чую... адводзяць яго ў падсочку. Божухна! Такі бор, душу маю — у падсочку? Дзе сёння падсочка — там заўтра смерць лесу. Няўжо няма паратунку? Дарафей уратаваў сваю дуброву. Ліс — свой бор, а я?.. Кінуўся да начальства. Ляснічы і дырэктар душою за мяне, але не яны адны вырашаюць, трэба вышэй сілу шукаць. І я — вышэй. Як даказваў? А як Дарафей, як ён мяне вучыў. Кажу, не распранайце лесніка перад людзьмі, перад лесам. Другога такога бору ў нас няма. Не збяднеем, калі не ссячом, а не ссячом — багацейшыя будзем. Гэта ж карабельны бор!

— Няўжо даказалі? — веру і не веру Анацку.

— Даказаў! — шчасліва рагоча Анацка.— Адвялі мой бор у насенны выдзел. А якое тут насенне — во, падзівіся!..

Ляснік раскінуў рукі — сам дзівіўся, нібы першы раз

бачыў. Сапраўды, цудоўныя стаялі і матачнік, і падрост. Ад прыгожых бацькоў раслі прыгожыя дзеці, раслі густа, з доўгімі, па паўметра, мутоўкамі гадавога прыросту, танклявыя, гонкія, нібы спяшаліся абысці ў росце не толькі сястрычак, але і матак: не век жа сядзець пад матчынымі спадніцамі.

Назаўтра я развітаўся з Сяргеевым Хутарам.

Да аўтобуса ў Махаедава (цяпер гэтая вялікая, забудаваная новымі дамамі вёска завецца Кіравам) мяне падвозіў Анацка.

Была раніца. Зноў марозная, белая. Мабыць, зіма рана збіралася зачапіцца за зямлю.

Ціхая вёска дыміла, як кожную раніцу, усімі пячнымі комінамі. У лесе за выганам ад холаду екатала жаўна.

Заехаўшы за Хутар, Анацка спыніў каня, сышоў з дарогі ў падлесак, гукнуў мяне.

Я падышоў.

Ён стаяў над вялізным, нібы сялянская печ, пнём, моўчкі глядзеў на яго, задуманы.

Там мала што было ад пня. Адна абалона, пальцы на два-тры таўшчынёю, абшморганая вятрамі, выглянцаваная дажджамі, дзе-нідзе да зямлі асыпаная, струхлелая. Але яшчэ стаяла гэтая абалона, яшчэ яна кожнаму казала, што некалі тут было магутнае дрэва — цар-дуб, лясны волат,— што, пажыўшы не адзін век, шчыра паслужыўшы зямлі, людзям, звярам і птушкам, ён не знік бясследна, той цар-дуб, служыў жывому лесу і цяпер — нават струхлелым пнём: з круга, акальцаванага абалонаю, з зямлі, угноенай і сагрэтай волатам, умацаванай яго каранямі, раслі, цягнуліся да сонца сасонка, дубок і дзве бярозкі — вясёлыя, стромыя, гонкія, белыя. Маладзенькі дубок яшчэ нават лісця з сябе не скінуў.

Вось ён, адвечны лясны закон: няма той натуральнай смерці, якая б не ўзгадавала жывы парастак. Вось яна,

Ісціна, якая тут, у Сяргеевым Хутары, і вакол яго жыла паўсюдна, у людзях і дрэвах, да якой мяне вялі ўсе гэтыя светлыя дні восені: не гады, не дзесяткі гадоў, а стагоддзі, многія вякі лес працуе на нейкі адзін дзень, на адно дрэва, на адзін бор, адзін гай, і каб ведаць лес, трэба разумець, здаровым зрокам і слыхам бачыць і чуць, душою адчуваць і памятаць гэты лесавы абсяг часу.

Гэтую Ісціну я шукаў па ўсёй пушчы, а яна жыла зусім побач: у кожным дрэве, у песнях-казаннях Мар'і Прыполак, у працы і думках Анацкі і Ліса, у жыцці неўміручага Дарафея Лаўрэнавіча, у тым, што згадалі і паведалі мне з свайго маладзейшага жыцця дуброва на Муцвіцы і бор пад Лісаваю. А цяпер — сасонка, дубок, дзве бярозкі ў абалоне ад старога дуба...

Анацка маўчаў.

Перад маладым жыццём, якое буяла на моцы былых вякоў, ён даваў мне ўрок спасціжэння Ісціны.

*1976*

Зямля Калевалы...

Ты асталася там, пад белым паўночным ззяннем, а я зноў у Мінску, ад цябе — далёка на поўдні, хоць тут таксама ледзяны дождж і мокры снег. Калі імглістым ранкам ты садзіла мяне ў «Іл», здавалася: я еду дадому на пабыўку і хутка вярнуся — не верылася, што расстаёмся надоўга. Цяпер жа, калі кардыяграма падарожнага сэрца ў норме, ясна: мы павінны былі расстацца надоўга, бо кожны з нас прапісаны на сваіх шыротах і мерыдыянах, і мой дом усё ж тут, у Мінску. Вось сяджу за сталом, і сонечныя руны, лясы, ружовыя і блакітныя скалы, бясконцая вада і бясконцыя вятры, твой чысты водар і нават хліпкая перадзімовая слата ажываюць у маім пакоі...

## «ЛАЎЛА ЛАЎЛУ...»

Ляскаюць па камянях боты.

Мае боты. Мае першыя на Поўначы крокі. Берагам Куйтыярві — да Іванан Улы і Васелэйн Мары...

Я стаю на беразе возера і дзіву даюся — ну і вечар! Умудрыўся ж гэтак раптам сабраць на сваіх загонах незвычайныя мне фарбы неба, зямлі і вады: шэрыя да чорных, ружовыя да белых, блакітныя да сініх. Зверху, да палавіны неба, навісла глухая чарната; далей, да самае вады, гарбатым белым мядзведзем апусцілася халодна-белая заслона; вада пад ёю ссінела, як ад стыні ці злосці. Белыя і чорныя фарбы не змешваліся, паміж імі жыла свая варагавітасць, дзікая адасобленасць.

Суседства чорнага і белага — ноччу. Такая дзіўная нечаканасць для нетутэйшага вока.

Рыпнулі нарэшце ўключыны.

Лодка?!

Чорная і выгнутая, быццам стружка з неба, яна зачапіла высокім носам хмару-мядзведзя і павалакла з сабою — на мой бераг.

Вёслы нетаропка падымаліся і апускаліся. Падымаючыся, злівалі ў ваду белыя мядзведжыя касмылі.

Дзве галавы над лодкаю: Улына і Марына? Гэта, вядома, яны. Малы хлапчук, прабягаючы берагам, казаў, што ўранні старыя ставілі за астравамі заколы на харыуса і сёмгу, а надвечар — яшчэ было сонечна — павеславалі з сеткаю на сяляву.

Улы і Мары нячутна прывязалі пад гарой лодку, непаспешліва перабралі сетку, выкінулі дробную сяляву з лодкі ў кош, развесілі снасць на вешалах, каб сохла, і вось падымаюцца на гару, цяжкімі ботамі-гірамі бухаюць па дашчаных кладках. Адна злева, другая справа — нясуць кош з сяляваю.

Ідучы, яны гамоняць на сваёй пявучай мове. Я ўсё чую, ды нічога не разумею.

Спыніліся, паставілі на зямлю кош, глядзяць на мяне і дзівяцца: хто такі, адкуль, да каго?

— Да вас прыехаў,— кажу ім.

— А-а!.. Лаўла лаўлу? — пытаецца адна з іх, бялейшая галавою.

— Праспяваць песні? — перакладае пытанне другая, чарнявая.

— Так! Я па руны...

Знаёмімся бліжэй.

Улы і Мары вядуць мяне ў хату, вуглы каторай пашчапаны, ажно здаюцца гірляндамі павучыных сетак.

На вялізным стале, устаўленым кубкамі, сподачкамі, чайнікамі, шыпіць самавар. Тут сялява — і мочаная, і смажаная, і вяленая. Нават пірог з сяляваю. Вядома — у гасцях у рыбачак.

Улы — чарнявая, без адзінага сівога валаска, рухавая, з вясёлым сухаватым тварам. А Мары — мажная, спакойная, белатварая, зусім сівая. Яны не сёстры, проста даўнія сяброўкі, з аднолькавымі прозвішчамі: Малінан. Абедзвюм недзе пад семдзесят, а магчыма, што Мары крыху старэйшая. Усё жыццё, кажуць, разам ды разам. Пары-

бачаць, а потым на адной печы, бывае, і начуюць: калгасам, хоць і малым, жыць лягчэй.

— Значыць, па руны? — пытаецца ў мяне Улы, смачна кусаючы пірог.— Яны яшчэ не ўсе пазбіраныя. Праўда, Мары?.. Дай жа бог табе лёгкія ногі, вострыя вочы, чуйныя вушы.

Мары не разумее іншае мовы, акрамя сваёй,— Улы вымушана гаварыць то па-руску, то па-карэльску. Мары згодна ківае галавою, а Улы ўжо як бы знахарыць:

— Будзеш ісці-ехаць — глядзі на два бакі. У нашым доме чатыры сцяны. Адна сцяна драўляная. Накорміць, напоіць, сагрэе. Пусцішся далей, убачыш сцяну каменную. Высокая, замшэлая. Дурні баяцца яе, а ты не бойся. Смела разводзь пад ёю цяпельца і начуй. Трэцяя — вадзяная. Таксама накорміць-напоіць, сыграе на кантэле. Што струна — то новая песня. Адна грае голасам векавечнага мудраца Вяйнямёйнена, другая — голасам прыгажуні Айно. З цябе дзвюх хопіць. Чацвёртая сцяна — вятры несуцішныя... Семдзесят зімак ужо мне. Вось яшчэ адна ляжапасцелецца. А як была я маладая, гадоў дваццаць назад, дык стану, бывала, на лыжы — і паляцела паперадзе любога ветру ў раён, кіламетраў трыццаць. Там атрымаю грошы, назад той жа дзень.

— Не злавілі цябе бандыты? — рагоча Васелэйн Мары.

— Не было таго лыжніка, які б нагнаў маю спадніцу ў лесе,— рагоча і Улы.

— Ну... А руны, цётка Улы? Цётка Мары?

— Рун мы табе наспяваем мех і яшчэ паўмеха. Але як абыдзеш дом наш, убачыш сцяну драўляную, другую каменную, трэцюю вадзяную, чацвёртую крутавертую. Усё разгледзіш, тады вяртайся па руны.

— Далёка ж вяртацца?

— Не бойся дарог, сынок. Пагрэйся чайком, падмацуйся сялявваю ды ідзі сабе. Цяпер машын па дарогах поўна. А каб сілы цябе не пакінулі, слухай струны мудрага Вяйнямёйнена і песні прыгажуні Айно.

Васелэйн Мары паставіла сподачак з моцна завараным чаем на стол, міла ўсміхнулася сяброўцы круглым белым тварам, кінула нешта кароценькае па-карэльску, тая адказала ўсмешкаю на ўсмешку, адмахнулася сухой лёгкай рукою і таксама слоўцы карэльскія кінула. Не ведаеш мовы — быццам вушэй і языка не маеш. Чакай, пакуль выратуе сама ж цётка Улы:

— Сказала Мары, замнога званю.

— А вы?

— А я ёй: чалавек негаваркі — што карова без звапочка.

І ўжо ўсе разам рагочам, нібы сонейка бліснула, сагрэла перад дарогаю.

Не пачуўшы ў той вечар старых карэльскіх рунаў, я ўранні пакінуў высокі бераг Куйтыярві, вёску Вольніцу ў Калевальскім раёне, хату Улы Малінан — сагрэты чаем і вясёлымі шчырымі жартамі. Хай будзе, як сказала Улы. Яна, пэўна, чалавек мудры, як усе старыя. Пашукаю спачатку сцяну драўляную, потым каменную, потым вадзяную і крутавертую, агледжуся ў прасторным, ад мора да мора, доме, дзе жывуць і песні Іванан Улы, і песні Васелэйн Мары, і ўсе астатнія карэльскія руны.

Я пайшоў.

Справа і злева густа стаялі сосны, елкі, бярозы — лес без канца і краю; рэдка — па зямлі, часцей — па камянні: круталобым, стракатым ад разнаколерных лішайнікаў — зялёных і сіне-сінюшных, ружовых і шэрых, сівых і чорных. Не абы-як ляжала камянне. Узвышалася крушнямі, і крушні туліліся адна да адной, адна за адной, выкладаючы паміж дрэваў звілістыя каменныя ручаіны. Гэтымі шляхамі-ручаінамі іх гнала калісьці вада, потым вада адчапілася, сама панеслася далей на поўдзень. Кожны камень, вялікі і малы, глядзеў з-за дрэва ці большага каменя амаль жывой істотаю, ля кожнага так і падбівала спыніцца, малюнкі-лішайнікі паразглядаць. Аднак я му-

сіў спяшацца далей. Пад нагамі хлюпала рудая лясная вада, трапчала сухое галлё, звінеў камень...

Праз два дні я стаяў на беразе славутага Анежскага возера.

Ля прыбярэжных валуноў гайдалася вада — ужо не тая рудая, што ў лесе, а чысцюткая, пра якую ў даведніках пішуць, што яна ў два разы чысцейшая за дыстыляваную. Сонца паглядала на яе неяк варожа, з неахвотаю, не хацела прыласкаць, сагрэць.

Пачынаў церусіць дождж.

— Праз пяць мінут ад першага прычала адпраўляецца цеплаход «Ладага»,— нечакана прагучаў над галавою дзявочы голас.

Я падаўся да трапа.

Густой белай параю праз тоўстую трубу дыхаў двухпалубны цеплаход, і чайкі кружыліся над ім, пабліскваючы белым крыллем. Разам з чайкамі над цеплаходам насіўся лёгкі белы вецер, і ці то ён у іхніх крылах, ці то іхнія крылы ў ветры апускалі на зямлю, на людзей, на мяне мяккую лагодную мелодыю, якая нагадвала пявучыя словы: «Лаўла лаўлу...»

Яшчэ паэт-дзекабрыст Фёдар Глінка, адбываючы тут палітычную высылку, заўважаў:

Сладок у лесной Карелы
Ее бесписьменный язык...

Далей:

И мне хотелось повторять
Их речь, ▪ ней слух мой веселился
Игрою звонкой буквы «л».

Лаўла лаўлу, Улы...

Вось і першая песня з берагоў Куйтыярві: першыя тры словы — белыя, чыстыя, з «игрою звонкой буквы «л».

Лаўла лаўлу...

# І СНЫ, І ЯВЫ

Тут ходзяць менш па зямлі, а больш — па дрэве. Калі з Кемі я вярнуўся ў Петразаводск, некалькі начэй мне чуліся ў сне чыесьці гулкія крокі па дашчаных дарогах.

Не так даўно паміж Кем'ю і Рабочым Востравам разабралі дзесяцікіламетровую драўляную дарогу, высыпалі гравійку, збіраліся класці асфальт.

Затое на Рабочым Востраве я не бачыў зямлі з-за драўлянага насцілу: вуліцы і плошчы ўкладзены дошкамі спрэс, нібы палуба карабля — ад борта да борта. Ідзе чалавек у адным канцы вуліцы, а ў другім чуваць яго гулкія крокі — драўляны насціл рэзаніруе туга напятай струной.

Нават марская затока — драўляная: вады не відаць пад круглым дрэвам, сабраным у запані.

На сарціровачным рэйдзе прыслухаешся — падумаеш: а ці не вучыцца дрэва гаварыць? Прыгнаныя сюды молевым сплавам бярвёны клацаюць-перагаворваюцца ў шырокім галоўным калідоры, а потым, сілай чалавечых рук і багроў адагнаныя ад агульнай шчэці, яны сутыкаюцца ў вузенькіх дашчаных рукавах, звіняць, гудуць, уздыхаюць — там і рудстойка, і палубнік, і дзелавое, і дрывяное... Толькі ў калідорчыку з рэзанансавым дрэвам ціха. Два-тры бервяны за дзень трапляе сюды — ім не цесна. Праўда, кожнае само па сабе — цэлы аркестр. Самае дарагое, самае рэдкае, самае звонкае, і адпраўляецца не абы-куды: на скрыпкі, гітары, балалайкі, беларускія цымбалы і карэльскія кантэле.

Драўляныя масты і тратуары ў Кемі падымаюць мяне на Лепас-Востраў да шатровага Успенскага сабора — песні дрэва і мужыцкай сякеры.

Хатка вартаўніцы Аўдоцці Булыгінай — насупраць сабора. Заўважыўшы мяне, яна падышла да акна. Я паказаў паперку з гарсавета на права наведаць сабор, і старая ў адказ кіўнула галавою: зараз, маўляў, іду.

Прыйшла.

Забрала паперку, і мы падаліся да шатроў.

Шатры ўзносіліся пад неба стромыя, аздоба на іх ляжала строгая, немудрагелістая. Там-сям была прышыта новая цясіна, шалёвіна ў паддашку жаўцела — нехта рамантаваў.

Старая з сякераю на плячы абышла сабор, зноў вярнулася да мяне, уздыхнула:

— Хацела ставенькі адчыніць, сонейка ў алтар пусціць, ды не змагла. Вокны ў саборы высокія, а ён кожную ставеньку прыканапаціў... Чорт гэты.

— Вы на каго?

— Ат! — злосна махнула рукою.— Далі п'яніцу рэстафра-ратара... Жлукціць гарэлку, а мне шукай яго. Прывяду — зноў збяжыць. Без яго дзялоў хапае. Аднаму адкрый пакажы, потым — другому. Сюды ж цяпер тышчы плывуць. Нават з іншых гасударстваў...

Ля плота спыніўся маладзенькі міліцыянер.

— Бабка, пусці паглядзець.

— Дай спрафку.

— Якую табе спрафку? Хіба не бачыш?..

— Ыйш, думае, як красна шапка, дык і ўласць. А мне семдзесят тры гадкі. Во мая ўласць! На што пастаўлена, тое і раблю!

З-за ганка сабора тырчалі ногі «рэстафратара»: адна ў боце, другая босая. Ён спаў...

Пакідаючы Лепас-Востраў, я спыніўся на драўляным мосце праз раку Кем, каб яшчэ раз палюбавацца саборам.

Тры драўляныя шатры, тры рослыя браты, адзін прыгажэйшы за другога, узвышаліся над горадам...

Сэрцам адчутая стыхія дрэва пацягнула мяне ў лес, дзе яно яшчэ расло, гатовае заўтра гэтак жа аддана служыць людзям.

## І ТУТ ВЫ, БРАТКІ-БЕЛАРУСЫ?

Чатыры дні разам з галоўным інжынерам Пудажскага леспрамгаса Дзмітрыем Станіслававічам Рынкевічам ездзіў я па маляўнічым, засыпаным восеньскай пазалотаю ўзбярэжжы Анежскага возера. За гэты час мы мянялі «казла» на бензавоз, бензавоз — на звычайную лодку, лодку — на буксірны кацер, зноў перасаджваліся на «казла», і ўсе чатыры дні вакол нас шумелі лясы, лясы, лясы...

Ужо на молевым сплаве падцягвалі «хвасты», апошнія бярвёны біліся ў цяснінах парогаў і несліся далей; ужо на прыазёрных рэках пачыналі разбіраць сарціровачныя рэйды, рэчышчы ачышчалі ад аварыйніку і тапляку, падымалі на берагі драўляныя шнуры абаноўкі; ужо сплытчыкі пераключаліся на берагавыя работы, а жанчыны незадаволена пагаворвалі, што замест трох-чатырох соцень у месяц да самай вясны, пакуль не скісне лёд на рэках і возеры, будуць зарабляць усяго па сто-паўтараста рублёў; ужо заяц мяняў шэрую поўсць на белую, а каляіны лясных дарог трымалі на сабе тую ж самую ношку: лесавозы як вазілі лес, так і вазілі, не болей і не меней, чымся па сонечных летніх дарогах. Адно і розніца была, што ўлетку яны шнуравалі па сухіх летніках, а цяпер мясілі гразь, плавалі па вадзе, чакаючы зімнікаў, зазімку.

Такі лёс лесу: давай, давай, давай...

Канчаўся трэці квартал, блізка быў канец года, наперадзе чакала неласкавая паўночная зіма з лютымі маразамі і бясконцымі снягамі, леспрамгасы недавыконвалі планы вывазкі драўніны, кожны нумар цэнтральнай карэльскай газеты «Ленинская правда» пачынаўся зводкаю лесавывазак, і тут ужо ўвесь Пудажскі раён — адзін з асноўных плацдармаў лесанарыхтовак у Карэліі — жыў, пачынаў і канчаў дзень за днём думкамі аб гатоўнасці лесавозаў і тралёвачнікаў, аб кубатуры, хлыстах, спаборніцтве малых комплексных брыгад, аб вывазцы, вывазцы, вывазцы...

У адзін з такіх запарлівых дзён тэлефоны леспрамгасаўскага начальства былі падключаны да праваду саюзнага міністра: пачалася пераклічка з кіраўніцтвам буйнейшых леспрамгасаў краіны. Адных міністр падтрымліваў, другіх без шкадобы хвастаў словам, пагрозамі, з усіх патрабаваў, і ўвесь гэты час Рынкевіч не ўставаў з-за стала, як прырос да крэсла і тэлефоннай трубкі. Калі ж пераклічка скончылася, яго лоб аж блішчаў ад поту.

— Пранесла? — спытаў я.

— Пранесла.

Ён ускочыў з крэсла, накінуў на плечы паліто, пальцамі далікатна правёў па рэдкіх вусіках, таксама спацелых, выскачыў на свежае паветра і кінуўся да машыны — яна з раніцы чакала пры ганку. Я скокнуў на жалезную прыступку за ім следам, машына рванулася і памчала нас з гарадка ў лес, за раку Водлу.

Спачатку заехалі на прыстань Падпарожжа. На сарціровачным рэйдзе разбіраўся апошні молевы сплаў. Рынкевіч першы выскачыў з машыны і толькі тут, з высокага берага агледзеўшы раку, дзе з-за людзей і дрэва амаль не было відаць вады, супакоіўся.

— Мільён кубікаў за лета! — не адрываючы вачэй ад рэйдавых парадкаў, кінуў ён мне.— Мільён!.. З аднаго рэйду столькі. Га?!. — і пашыбаваў да рабочых.

Я наважыўся нагнаць Рынкевіча, але не змог, бо спрыту на вузенькіх дашчаных бонах у мяне было куды меней, і я ўжо адзін снаваў паміж сарціровачнымі калідорамі, глядзеў, як разумніцы-машыны аграмаднымі жалезнымі рукамі адбіраюць бярвенне, лёгкімі трасамі мацуюць яго ў пучкі і пасылаюць далей, на вязку — у грабёнкі, потым у плыты, караваны. Ад машын падаўся далей па бонах і, ужо мінаючы невялічкую канторку дзесятніка, пачуў, як з неба, голас Рынкевіча.

Я адчыніў дзверы канторкі — Рынкевіч сядзеў за сталом, крычаў у тэлефонную трубку:

— Ало!.. Дрозд?.. Калі будзеш упірацца, зацягнеш

з зімнікам, я з цябе... катлету зраблю!.. Зразумеў?.. Машыны як вазілі лес, так і будуць вазіць, не дам ніводнай. І каб дарога была! Ясна?!. Не маеш права зрываць дзяржаўны план!..

І зноў мы сядзелі ў машыне, калі над рэйдам пакаціўся густы малады бас:

— Галоўны-ы!.. Галоўны-ы!..

— Хто яшчэ там? — Рынкевіч высунуўся з дзверцаў.

Па тоўстым і тонкім бярвенні, што на плыву ляжала ў вадзе яшчэ не вязанае ў плыты, раскідваючы даўжэзныя ногі, абы хутчэй, бег здаровы дзяцюк. Сігаў дзе праз два бервяны, дзе праз тры, і яны пад ім то давалі нырца, то вынырвалі, а боты, здавалася, нават вады не краналі.

— За Водлу падкіньце, Дзмітры Станіслававіч,— папрасіў ён, падбегшы да машыны.

Калі незнаёмы сядзеў побач са мною, я разгледзеў яго густую рыжую бараду, вясёлы малады твар і... боты, якіх зроду не бачыў: няйнакш, як шыліся па слановай мерцы, спецыяльным заказам.

— Дзе ты цяпер? — спытаў Рынкевіч.

— На фарміровачным.

— Дурань. Кінуў завочны інстытут, паехаў на іншыя рэйды. Што знайшоў?

— Фігу з маслам.

— А тут ужо б інжынерам стаў.

— Пляваць я хацеў на інжынерства. Грошы маю не меншыя, а чыны мяне не грэюць. Без іх лаўчэй.

— Лягчэй?

— Не лягчэй — лаўчэй. Жывеш па сваёй натуры, як хочаш. Сам сабою астаешся. А то кожны над табою начальнік: рабі тое, не рабі гэта...

— Магчыма.

— Вось чакаю кацер з Кандапогі.

— Зноў чарняўка плыве?

— Плыве...

— Жаніцца думаеш?

— Як захаладае.

Незнаёмы скасіўся на Рынкевіча, усміхнуўся.

— Чаму як захаладае?

— Там спатрэбіцца пагрэцца. Вось і будзе печка.

— Фу ты!..

Машына спынілася на правым беразе Водлы, і наш вясёлы пасажыр з рогатам выскачыў на дарогу.

— Цяпер куды? — спытаў шафёр у Рынкевіча.

— На зімнік. Дразда шукаць. Парыць, відаць, косці на Анежскім лесапункце... Шуруй!

Дзмітры Станіслававіч здзіўляў мяне сваёй пастаяннай заклапочанасцю. Неяк адразу, з першай сустрэчы, я разгледзеў у ім дзелавога, руплівага чалавека; акрамя таго, ужо ведаў немалаважнае для сябе — што ён мой зямляк-беларус, з Дзятлаўскага раёна. Недзе ў пасляваенныя гады скончыў Мінскі лесатэхнічны інстытут, тады ж прыехаў працаваць у Карэлію, і вось прыжыўся, палюбіў край, людзей, а ў родную вёску штолета хоць на некалькі дзён ды вырвецца. Праўда, побач са мною, апошнімі днямі, яму было не да ўспамінаў пра родны кут, бацькаву хату, бо гарэў план, не была гатова на зіму дарога, а тут яшчэ дырэктар леспрамгаса выбраўся ў адпачынак, і ўсе клопаты леглі на яго плечы. Але вось ён дастаў з кішэні чырванабокі яблык, пачаставаў мяне, потым знайшоў яшчэ адзін — шафёру.

— Прыслалі з дому. З Дзятлаўшчыны. У нас жа там сады-сады!.. У маі як усыплюць вёску квеценню, малаком белым разальюцца... Любата-а!..

— Тут — не тое?..

— Поўнач усё ж. Не тыя яблычкі...

Спыніў машыну.

Справа ад дарогі, за рэдкімі соснамі, відне́ўся разверануты экскаватарамі кар'ер, і адтуль, з кар'ера, цяжка, пад грузам, адна за адной выпаўзалі машыны. Яны вазілі гравій на той самы зімнік, з-за якога галоўны інжынер нядаўна лаяўся па тэлефоне. Мы падышлі бліжэй: экска-

ватар, то падбіраючы пад сябе чарпак, то пасылаючы яго на доўгай руцэ ўперад, сыпаў пароду ў кузавы МАЗаў і ЗІЛаў, і машыны, прысядаючы на рысорах, адна за адной пакідалі кар'ер, даючы месца іншым. Напэўна, тэлефонная размова зрабіла сваё.

Недзе за кар'ерам гула бензапіла, падалі ніц, стогнучы на ўвесь лес, дрэвы. Мы абышлі балотца, перасеклі ляжнёўку, цераз эстакаду прабраліся ў яловы падлесак. Па натужлівай песні пілы, па елцы, што насупраць гайдалася зялёнай макушай, выглядаючы, куды ўпасці, засеклі адразу, дзе завіхаюцца вальшчыкі.

— Тут наша лепшая брыгада,— сказаў Дзмітры Станіслававіч.— Вунь ён, герой. Бяжыць...

Акурат на нас у жоўтых пексах з шырокімі абвіслымі адваротамі шыбаваў рабочы.

— Чаму без каскі, брыгадзір? — адразу выгаварыў Рынкевіч.— Не ведаеш тэхнікі бяспекі? Прыклад людзям падаеш?

Але той і сам быў настроены ваяўніча:

— Навошта тут тэхніка бяспекі, Дзмітры Станіслававіч? Кругом жэрдзе адно.

— Ты мне... Каб апошні раз! Дайшло?.. Знаёмцеся,— пацішэлым голасам дадаў ён з лёгенькай, схаванай пад вусамі ўсмешкаю.— Адзін з лепшых вальшчыкаў Васіль Іванавіч Бельскі. Беларус.

— Дзмітры Станіслававіч, я сур'ёзна. Няма тут чаго валіць,— не мог супакоіцца брыгадзір.

— Знаёмся, кажу, з земляком,— зноў сурова звёў някідкія светлыя бровы Рынкевіч.

— Ды я...— Хударлявы, жылісты ў руках і шыі, яшчэ малады мужчына, па ўсім відаць — не гультай, падаў мне сухаватую, але моцную руку, сам жа ўсё глядзеў у вочы галоўнаму інжынеру, маліў выслухаць.— Падумайце... За першую дэкаду сорак пяць рублікаў атрымаў на рукі. Калі такое было? Жонка сотню, а мужык — сорак пяць. Ды яна ж з такімі заробкамі на парог не пусціць...

— Ш-ша!.. Адкуль родам? — змераўшы строгім паглядам вальшчыка, спытаў Рынкевіч.

— Ды... З Ушач я,— нехаця прызнаўся той і, уздыхнуўшы, апусціў галаў.— Што з таго?

— Вось бачыш? З Віцебшчыны. Я з Дзятлаўскага раёна. Чуў пра такі?.. Госць наш з Мінска. Сабраліся, значыцца, землякі. Сваякі, можна сказаць. А ты расплакаўся... Сарамата. Лепшы брыгадзір!..

— На яловых лапках лепшы не будзеш.

— Лепшы, кажу. Эх ты-ы!..

— Ды я...

— Што ты-ы?

— Я тут...— Чалавек вінавата таптаўся на зялёных лапках, апусціўшы рукі, нешта намагаўся сказаць, каб выправіць становішча, але не мог знайсці патрэбныя словы.

— Усё, усё...— махнуў рукою Рынкевіч.— Сапсаваў ты мне абедню.

Бельскі вінавата зірнуў на мяне, быццам ужо і сам шкадаваў, што атрымалася гэтак, потым зірнуў на Рынкевіча, зноў перавёў пагляд на мяне — ці не шукаў падтрымкі.

— Вось што, пакуль працуй. Падумаю, куды цябе перакінуць. Але ж, сам ведаеш, нехта і тут павінен... Ладна. Пяройдзеш у суседні квартал?

— Глядзеў і там. Такое самае жэрдзе.

— Бачыш? Выбарачна трэба, калі па-разумнаму.

— Выбіраць няма чаго.

— Як гэта — няма? Вунь бярэзіна. Кепская?.. А вунь яліна, за ёй — яшчэ адна.

— Калгатня.

— Ну, ідзі працуй.

Так мы і развіталіся з Васілём Іванавічам, нават не пагаварыўшы па-людску, як землякі.

Непадалёк ад нас, у зялёным маладым гушчары, Бельскі адшукаў і паваліў дрэва, потым другое і трэцяе — там

3 Зак. 1260

несціхана пакуль што гурчаў матор, чуліся каманды на чыкіроўцы. А Рынкевіч маўчаў. Невясёлы настрой пільшчыка перадаўся яму, занепакоіў, хоць пры рабочым ён гэта не паказваў. Сумнымі вачамі глядзеў у той бок, дзе працаваў Бельскі, думаў сваё і не толькі сваё: бачыў, напэўна, зямлю не толькі вачамі лесапрамыслоўца, катораму абы больш дрэва ўзяць з дзялянкі, валіць ды валіць, а там — хоць трава не расці, але і вачамі гаспадара...

Адно сеўшы ў машыну, ён сказаў мне, мабыць, тое, што думаў у лесе пасля размовы са сваім брыгадзірам:

— Людзі едуць сюды, упэўненыя, што тут лясам няма канца і краю. Увойдзеш у лес — не выйдзеш. Задзярэш галаў — неба не ўбачыш.

— Карэлія ўсё ж... Гэтак і мне раней уяўлялася,— прызнаўся я.

Рынкевіч усміхнуўся, кіўнуў галавою:

— Яно-то так... Карэлія багатая лесам яшчэ і цяпер. Але што будзе праз дзесяць гадоў?.. Мы ўжо нарыхтоўваем штогод каля дваццаці мільёнаў кубікаў. Нават калі рубкі не павялічацца, будуць такія, як сёння, то праз дзесяць гадоў Карэлія не толькі перастане быць экспарцёрам лесу, але нават на свае патрэбы вымушана будзе завозіць сем — дзевяць мільёнаў кубікаў штогод. Прамысловасць у нас вырасла. Драўніны перапрацоўвае шмат... Адкуль жа мы яе прывязём? Можа, з Беларусі?.. Але... Гэта пакуль што прагноз.

Жыццё прыспешвала, патрабавала лесаматэрыялаў больш і больш, планы лесанарыхтовак раслі, здавалася б — не да паэзіі, не да заўтрашняга дня, калі крычыць-моліць сённяшні. Але Рынкевіч непакоіўся і аб заўтрашнім. Можа, ад празмернай эмацыянальнасці паддаўся настрою Бельскага? Можа, абодва перабольшалі значэнне выпадку? Можа, самі згушчаюць хмары? Як-ніяк, а Карэлія — лясны арсенал краіны. Адсюль дрэва плыве і едзе ва ўсе канцы краіны і за мяжу; сёння плыве і едзе гэтак густа, як плыло і ехала ўчора і пазаўчора, нават

гусцей. Дык, магчыма, і не мізарнее драўляная рака краю? Мо гэтак будзе і заўтра, і паслязаўтра?..

На мяне зноў глядзяць пранiклівыя вочы Рынкевіча. «Не разганяйся»,— супыняюць яны мяне. Але я не бянтэжуся. Бо думка, поўная надзей на лепшае, супакойвае: чаму б не разагнацца бензапілам, сотням і тысячам, калі ёсць лес, ёсць галовы, абавязкова ёсць, каторым відаць шырэй і глыбей, як нам, каторыя ўсё заўважаць, усё папярэдзяць?.. А настрою Бельскага не трэба паддавацца. Любы настрой — капрызлівы барометр. Вось заехаць бы куды-небудзь у глыбінны лесапункт да вопытнага ляснога гаспадарніка, звесці яго з Рынкевічам, моўчкі разважаю далей, хай бы яны пагаварылі, паспрачаліся — тады і мне, слухаючы іх, тое-сёе праясніцца...

Але мы ўсё яшчэ шукалі Дразда, з якога Рынкевіч гразіўся зрабіць «адбіўную».

Адшукалі нарэшце.

Гэта быў прараб будаўнічага ўпраўлення — зноў жа зямляк, беларус. І зусім не Дрозд, як яго ахрысціў па тэлефоне галоўны інжынер,— Драздоўскі Фёдар Вікенцьевіч. І катлету з яго зрабіць наўрад ці здолеў бы хоць хто: гэта я адчуў адразу.

— Дарога каму патрэбна? Вам, Станіслававіч?.. Дык пасобце. Вы ж камуніст. Клопат агульны. Дайце пяток машын,— ішоў у наступ Драздоўскі.

— Усе машыны на вывазцы лесу. Дзесяты раз кажу,— стаяў на сваім галоўны інжынер.— План вывазкі мне ніхто зрываць не дазволіць.

— А дарога — не план? Дзе машыны ўзяць?

— Дзе хочаш. Ты падрадчык.

— Вам жа тэмпы патрэбны,— трос рукамі Драздоўскі.— Хоць людзьмі паможыце.

— Ды што ты заладзіў? Дайце, паможыце... Жабраком прыкідваешся. Быццам не ты, а я буду,— узарваўся Рынкевіч.

— Зразумейце, Станіслававіч,— ужо маліў Драздоў-

скі,— сіл не хапае. Усёй душой хачу пракласці да маразоў, да снегу, самому выгадна, ды штаны вузкія. Ступіць шырака не даюць.

— Хай спадуць штаны твае, а рабі.

Адзін зарагатаў, другі сядзеў надзьмуты, але абодва пасля жарту пайшлі на зближэнне, паразумеліся: знайшліся ў Рынкевіча машыны, у Драздоўскага — людзі.

Паспакайнеўшы, Фёдар Вікенцьевіч запрасіў нас да сябе ў госці, у Пудажгорск, але ехаць туды было нябліэка, кіламетраў трыццаць, і мы адмовіліся. Не спяшаючыся развітацца, прыселі. Разгаварыліся, і ён пачаў расказваць, як, прыехаўшы з Беларусі, атабарыўся ў Пудажгорску, як ставіў дом на беларускі лад, з шырокімі нізкімі вокнамі, хоць усе казалі: «Змерзнеш, Федзька, за гэтымі прыгожымі вокнамі. Падаконнік трэба класці на восьмым вянцы, а ты — на чацвёртым. Вечна будзеш з мядзведзямі цалавацца праз шыбку ці ў сумёты глядзець». Цяпер ён смяяўся з гэтай перасцярогі, смяяўся і тады: «Не з'ядуць мядзведзі, беларусы нясмачныя, жылістыя». Нават веранду асмеліўся ставіць лёгкую, пад шклом з двух бакоў, хоць усе кругом ставяць глухія, з круглага бервяна; ганак занізіў, на тры прыступкі замест васьмі — дзесяці, аканіцы з беларускім арнаментам навесіў, ліштву пад некалькі фарбаў распісаў і адно печ выклаў па-мясцоваму, па-карэльску, са складаным дымаходам уверх-уніз: праз меру жартаваць з паўночнымі маразамі, падумаў, не варта ўсё ж.

— Цяпер у пасёлку шмат хто па-мойму робіць. Так і кажуць: стаўлю хату па-Федзькаваму, беларускую,— нераможна рагочa Драздоўскі.

Можна было б і заехаць, пабываць у беларускай хаце на карэльскай зямлі, мая душа пагаджалася, ды ўпёрся, заўпарціўся Рынкевіч...

Мы развіталіся з Драздоўскім і паехалі на поўдзень, у вялікі пасёлак лесарубаў Гакугсу — да тамашняга ляснога «караля» Рымшы Віктара Іванавіча.

— Яшчэ аднаго пакажу,— усміхнуўся дарогаю Рынкевіч.— У нашых лясах браткоў-беларусаў цераз аднаго, калі хочаш...

Гакугса — гэта Мурамшчына. Яе ляснога караля мы адшукалі ў канторы неабсяжнага каралеўства. Ён сядзеў у вайсковым бушлаце, у зусім не каралеўскай зімовай аблавушцы, пальчаткі ляжалі на стале каля лічыльнікаў, рука — на лічыльніках, з-пад стала тырчалі ногі ў кірзачах. Відаць па ўсім: ён толькі што завінуў у кантору.

— Г-а, Дзмітры Станіслававіч!.. Праходзьце.

Выйшаў з-за стала да нас, моцна паціснуў руку аднаму і другому. Задаволеная ўсмешка разлілася па ўсім твары, маладым і прыязным, шчырым, як мне падалося, і да Рынкевіча, і да мяне. Пазнаёміліся. Рымша адразу расказаў паляўнічы анекдот і прапанаваў, пакуль не зайшло сонца, сплаваць да былога Мурамскага манастыра.

Мы выйшлі на рэчку Гакугсу.

Кацераў ля прычала не было, яшчэ не вярнуліся з работы. Рымша прывалок і паставіў на лодку матор, заправіў яго бензінам, і мы паплылі ў Мурамскае возера.

Захад сонца выдаўся на дзіва чысты, сакавіта-чырвоны. У чорнай празрыстай вадзе раскалыхваліся адбіткі пахілых прыбярэжных бяроз і чароту. Неўзабаве сустрэлі кацер «Мурамец» — ён вяртаўся з жанчынамі ў вёску. Тут жа, на вадзе, нрышвартаваліся бортам да борта, перайшлі на кацер, а жанчыны пераселі ў лодку, пажадалі адны другім шчаслівай дарогі і разміпуліся. Праз якіх пяць хвілін мы ўжо ўваходзілі ў шырознае, акаймаванае чырвоным лапушыстым чаротам Мурамскае возера.

Да самага далягляду вада ляжала ружовая, зіхаткая, у фарватэры «Мурамца» фарбы збягаліся да густа-чырвоных, быццам кроў старажытных падзеяў усплыла на паверхню.

Водар даў. іны, некранутасці сённяшнім часам панаваў на востраве. Векавыя, ажно сінія, сосны вартавалі ззелянелыя старыя муры і скасабочаныя драўляныя будынкі, старадаўнюю царкву, глухую і нямую званіцу — без звона, магутны крыж на магіле самаўладнай ігуменні Неанілы. Калісьці Неаніла жыла ў Кіжах. Пачуўшы, што ў мужчынскім Мурамскім манастыры няма ігумена і цаpуе анархія, села ў кіжанку на вёслы, пераплыла Анежскае возера і супроць волі Сінода прымусіла мужчын прызнаць сябе. Потым сабрала жанчын, прагнала мужыкоў і заснавала жаночы манастыр. Былыя салдаты, інваліды вайны, для каторых Мурам аставаўся адзіным прытулкам, паскардзіліся ў Сінод на самаўпраўніцу. Адтуль павыехалі прадстаўнікі — супакоіць Неанілу, аднак яна памерла яшчэ да іх прыезду. Манастыр зноў адышоў мужчынам, а на магіле Неанілы ў 1780 годзе паставілі высозны дубовы крыж.

На каменным берагавым мысе ўжо хліпаў чырвоны маяк, калі «Мурамец» адчаліў ад берага.

Цямнела хутка.

Мы спусціліся ў кубрык, і тут некалькі разоў я пачынаў з Рымшам размову пра лес. Але яму не хацелася гаварыць пра работу, ён усё рагатаў, жартаваў, і мне часам здавалася, што гэта ніякі не начальнік лесапункта, а бесклапотны лясун, неўтаймоўна-вясёлая наіўная душа. Нават пры сваім начальніку ён сыпаў паляўнічымі анекдотамі, заражаў усіх рогатам, вясёлым настроем, нейкім блазенствам. Яшчэ я не мог здагадацца, што па тых анекдотах, мастацкіх мініяцюрах, якраз і буду памятаць яго чыстую душу, вясёлыя светлыя вочы.

— Я ж са стрэльбаю нарадзіўся...

Гаварыў — і ўвесь час:

— Ах!..

— Хо-хо-хо!..

— Ф'ю-у, бах!..

Але — па парадку.

## ПРЫГОДЫ ВІКТАРА РЫМШЫ, ПАЧУТЫЯ Ў КУБРЫКУ «МУРАМЦА»

— Мядзведзяў цьма распладзілася. У лес зойдзеш — адразу касалапаму лапу пацісьнеш...

Нешта выбраўся я па журавіны. Узяў пад настрой двух кабялькоў, Рэкса і Рэпса. Увязалася і сука, матка іхняя, «хлопчыкаў» адных не пусціла.

Ідзём, балота нагамі раўнуем. Хрась — сучок, чвяк — вадзічка. Не агледзеліся, як вядзерца і кашэль поўныя. Толькі б дадому павярнуць, чую: спявае Каця... Скончыць песню — чуваць: р-р-ры!.. Зноў заспявае, сціхне — зноў рыканне... «Уга! — думаю.— Гэта ж яна на мядзведзя». І раптам: ай-яй-яй! Як заякоча Кацька!.. Сціхла. А душа мая напалам адразу, братцы. Бягу туды, праз кожныя тры крокі спынюся — паслухаю... Ціха. Я далей, між дрэў. А «хлопчыкі» заліваюцца, дуралейчыкі. Потым я — зір з-за дрэваў: ляжыць Каця на баку — яна і не яна. Уся чырвоная, бо шубка чорная з рыжымі падпаламі — ад галавы да хваста здзёртая. Жах гасподні. «Хлопчыкі» мордачкамі ў матку тыцкаюць, па духу яе чуюць, а пазнаць не могуць. І мядзведзіца збоч стаіць: ніхто нікога не чапае. І я стаю, рукі апусціўшы,— няма чым бабахнуць скурадзёрку. Рукамі ж не задушыш і журавінамі не закідаеш. Паглядзеў ёй у самыя вочы, яна на мяне глянула, галаву скрывіла набок. Пастаяла гэтак, на заднія лапы села — пярэдняй слязу выцірае. Адкуль тыя слёзы ў яе ўзяліся, сам не ведаю. Паплакала і сваім ходам — у лес. Скавычуць паціху мае сіроткі, я перад імі стаю сіратою казанскаю, сказаць адно аднаму нічога не можам. Што плакаць ды ўбівацца? Шкада Кацю, верная была. Але ж мядзведзіца ўжо і сама, бачу, пашкадавала, што гэткае нарабіла — плакала. Памылілася, крывалапая. Не здагадалася, што ў Каці дзеткі. Іначай не чапала б. Дзяцей мядзведзіца бясконца любіць. Сваіх і чужых.

Там Кацю і пахавалі. У журавінах.

— Э-ге!.. З мядзведзямі ў мяне былі сустрэчы ўсялякія. З абдымкамі і без абдымкаў. Якія хочаш. Крывалапы на мяне: р-р-ры-ы! Вочы чырвоныя жахам нальe. Я на яго: р-р-ры-ы!.. І разыдземся. Бачыць — на такога ж нарваўся, як сам...

Адзін раз абгаўкалі мае «хлопчыкі» мядзведзіцу. А ў яе малое. «Хлопчыкаў» яна ад дзіцёнка адцёрла, загнала малое на дрэва. Тое аж на самую вяршыню забралася. У мяне і стрэльба з сабою, ды спомніў, як мядзведзіца слязу на Кацінай магіле пусціла,— не стаў чапаць. За «хлопчыкаў» — ды ў лес. Спіною, ідучы, чую, як мядзведзіца нервуецца: эу-у, эу-у!.. Заве малое. З цікавасці вярнуўся. Воддаль стаў, паглядаю, «хлопчыкаў» паміж ног трымаю. Дзіўна. Малое так напалохалася, што і голасу не падае. Старая стане на заднія лапы, папхне пярэднімі дрэва — гайдаецца. Не лезе на яго, баіцца, каб не зламалася, бо тонкае: малое заб'ецца. Падышоў я бліжэй. Мяне ўбачыла — убок адышла. Э-ге, думаю, вось дык дзіва! Адышла ад дрэва, каб не палохаўся, малое палез здымаць. Што ж, скінуў з пляча стрэльбу, паставіў ля дрэва, сам палез. Яна задрала морду, сочыць за мною, маўчыць, стрэльбы не чапае. Зразумела, што зла ёй рабіць не стану... Дабраўся я да вяршыні, малому няма куды дзявацца — здалося. Пад паху яго — спускаюся. Да палавіны дрэва далез — тут мядзведзік у мяне хоп, выкруціўся. Я зноў вярнуўся. Другі раз валаку — зноў жа выкруціўся, ужо на самым камлі. Ат, думаю, гары гарам, каб з-за цябе мучыўся. Зір на мядзведзіцу: стаіць, чакае, ледзь не плача. Жаласць разабрала — трэці раз палез. Цяпер, думаю, не паддурыш. Зняў са штаноў рэмень, накінуў ашыйнікам — павалок. Спусцімся, прыкідваю, яшчэ гэтым рэменем па задніцы ўсыплю. Хай матка любуецца. Ды ён, зараза, і тут мяне абдурыў. Перад саменькай зямлёю скочыў раней за мяне ды ў лес раменьчык мой павалок. Фу ты!.. Навошта цацкаўся з табою, гадасць малая!..

Ішоў — да самага дому штаны ў руках трымаў.

— Яшчэ во дзіва здарылася. Скажу — не паверыце. Ніхто не верыць. А было. Паслухайце.

Па першым снезе выбраўся ў лес з рукзаком і стрэльбаю. Не так страляць ішоў, як сляды глядзець. Ногі збіў, голад пачуў. Прысеў на выварацъ, дастаў хлеб, каўбасу, расклаўся, абедаю. Чую: хрась-хруп, хрась-хруп... Выходзіць да мяне ласіха, малы ля боку. Ну, думаю, па тваю душу, Рымша, з'явілася! Стрэльба ў старане асталася, а ласіха са мною — морда к мордзе. Што рабіць? Ускочыў, бо дзе ж тут уседзіш. Але жмакаю, абедаю. Малое культурнейшае, маўчыць, а старая нахаба сунула морду ў рукзак, губамі яго мусоліць. Газетку на губе выцягнула, скуб-скуб, як чытае. Газета не спадабалася, адкінула. Да яды пачала морду вярнуць. Наздрой павяла — хлеб зляцеў. Дакуль гэтае кіно, думаю, будзе працягвацца — махнуў на яе рукою: кацiся да д'ябла... Не адыходзіць. Ужо смешна робіцца. Каўбасою замахнуўся на дурніцу — не адступае. Во дзіва!.. Аж чую ў старане: лоп-лоп-лоп... Нехта цяжкі ельнік ламае. Трэсь-хрась, трэсь-хрась... Мядзведзь, вядома. Нішто сабе пашанцавала: у кампаніі з такімі звярамі абедаць. Га?.. Далей што?.. Падскочыў да стрэльбы ды і ўклаў мядзведзя. Ядры яго...

Яшчэ адно дзіва — не спужалася ласіха майго стрэлу. Зваліў мядзведзя, тады яна павяла малое ў лес. Супакоена, ціха. Дарогу ёй, бачыце, расчысціў.

— Прыехаў я сюды ў пяцьдзесят пятым годзе. Першы раз на дзіка сабраўся з мужыкамі. Дамовіліся на чатыры гадзіны, а яны — шась раней. Раздумалі мяне браць. Сумняваліся — які з новенькага паляўнічы?.. Ат, думаю, без вас дарогу знайду.

Паціху тупаю сабе — зайчыка падстрэліў. Далей — другога. Раптам, зусім побач, ба-бах — чужы стрэл. Дзесятак крокаў адмераў — яшчэ бабахнула. Зір з-за дрэва: стаіць адзін мой таварыш, з каторым меўся ісці паляваць,— белая ліпіна. Пальцы трымкаюць пад курком, калупаюць: гільзу ніяк не выцягне са ствала, каб пераза-

радзіць. А на яго — ласіха прэ!.. Вось дык уліп таварыш!.. Ну, што мне рабіць? Не думаў страляць дзіва такое, ласіху, ды куды дзенешся — чалавек гіне... Забіў. Падышоў да таварыша, а ён і асунуўся на снег. Са страху гэтак аслабеў. Не глядзіць мне ў вочы, сорам есць.

А што ён нарабіў у лесе? Тым першым стрэлам, каторы я чуў, зваліў малое ласянятка. Пень бяздушны... Рука ж паднялася!..

Пасля сам прасіў: «Пойдзем, Іванавіч, папалюем?..» — «Не, кажу, з табою я не хадок. У мяне іншыя правілы...»

Кацер прыглушыў матор, збавіў ход, чуфыкнуў раз-другі і глыбей апусціўся ў ваду. З цёплага ўтульнага кубрыка мы выйшлі на палубу.

Неба зацягнулася хмарамі: ні зорак, ні месяца. Неспадзявана пасля чырвонага сонечнага захаду сонца падахвоціўся імжыць дождж. На беразе нас чакалі Рэкс і Рэпс: паджарыя, чорныя, з мышастымі падпаламі ганчакі.

— Сумуеце, сіроткі?.. І хто вам падказаў, дзе мяне трэба чакаць? Ну, пайшлі ў цяпло, павячэраем,— ні то ім ні то нам, а можа, усім адразу сказаў Рымша і напрамкі павёў да бліжэйшых агнёў.

З кабялькамі ён гаварыў на дзіва пяшчотна, быццам з уласнымі дзецьмі, і яны, безумоўна, разумелі душу гаспадара, любілі яго ў сваёй сабачай адданасці — усю дарогу наравілі хоць бокам церануцца аб ягоныя боты, падскочыць і ляпнуць бруднымі лапамі па не дужа чыстай брызентавай робе. Рымша плаціў ім такой жа любоўю, і ў гэтай любові добра бачылася яго шчырая, перад усім жывым наросхрыст, душа. Ужо я не шкадаваў, што ён не паддаўся на маё падбухторванне — куды і як гнуць размову, астаўся сам сабою — не часта ж бывае, каб і пад нейкім «прэсам» чалавек аставаўся такі, які ён ёсць: хочаш — прымай і прызнавай такога, а не хочаш — такой

бяды. І дзіўна: усе Рымшавы думкі пра сабак, прыгоды сярод мядзведзяў, ласёў, зайцоў ужо не адрывалі яго вобраз ад штодзённага ляснога клопату ў маіх вачах; я быў упэўнены, што заўтра ўранні, калі пачнецца яшчэ адзін працоўны дзень у Гакугсе і на маладыя Рымшавы плечы лягуць бясконцыя кубаметры, нормы, працэнтоўкі, патокі старажытнага мурамскага лесу, які трэба будзе валіць, тралявацъ, хлыставаць на ніжні склад і рэйдавыя парадкі, ён астанецца самім сабою, але ўжо не паляўнічым — кіраўніком вялікай і складанай гаспадаркі. Ён жыць іначай не мог: рабіў тое, што прасіла душа, а душа ведала, за што рукі павінны ўхапіцца і сёння, і заўтра, добра ўяўляла сабе, як трэба жыць і гэтай хвілінай, і там — наперадзе.

## КІЖЫ

На сцяне пакоя красуюцца начныя саборы. Бачыў я іх купалы ўдзень, пры сонцы, але наймацней яны ўразілі мяне ўначы.

Востраў спаў.

Не ўключыўшы святла, каб не будзіць сваіх выпадковых спадарожнікаў-геолагаў — вясёлых дзяўчат і хлопцаў, я намацаў на спінцы крэсла, прыстаўленага да напаленай жалезнай грубкі, штаны і світэр, апрануўся, усцягнуў на ногі нагрэтыя гумовыя боты, накінуў на плечы вайсковую плашч-палатку і ціха выйшаў на ганак.

З-за вугла выскачылі Дар'ял і Дора —аграмадныя рудыя лайкі. Лянівы Дар'ял, крутнуўшыся ля ног, вярнуўся — ліха з ім — у зацішны двор, затое верная нашаму ранішняму знаёмству Дора вывела мяне на мокрую сцежку, заслужана атрымала акрайчык хлеба і добраахвотна патрухала паперадзе, нібы ведаючы, куды мне думаецца ісці.

Моцны, парывісты вецер і цемень заблыталі ў свае

цянёты востраў. Злева і справа, па абодва бакі вузкай палосы зямлі, у яе камяністыя берагі раз'юшана білася вада, бакавы вецер гнаў да вады мяне і Дору, аднак мы не паддаваліся яго сіле і волі, ішлі наперад, і сабор набліжаўся да нас. Па небе гнала нізкія хмары. Часамі паміж імі, у разрывах, запальваліся зоркі, і тады белым надсіненым бляскам свяціліся купалы сабора і Анега — вада неяк ападала ўніз, купалы завастраліся і ўзляталі. Адчуванне ж было такое, быццам не хмары ляцелі па небе, а сабор пад імі імчаў разам з востравам.

Між воблакаў бліснула і знікла Вялікая Мядзведзіца. Над крыжам самага высокага купала мільгануў драбнюсенькі Міцар. Старажытныя рымляне правяралі па ім зрок сваіх воінаў. Напэўна, па гэтай самай зорцы кіжане правяралі зрок майстра, што збудаваў над востравам Праабражэнскі сабор. Па зорцы, можа, потым вывяраўся і кожны з дваццаці двух купалаў.

Хто ён — той майстра?.. Легенда расказвае, быццам, узвёўшы апошні купал, паклаўшы апошні серабрысты лемех, ён паставіў самы буйны на саборы крыж, а потым шпурнуў з саракаметровай вышыні сякеру ў возера і крыкнуў на ўвесь пагост: «Другога такога цуду не было, няма і не будзе!..»

— Сабор не меў майстра,— пачаў з парадоксу Сяргей Мікалаевіч Горшын, вядомы ў краіне вучоны, буйны спецыяліст па кансерваванні драўніны.— Майстра не шукайце...

Сяргей Мікалаевіч гаварыў ціха, разважліва, як на самоце з самім сабою:

— Час, прырода і народ — яго дойліды. Адны яны вызначалі формы, прапорцыі, дэкор...

Пачыналася нешта накшталт лекцыі, сатканай з арыгінальных, выверадых уласным вопытам думак, гэткая ўзнёслая імправізацыя пра дрэва, камень, народнае дойлідства Карэліі, іх гарманічнае суіснаванне ў прыродзе. З вуснаў Горшына ўсё гэта было надзвычай цікава, бо ён

сядзеў насупраць мяне не проста дасведчаным у паўночным драўляным дойлідстве чалавекам, не проста гэткім вучоным-эрудытам — ён быў для Кіжоў, можа, самы патрэбны чалавек. Саборам прабіў час вяртацца ў зямлю, яны ўжо апускаліся туды пад няўмольным цяжарам дзесяткаў хвароб, нажытых за доўгі суровы век, і вось на Сяргея Мікалаевіча, на яго лабараторыю выпала задача адшукаць тыя хімічныя сродкі, што захавалі б Кіжы. На невялічкім мысе вострава, амаль з усіх бакоў абкружаным раз'юшанай восеньскаю вадою Анегі, ён разгарнуў цэлы даследчыцкі палігон, уставіў яго сотнямі шкляных пасудзін, працаваў тут усё лета, і цяпер, стомлены, але шчаслівы, што патрэбны раствор вось-вось будзе знойдзены, апавядаў:

— Доўга жыве адно высокае мастацтва. Праабражэнскаму сабору 250 гадоў. Ставіўся яшчэ ў гонар перамогі Расіі ў Паўночнай вайне. Роўнага яму няма ў свеце. Неяк завінуў сюды Ігар Грабар з групай архітэктараў і мастацтвазнаўцаў. Спыніліся перад саборам, спыталі адзін аднаго: ці можна хоць дзе-небудзь удасканаліць лініі, прапорцыі, выцягнуць або асадзіць купалы, змяніць форму лемеха, недзе падоўжыць, пакараціць, патаніць? І нічога не прыдумалі. Дэталь асобную можна змяніць, але парушаецца гармонія ансамбля. Тут нішто не паўтараецца, не спрачаецца адно з адным. Можаце падумаць: ага, значыць, мужык з сякераю меў больш дасканалы густ, чым кансіліум сучасных аўтарытэтаў! Не думайце. Сабор — гэта помнік унікальнаму народнаму вопыту, ідэальнаму ўмельству мужыцкай сякеры. Майстра толькі выконваў волю народа, увасабляў выпрацаваны многімі пакаленнямі ідэал прыгажосці. Народ, а не асоба — творца Кіжаўскага крамля. Так-так, я называю ансамбль крамлём. Гісторыю ведаеце? Кіжаўскае паўстанне 1769 года, расстрэл мужыкоў пад купаламі... Заўважылі: сабор мацаваў не столькі веру ў бога, колькі веру ў чалавека, непакорнасць рабству, вольны дух. Тут быў паўстанскі цэнтр. Са-

бор то адзявалі ў дашчаныя футаралы, то раздзявалі. Адзявалі не дзеля таго толькі, каб захаваць ад дажджоў і вятроў — ад мужыка хавалі прыгажосць, бо яна дух уздымала. Збівалі футаралы, калі патрабавалася акрыліць чалавека...

Сяргей Мікалаевіч кладзе доўгія рукі на стол, доўгімі пальцамі выбівае нейкі рытм.

Потым пальцы яго рук застываюць, нібы на адшуканых акордах.

— Можна шмат гаварыць пра Кіжы. Але важней праз іх зразумець працэсы ў прыродзе, у мастацтве. Карэлія — рэдкая лабараторыя гніення і нараджэння. У гніенні адна з першаасноў жыцця, энергія будучыні. Прырода геніяльна прыдумала. Дрэва вяртаецца ў зямлю, каб даць месца маладому дрэўцу. Нават камень раствараецца, каб радзіла зямля. Усё жывое і нежывое забірае зямля. Усё абнаўляецца. Такі закон... Але саборы Кіжаў мы не можам аддаць ёй. Яны — выключэнне з законаў прыроды...

На мяне падымаюцца зусім стомленыя разумныя вочы. Але і скрозь іх стому бачу, як разгараецца ў іх нешта жывое, сваё, вынашанае.

— Карані драўлянага дойлідства Карэліі ў прыродзе. Гэта натуральна для кожнага сапраўднага мастацтва. Чалавеку здаўна падабалася мадэліраваць прыроду. Цяпер маладая навука біёніка мадэліруе нават механічныя апараты казюрак. Прыгледзьцеся, у мясцовых жывапісцаў пераважаюць шэра-зялёныя гамы, а ў паўднёвых — светлыя, сонечныя. А як проста выглядаюць тут дамы, нават саборы! Чаму? Хіба мог чалавек, вечна змагаючыся з каменем і дрэвам, упрыгожваць свой дом ці сабор завітушкамі? Не мог. Ёсць разьба. Складаная. Але няма ў ёй нічога лішняга. Гэта высакародна...

За акном, у цемені і халадэчы, стагнаў вецер, вада білася аб берагі, камяні, даставала нават глухую сцяну хаціны, дзе мы сядзелі. Па шыбах сек, налятаючы і адступаючы, дождж, а мне ўспаміналася прыпухлы, нібы ад га-

рэлкі, твар Грышы Мураля. Яшчэ нядаўна ў нашым Крычаве гэта быў самы вядомы цясляр і сталяр, і ўсе, хто будаваўся, шукалі-чакалі Грышу. Недзе на дванаццатай вясне пасля вайны мы з бацькам развялі ставіць прыруб да старой невялічкай хаткі — нам удалося прывесці Мураля. Той спакойна і проста, з добрым падгонам, без балды, як казаў, клаў вянцы, рабіў асады, крыў дах. Калі ж бацька заікнуўся вытачыць на вільчык пеўніка, Грыша адмахнуўся: «Навошта? Забыліся, як па чужых вуглах клункі цягалі? Ну і людзі!.. На ногі ледзь стануць, ужо ім ахвота пад пеўнікамі жыць!» — «Дык я заплачу за пеўніка»,— не адступаў бацька. «Не хачу вашай платы,— упёрся Грыша.— Не вучыў мяне тата попусту рукі біць».

Карцела мне расказаць пра свайго земляка Сяргею Мікалаевічу, але не асмеліўся — ці да месца гэта будзе? Перавёў гаворку на тое, як цётка Улы і цётка Мары адмовіліся спяваць мне руны, пакуль я не абыду, не аб'еду лясы, камяні, азёры Карэліі.

— Няўжо? — адразу павесялеў Сяргей Мікалаевіч.— Народная мудрасць!..

Ён зноў ажывавеў, хадзіў туды-сюды па малым пакойчыку, заваленым кнігамі, газетамі, нейкімі драўлянымі калодкамі, салодка паціраў рукі, перабіраў па стале пальцамі, як бы намацваючы новы, ужо адчуты сэрцам акорд...

— Вам лёгка зразумець Карэлію. Вы беларус. І ў вас — лясы, камяні, азёры...

Вечар быў позні.

Я ўстаў, каб ісці.

Горшын праводзіў мяне на ганак. Дождж перасціх.

— Кладку знойдзеце? Можа, ліхтарык вынесці?

— Не-не, знайду...

А назаўтра мяне пабудзіў дырэктар музея Вілха Арвідавіч Ніемі: прапанаваў на кацеры абагнуць востраў, падзівіцца Кіжамі збоку, наведаць суседнія астравы.

Матарыстам МРБ (малы рыбалоўны бот) аказаўся зноў жа беларус, з Ракава,— вясёлы Міша Зеньчык. Ён

нечакана зрабіўся нашым гідам, хоць сам жыў на востраве толькі два гады, пасля арміі. («Летую вось гэтак за штурвалам, а скуецца возера — мяняю штурвал на лейцы, перасаджваюся на вадавозку»). Ён расказваў, што неўзабаве ўсе навакольныя астравы, з хатамі і капліцамі, стануць зонаю запаведніка, тады вырасце дзевяціпавярховая гасцініца для турыстаў. («Вось калі прыязджай, сляпіся Кіжамі хоць усё лета, усю зіму».)

Неўпрыкмет мы падплылі да Корбы.

На высокім беразе, па выспах, відаць было з дзесятак дамоў, а жыла тут толькі адна душа... Ганна Рыгораўна Іюдзіна. Гаваркая, рухавая, яна паклікала ўвесь наш «дэсант» у чысцюткую, нібы на свята прыбраную, на дзіва ўтульную хатку, рассадзіла па доўгіх лавах, завяла гаворку пра сваё селішча і пра тое, чаму людзі пакінулі бераг:

— Вайна з намі такое ўчыніла. Ваявалі з белафінамі, немцамі — мужыкі ўсе як адзін галовы паклалі. Асталося мокрае бабскае царства. Ад слёз мокрае. У кожнай дзяцей — што гароху ў струку. Куды дзенешся з лузганцамі? Гадавалі ўсё ж без мужыкоў, ад вянца да вянца дзеткі цягнуліся галоўкамі, падрасталі, і ўсе — у горад ехалі. А куды яшчэ? Там — навука, магазіны, кіно, а тут... нават хлеб сюды не завозяць. Дзеткі нас папакідалі, а што мы, трупехлыя бабы, без маладняку? Вось і мы за дзецьмі следам. Зіма прыйдзе — тут жывой душы няма. Вятры ды снягі паўзучыя.

— А вы?

— І я хутка паплыву. Скапаю бульбачку, якая ёсць, ды і махну ў Петразаводск да сына.

Ганна Рыгораўна павяла нас на сваю прыстань. Там стаялі тры кіжанкі пад вёсламі, маторка, некалькі старых чоўнаў — нішто сабе флатылія.

— На гэтым транспарце ўлетку цягаю траву з суседніх астравоў, дровы. Сплаваю ў Кіжы да цеплахода — прывязу хлеб, якое павідла. І піва. Люблю, дзеткі, піва...

Ужо ў размове з Ганнай Рыгораўнай я адчуў, што мі-

грацыя астравіцян была натуральным працэсам, хоць яшчэ не здагадваўся, наколькі яна масавая. Пазней, пабачыўшы многія іншыя такія вёскі (Усцяндома, Падліпаўцы, Жарнікі — пад Кіжамі, Бесаў Нос, селішчы па ўзбярэжжы Ільменскага возера), я зразумеў, што тутэйшая міграцыя мае мала агульнага з рухам некаторых маладых людзей з вёскі ў горад у нас — не тыя прычыны. Глыбінныя астраўныя селішчы не адпавядалі сённяшняму жыццю: у век электрычнасці і аўтамагістраляў хіба мог чалавек жыць як на купіне, дзе і сучасную школу не паставіш і медыцынскае абслугоўванне не наладзіш, без электрычнага святла, нават без крамы?

Калі на такім астраўку жыў-мірыўся раней чалавек, дык сёння жыць і мірыцца не хоча — гэта натуральна і зразумела, бо падказана часам.

Апоўдні да сабораў нечакана прышвартавалася знаёмая «Ладага». Пара навігацыі на Анежскім возеры скончылася, і вяртацца ў Петразаводск можна было альбо цяпер, альбо невядома калі яшчэ: наступны рэйс, у залежнасці ад надвор'я, выдасца, можа, праз два дні, а можа, праз тыдзень — такі лёс Кіжаў. Пашкадаваўшы, што не змог яшчэ раз завітаць да Горшына, я падняўся на палубу.

Цеплаход стаяў нядоўга. Ён ішоў з Вялікай Губы, яшчэ там засяліў пасажырамі ўсе свае каюты і палубы.

Аднекуль з'явіўся гурт дзяўчат і хлопцаў. Дзяўчаты падняліся на палубу, хлопцы асталіся на беразе — іх было трое, усе нападпітку і ўсё спявалі дзяўчатам па развітанне дураслівыя сучасныя песенькі. Адзін, чубаты, брынкаў на гітары, другі — шчокі і барада залаціліся пухам — спяваў, трэці ўсё ўсміхаўся, падпяваў ды размахваў над галавою квяцістай дзявочай хусцінкаю. Лайдакі. Вясёлыя і бесклапотныя. Усе — у ботах, рабочай вопратцы, нечасаныя, можа, па тыдню.

Гэта былі студэнты. Яны пасаблялі мясцоваму саўгасу капаць бульбу, і вось дзяўчаты вярталіся ў Петразаводск, а хлопцы яшчэ аставаліся — праводзілі сяброўак.

Цеплаход адчальваў.

Усе трое на беразе пачалі вытанцоўваць — з гітараю, квяцістай хусткаю, высака падкідваючы ногі, ні то плачучы, ні то рагочучы, і пасажыры, што стаялі на палубе, рагаталі — аж падалі. Адно бабулькі, таксама смеючыся ледзь не да слёз, ківалі галовамі: ну і моладзь пайшла, ай-яй-яй!..

З-за воблакаў выкацілася сонца, і гэта было, мабыць, самае большае дзіва: за столькі дзён надумалася.

За бортам «Ладагі» Кіжы павярнуліся, зайшлі ў кільватар, і купалы, прыгрэтыя сонцам, увачавідкі чысцелі, яснелі, белая пара падымалася ад купалаў угару. Здавалася, сам сабор ажывае, варушыцца, сагрэўшыся рухомай параю, велічна ўзносіцца ў неба.

Апошняя прыземістая страха бліснула з вострава. Яшчэ ўчора мы сядзелі пад ёю з Сяргеем Мікалаевічам да ночы, а цяпер я вёз з сабою яго шчырыя, нібы клятва, словы: «Мы абаронім Кіжы...» У маёй душы была ўпэўненасць, што так і будзе, бо побач з Горшыным на востраве, ды і за вострававам — у Петразаводску, Ленінградзе, Маскве — над гэтым жа — абараніць Кіжы! — працавалі дзесяткі спецыялістаў, лабараторыі, інстытуты. У сэрцы падымаліся радасць і гонар: вось і яшчэ адзін шэдэўр народнага мастацтва, яшчэ адна песня душы народнай, магчыма, не памрэ, астанецца пасля нас нашчадкам, будзе хваляваць іхнія душы, як некалі хвалявала далёкіх продкаў.

Востраў знікаў у бухматай сонечнай смузе...

А мне ўспаміналіся старыя мураваныя сцены Мсціслаўля, яго занядбаныя саборы, Княжыцы пад Магілёвам... Муры яшчэ выстаяць, думаў я, дачакаюцца свайго гаспадара, а вось ці доўга прастаяць драўляныя купалы? Хаця б — цудоўная Георгіеўская царква ў Давыд-Гарадку, амаль аднагодка Праабражэнскага сабора ў Кіжах. На ёй хоць і вісіць ахоўная шыльда, ды аховы няма: павыбіваныя вокны, засмечаная падлога... Не ў лепшым выглядзе

і цэркаўка ў Здзітаве Жабінкаўскага раёна (помнік XV стагоддзя), і Чэрская званіца, што прастаяла год 400, і цудоўная курная хатка на Кобрыншчыне, пастаўленая недзе ў XVIII стагоддзі, з вельмі цікавай студняй. Пра іх мала хто ведае. Але ў сваёй сціплай пластыцы, кампактнасці аб'ёмаў, дэкаратыўнасці — яны непаўторныя.

Беларусь такая ж лясная, як Карэлія, такая ж у мінулым, ды яшчэ і цяпер, драўляная, і не можа быць, каб мы не змаглі сабраць свой запаведнік драўлянага дойлідства — жылыя дамы, ветракі, калодзежы, цэрквы, капліцы...

Былі ж у нас свае Нестары, жылі і жывуць іх нашчадкі, накшталт майго земляка Грыгорыя Мураля.

## І ЯШЧЭ РАЗ — ВАРТА АД'ЕХАЦЦА

За што мы, людзі, любім далёкія дарогі?

На гэтых дарогах мы, безумоўна, шмат знаходзім: не бачаныя нідзе раней дрэвы і кветкі, не чутыя раней галасы звяроў і птушак, нанава адкрываем для сябе старую зямлю, старое сонца, старыя зоры на небе, знаходзім новыя для сябе гарады і новых сяброў.

Але ж любая знаходка мае толькі тады нейкі сэнс, калі яна, далёкая, паможа зразумець, паўней адчуць самае для сябе блізкае і самае дарагое, калі ў чужым па-новаму пачынаеш разумець і цаніць сваё кроўнае.

У гэтым я пераканаўся ў Кіжах, і яшчэ раз...

Нямала дзён ездзіў я берагамі Анежскага, Ільменскага, Мурамскага азёраў — усюды мяне абкружалі лясы без канца і краю. У зялёным хваёвым моры барвовымі свечкамі гарэлі бярозкі, і мне здавалася, што ў маіх вачах — тыя самыя карэльскія бярозкі, якія здаўна славяцца ў мастакоў, чырванадрэўшчыкаў, ювеліраў, ва ўсіх людзей, якія могуць цаніць прыгожае. Думаў так. А прыехаў

у Петразаводск — і дырэктар Інстытута лесу Уладзімір Іванавіч Ермакоў, які амаль усе свае навуковыя пошукі апошніх год прысвяціў гэтаму унікальнаму дрэўцу, пасмяяўся з майго захаплення. Ён падышоў да кніжнае шафы, адчыніў яе, і адтуль на падлогу выкаціліся дзве беленькія бярозавыя цурачкі.

— Вось гэта ўжо карэльская,— працягнуў мне адну з іх.

— А другая? — спытаў я.

— І другая. Малюнак у іх аднолькавы, праўда? Нагадвае ўральскі малахіт. А дзе, думаеце, расла вось гэта бярозка?

— Вядома дзе, у Карэліі.

Ён усміхнуўся.

— А вось і не. На вашай Магілёўшчыне. Так-так, не здзіўляйцеся. Улетку я быў там. Падабраў на расцяробе. Дзе мужыкі на дровы лес бралі. Во!.. Чым печы паліце! Золатам!..

Позні́м вечарам, калі за акном, на вуліцы, не шоргалі колы машын, не лаяліся і не гарлалі п'яныя, я выключыў у сваім гасцінічным нумары святло, уклаўся спаць, і раптам мне падалося, быццам недзе побач, амаль пад падушкаю, шэпчуцца галасы.

Я прыслухаўся...

— Ці здалёк жа ты, сястрычка, такая прыгожая?

— Аж з Беларусі. Расла на высокім дняпроўскім беразе. Нешта раніцай у лес уламілася вялізная машына. Мяне пад самы корань зрэзалі вострай, нібы агонь, пілою. Рэзалі маіх суседак. Усіх пачалі кідаць у машыну. І тады я пачула, як нехта сказаў, што на дровы буду дрэнна калоцца, пакручаная. А другі — затое чачотка добра гарыць і шмат вуголля дае.

— Няўжо спаліць хацелі?

— Як жа? Паляць... А ты ці здалёк?

— Я мясцовая, карэлачка. Тут нас ахоўваюць. Пяць тысяч бярозак, і кожная на ўліку, з нумарам, з пашпар-

там. Летась, з дазволу ўлады, спілавалі ўсяго паўтара кубаметра. Усё — на мастацкія сувеніры.

— Глядзі, шануюць.

— Дзівачка. У магазінах была? Якія прыгожыя рэчы з нас вырабляюць! Медальёны, кулоны, пярсцёнкі, бранзалеты. А мэбля з нас самая дарагая ў свеце. Чула, што фіны за кілаграм бярозкі даюць кілаграм цукру? На вагу купляюць і прадаюць.

— Ну, а мяне, бачыш, у печ.

— Ці многа ж вас, беларусачак?

— Ніхто нас не лічыў.

— Ай-яй-яй!..

Яны зноў, здаецца, шапталіся, але я ўжо зразумеў іх бяду. Мне ўспомніліся словы Уладзіміра Іванавіча аб тым, што ў нас, у Беларусі, карэльскай бярозы не меней, чымся ў самой Карэліі, нават ці не болей, што яшчэ ў 1934—1937 гадах на адной толькі Магілёўшчыне таварыства «Лесапрадукт» — было такое — нарыхтавала паўтары тысячы кубаметраў гэтай цудоўнай драўніны. Успомніў чутае дома: «А навошта гэтая бяроза нам, беларусам? У нас няма ніякіх традыцый карыстання ёю». Успомніў і выстаўку прыкладнога народнага мастацтва ў Мінску, дзе ўсіх, хто там быў, захаплялі вазы, пудраніцы, талеркі, зробленыя з карэльскай бярозы Іванам Міронччыкам і Леанідам Шостакам (адзін — з Барысава, другі — з вёскі Крывічы, што на Мядзельшчыне). Астравецкі разьбяр Вікенці Францавіч Ягела спалучыў у сваіх творах бярозку з чорным мораным дубам — нарадзілася новая мастацкая песня. А Марыя Жабінская з рэспубліканскага Дома народнай творчасці расказвала, як яе бацька доўгія гады збіраў на Смаргоншчыне свае прыкметы — дзе, у якім асяроддзі, на якой глебе расце карэльская бярозка і чаму яна палюбіла запушчаны ў вайну палетак...

Дык ці ж гэта — не нашы традыцыі? Хіба нашы традыцыі — адно там, дзе каштоўнае дрэва ляціць у печ? Можа, вопыт абыходжання з сусветна вядомым і сусветна

ўшанаваным дрэвам не такі багаты, як у Карэліі, але ж гэта не можа апраўдаць нашу безгаспадарчасць і марнатраўства.

Так, варта ад'ехацца далей ад свайго мілага кута. Ад'ехацца хоць дзеля таго, каб здалёк зірнуць на саміх сябе, на сваё добрае і благое.

## ДЗЕЦІ ПРЫРОДЫ

Бесаў Нос...

Гранітныя скалы ўразаюцца ў Анежскае возера з яго ўсходняга краю, трымаючы на сабе адзіны знак цывілізацыі — чырвоны агонь маяка. Абапал маяка і каменных ілбоў Бесавага Носа зацішныя бухты. Унізе — белы, нібы цукар, пясок, уверсе — зялёныя густыя хвоі. На пяску — бліщчастыя, гладкія, падобныя на абветраныя косці аграмадных жывёлін, дрэвы. Вада адпаліравала іх і выкінула на бераг.

У зацішна-маўклівай бухце лёгка ўявіць сабе стойбішча першабытных людзей. Іх жыццё ля агню. Іх валасатыя постаці. Дзікія рухі і крыкі. Абрады. У гэткім паэтычным кутку зямлі першабытны чалавек, напэўна, не толькі выкрасаў агонь і смажыў мяса, але марыў, кахаў, мастачыў... Гэта — так. Яго мастацтва захаваў і данёс нам граніт Бесавага Носа.

На каменным ілбе — фантастычны іканастас. У цэнтры іканастаса — двухметровая постаць д'ябла. Пасярэдзіне чэрава — шчыліна, у роце — дзірка: праз шчыліну і дзірку людзі кармілі і паілі д'ябла.

Абапал д'ябла намаляваны меншыя «іконы»: сом і выдра. Вакол гэтай тройцы — лебедзі, алені, рыбы, ласяня, мядзведзь, качкі. Асвоіўшы каменную сякеру, першабытны чалавек адразу ж расказаў гэтай сякерай пра сваё жыццё. Ужо тады ў ім прачнуўся мастак, які ўвасобіў у сваіх творах навакольную прыроду, жывёльны і раслінны свет. Яго творчасць перажыла стагоддзі і дайшла да нас

як цудоўная мастацкая і сацыяльная споведзь. Праўда, яе прачытаеш не заўсёды. У шторм малюнкі хавае раз'юшаная вада, у хмарны дзень — імгла.

Каб агледзець наскальнае мастацтва, мы прыйшлі сюды з Яўгенам Нілавым, парторгам Пудажскага леспрамгаса, і доўга чакалі сонца. Яно ледзь выслізнула з-за воблакаў, як скала заружавела, і на ёй адразу з'явіліся алені, лебедзі, качкі, а раней за ўсіх — д'ябал, сом і выдра. Да лебедзяў любоў першабытнага чалавека была, мабыць, асаблівая: іх тут столькі, што і палічыць цяжка. А якія непамерна доўгія і танклявыя шыі!

— Можа, у той час вадзіліся гэтакія лебедзі? — выказаў здагадку Яўген.

— Потым перарадзіліся?

— Чаму б і не? Тысячы гадоў канулі. Перарадзіліся расліны, чалавек. Маглі і лебедзі...

Памаўчаўшы, я пагадзіўся.

Шчаслівы выпадак звёў мяне з Яўгенам тут, ля Бесавага Носа. Нілаў добра ведаў гісторыю і прыроду краю, тутэйшых людзей, іх побыт, норавы, гадамі даследаваў мінулае Мурамскага манастыра, сам з маладых год з сякераю і багром працаваў тут на лесанарыхтоўках, сплаве, сарціровачным рэйдзе. Ды і расказваў пра ўсё, што ведаў сам, цікава, па-мастацку, так, што за яго расказамі відаць было і вельмі шчырую рабочую душу, і нейкую інтэлігентную далікатнасць, уважлівасць да ўсяго на свеце: да субяседніка, да рэчаў, пра якія гаварыў, да рэчаў, якія акружалі яго і мяне ў гэтую хвіліну.

Вечарэла, калі мы пакінулі наскальныя малюнкі, пакінулі бераг.

Паўз маяк надышлі да хаткі наглядчыка: на блакітнай ашаляванай сцяне ляжалі шэрыя сілуэты таго самага д'ябла з дзіркай у роце, выдры і сома. Гэтае мастацтва ўжо не наводзіла на роздум — смяшыла.

Дзверы былі адчыненыя, але ў хаце ніхто не адгукаўся. Мы напіліся вады, пасядзелі пад вокнамі.

— Ці не рыбаліць гаспадар? — прыкінуў Яўген.

— Замок жа не павесіў?

— А навошта яму замок? Хіба мядзведзь заваліцца? Ды і той вялікай шкоды не зробіць. У чыгун морду ўсуне? А што знойдзе ў адзінокага чалавека?

Цемень гусцела.

Мы выйшлі на край лесу, з кручы зірнулі ўніз, на возера. Наглядчык маяка завіхаўся ля лодкі, прывязваў яе да карча. У лодцы сапраўды блішчалі мокрая сетка і рыба. Позні час прыспешваў. Мы не сталі гукаць, не сталі чакаць занятага чалавека, выбраліся паміж камянёў на сцяжыну, і праз нейкія паўгадзіны яна вывела нас да Дальняе Чорнае рэчкі. Адсюль можна было выбрацца леспрамгасаўскім бензавозам, каторы не дужа прызнаваў ноч і бездараж — тры вядучыя восі з шасцю коламі выцягвалі з любой багны. Але машына недзе познілася, і Яўген кіўнуў на хату ў два акны — на той бераг.

— Заскочым? — спытаў.— Там капітан кацера жыве. А шафёр ведае, што мы недзе тут, знойдзе.

Мы выбраліся на вузкія дашчаныя кладзі, перабраліся па іх на другі бераг. Дзверы адчыніў сам гаспадар:

— Яўген Рыгоравіч?!. Ды не разувайцеся, праходзьце. Не дужа ў нас чыста.

Але ў вочы адразу кінуліся свежыя дарожкі, дыванкі, як учора сатканыя, блішчастая фарбаваная падлога. Мы з Яўгенам паскідалі з ног боты, павыкідалі іх за дзверы ў сенцы і толькі тады селі на канапу.

— Якім ветрам? — пацікавіўся гаспадар.

— Не чакаў? Знянацку лацвей. Дзе Еўдакія? — азірнуўся Яўген. Быў ён тут, відаць, не першы раз і адчуваў сябе проста, як дома.

— У краму тавар прывезлі. Пабегла з бабамі глядзець на суkенку.

— А маці яшчэ тут? Не паехала?

— І мама тут, і Ваня, братуха меншы. Госцяць. Вунь, ля тэлевізара сядзяць.

— Марыя Яфімаўна? — гукнуў Яўген.— Вы, можа б, у нас назусім асталіся?

Старая рыпнула крэслам за паркалёвай, у вялікія ружовыя кветкі, шырмаю, выйшла да нас.

— Вечар добры! — зусім неспадзявана для мяне беларускімі словамі і нізкім павольным паклонам прывеціла яна, твар пакрулеў у шчырай усмешцы.— Дзе там! Во хвутбол гэты гляджу, а чую, як там, дома, Мальва рыкае. Трэба збірацца. У вас тут па-свойму добра, у нас па-свойму няблага.

— Зноў землякі? — здзівіўся я.

— Мабыць,— усміхнуўся Яўген.

— А вы наш? — больш за мяне, напэўна, здзівілася Марыя Яфімаўна.— Я думала, што адна ў гэтакую далеч са сваіх месцаў сарвалася. Мы ўсе з Чачэрскага раёна. Ёсць там вёсачка такая, Валасовічы. На самым Сажы.

— Еўдакія з Валасовіч таксама,— чуючы нас, падтрымаў размову з суседняга пакоя Аляксей. Нешта ён там чахаў сякераю, ці не сек мяса.

— Вокны ў вокны жылі. Суседзямі,— разгаварылася адразу старая, забыўшы на тэлевізар і на футбол.— Разам у школу хадзілі. Немцы грымнулі ў Валасовічы, дык у адным лесе хаваліся, за балотам. Потым маладыя пажаніліся. Далёка адно аднаго не шукалі.

У пярэднім пакоі са двара адчыніліся дзверы: увайшла Еўдакія. Ля парога, распранаючыся, нечага паўздыхала, заглянула адтуль да нас, павіталася. Па голасе, рухах, заклапочанасці я адразу заўважыў нешта агульнае паміж ёю і мужам. Мабыць, давалі сябе знаць даўняя сумесная жытка, адна вёска, адно дзяцінства.

Хутка на стале з'явіліся салёныя бліпчастыя грузды, гарачая, толькі з печы, бульба, брусніцы пад цукрам і пасярэдзіне стала — шырозны ў спіне, чырвоны, з белаю прошвай, маласольны ласось. Застолле было гаманкое, ніхто не адмаўляўся ад чаркі, ні старая, ні малыя, кожнаму хацелася і выпіць, і нешта сказаць, паслухаць суседа.

Аляксей успамінаў вайну, свае лясныя сцежкі да партызан, калі хлапчуком насіў ім харчы. Цяжкія часы прыгадваў пакрысе, асцярожна, быццам баяўся чапаць усё адразу, і на лбе яго спакваля, апускаючыся на скронь і шчаку, пунсавеў не загоены гадамі рубец.

Сюды, у Карэлію, Аляксей заехаў у пяцьдзесят трэцім годзе. А як здарылася — успамінаў:

— З Беларусі нас вербавалі на лясныя работы...

— Назад не вернецеся? — пацікавіўся я.

— Той-сёй пачынае вярнуць аглоблі. Я пакуль не думаю. Няма ахвоты скакаць.

— І маці не цягне?

Марыя Яфімаўна падняла вочы на Аляксея, рукой падаткнула пад хусцінку рэдкую сівую пасмачку.

— А цяпер і я гляджу, як маладыя,— разважыла яна.— Не на чужыне ж? Тут як і ў нас. Такія ж і лясы, і вада, і зямля.

— Ляснаму чалавеку тут добра,— кіўнуў Аляксей.

З першай сустрэчы я адчуў, што ў гэтай дружнай сям'і ўсе неяк асабліва паважліва ставіліся да Аляксея. Гэта было відаць па рахманых вачах маці, па гарачым жончыным паглядзе, па слухмянасці дзяцей. Сам Аляксей, безумоўна, ведаў гэта, цаніў, але выгляду не падаваў, стараўся ўсіх выцягнуць на ўспаміны. Калі ўсе разгаварыліся, сам аціх, уступіў іншым права камандаваць застоллем, весці бяседу. І ўсё ішло натоPанай ім сцежкаю. Гаварылі на той вясковай мове, якую з Валасовіч прывезла сюды, на Поўнач, Марыя Яфімаўна, якой яна неяк неўпрыкмет асвяжыла сынаву хату, напоўніла яе родным паветрам. І Аляксей, і Еўдакія таксама не адцураліся гэтае мовы, не забылі. Маці была радая, усё глядзела на сына, як даўно не бачыла, глядзела на яго чырвоны рубец, быццам самой балела ад яго яшчэ і цяпер, праз столькі гадоў пасля вайны.

Доўга, напэўна, не зводзіла б вачэй з сына, калі б Аляксей раптам не парушыў маўчанне:

— Ну-ка, Дуся, зацягні нашу, вясковую.

— Пачакай. Дай паесці,— была схітравала жонка, але тут жа і выдала сваю непрыхаваную хітрасць: — Хай вунь мама спачатку.

Твар Марыі Яфімаўны зусім расцвіў ад такой дарагой ёй увагі дзяцей, яна паклала на стол відэлец і скарыначку хлеба, паправіла на галаве чырвоную з сінімі клетачкамі хусцінку, зноў падаткнула пад яе сівенькую пасмачку, што ўсё выбівалася на лоб ды лезла ў вочы, урачыста склала на грудзях рукі — на свой валасовіцкі лад завяла:

Што за месяц, што за ясны,
Ўночы свеціць, а ўдзень не.
Што за міленькі дружочак,
Калі прыйдзе, калі не...

— Ну, што ж вы не пасабляеце? — сама і абарвала раптам сваю трапяткую нітачку, радасна-ўсмешлівымі вачамі абводзячы ўсё застолле.— Ці не ведаеце ўжо?

— Чаму ж гэта мы не ведаем? — як пакрыўдзіўся Аляксей.— Не твае дзеці хіба? — І разам з маці, разам з жонкаю падхапіў пачатую песню:

Што за міленькі дружочак,
Калі прыйдзе, калі не...

Я кінуў вокам на Яўгена. Ён сядзеў, як зачараваны, схіліўшыся грудзьмі на стол, употай, але ўважліва паглядаў на Марыю Яфімаўну, як адну яе слухаючы, і таксама спяваў: неяк яшчэ нясмела, асцярожна варушачы вуснамі, першы раз, мабыць, чуючы незнаёмую песню і баючыся, каб не збіць яе з правільнага ладу. Нават дзеці Аляксеевы адкрывалі і закрывалі ў лад песні малыя роцікі, рабілі гэта байчэй, як іншыя.

І не пачулі, як да ганка пад'ехаў бензавоз, як адчыніліся ў пярэднім пакойчыку са двара дзверы, як у хату ўвайшоў шафёр. Ён там, ля парога, і стаяў, не распранаючыся, пакуль мы не даспявалі песню, а калі даспявалі — усе заўважылі яго, Еўдакія падхапілася з-за стала, прымусіла распрануцца і сесці да вячэры. Ад чаркі ён

адмовіўся — такая служба шафёрская,— і яго ніхто не ўгаворваў. Зноў пачалі співаць, і пакуль спявалі, Толя — гэтак усе звалі шафёра — вячэраў. Выпіўшы не адну шклянку гарачага чаю, ён заварушыўся, нагадаў, што час збірацца ў дарогу, бо дарога доўгая і гразкая — нялёгкая.

— Гэтак хутка? — расчаравалася Марыя Яфімаўна.— А мы ж толькі настроіліся.

— Можа б, пасядзелі яшчэ, Яўген Рыгоравіч? — падхапіла і Еўдакія.

— Не, трэба ехаць. Дзякуй за стол, за цяпло. Пагрэліся.

Толя першы падняўся з-за стала, і за ім следам падняліся ўсе астатнія.

На ганак Аляксей вывеў усю сямейку. Нават старэнькая Марыя Яфімаўна, накінуўшы на плечы сынаву куртку, выйшла, каб праводзіць нас у начную дарогу.

Толя даў працяглы развітальны сігнал.

Ноч была чорная, але зорная. Пачынала падмарожваць, ды і добра, ужо каляю схапіў тонкі храбусткі лядок, і калі машына ішла ціха, калі матор не дужа надрываўся, было чуваць хрупаценне пад скатамі. Усю дарогу справа ад нас блішчала Дальняя Чорная рэчка, мы то набліжаліся да яе, то аддаляліся, потым зблізіліся і доўга ехалі па самым яе беразе, адхонным і голым. Толя вярнуў галаў направа, усё прыглядаўся да рэчкі, пакуль не заўважыў мяльчэйшую, мабыць, даўно знаёмую мясціну са светлым пясчаным берагам: тут ён спыніўся, завярнуў заднімі коламі ў ваду — надумаў мыць машыну.

— Яшчэ трыццаць кіламетраў начную гразь мясіць. Па вушы ў гразі будзеш,— заўважыў Яўген.

— А мы і дома памыемся. Гэтакай мурзаю ехаць — ваўкоў пужаць.

Толя выключыў матор, вылез з кабіны.

Злева, над самай дарогаю, і справа, над ракою, паснулі высокія густыя хвоі. Лісцвяных дрэў тут не было,

а таму не было і жоўтага лісця, якое ўначы, пад месяцам, звычайна адбівае хоць кволае святло і гэтым хоць крыху вяселіць душу. Наша дарога аказалася зацiснутай паміж высокімі чорнымі сценамі, і нават рака, нават неба здаваліся чарнейшымі, як маглі быць. І ціша яшчэ больш, здавалася, згушчала цемень. Праўда, яе парушаў Толя, які стаяў па шчыкалаткі ў рацэ, чэрпаў старым вядром чорную ваду, ліў на буфер, на капот, на крылле машыны, мокрай анучаю цёр фары.

Мне падалося, што Яўген спіць, і ў гэтую хвіліну я адчуў сябе сам-насам з ноччу, яе цеменню і цішынёю, і ці не гэтае адчуванне зноў навяло на думкі пра Аляксея. Тут яшчэ мацней, як там, у хаце, я ўявіў яго побач з сабою і пашкадаваў, што толкам ні аб чым не распытаў у гэтага прывабнага чалавека, мала што ведаю пра яго жыццё далёка ад родных Валасовіч, як яно тут склалася. І сам ён пра сябе чамусьці амаль нічога не расказаў за вечар. Няма чаго? А мо такі ўжо сціплы чалавек?..

Зноў ля пляча варухнуўся Яўген. Мабыць, яму абрыдла маўчаць — спытаў:

— А хочаце, я раскажу пра штармавыя Аляксеевы ночы?

Нечакана мяне абрадавала тое, што Яўген не спіць, што думае аб тым жа, аб чым думаю я, пра таго ж самага чалавека, і я ўхапіўся:

— Раскажы, Яўген.

І ён пачаў.

— Калі Аляксей прыйшоў капітанам на Дальнюю Чорную рэчку, я тут кіраваў лесапунктам. З першых дзён спадабаўся ён мне. Шмат гаварыць не любіў, але ўжо што ёсць на душы — таіць не стане, адразу выкладзе. Памятаю, неяк у нядзельку рабочыя папрасілі сплаваць за Мурамскае па марошку. Даплылі добра. Дзве-тры гадзіны пазбіралі марошку, сабраліся абедаць. Распалілі вогнішча. Не заўважылі, як сонца села. Толькі за шалгачы пабраліся — вецер узняўся. Глянулі на возера — жахнулі-

ся: адкуль што ўзялося — каціўся на нас высокі вал... Карпенкаў — гэта Аляксеева прозвішча — адразу скеміў. «Стойце тут!» — крыкнуў, а сам на кацер, каб адплысці, і я з ім, і механік. Не паспелі якар падняць — хваля ўдарыла па корпусе, і лопасць вінта як нажом абрэзала. Аляксей усё ж неяк вывеў кацер у возера, а тут яшчэ большы вал падкаціў пад нас, падхапіў і, нібы шкарлупіну, выкінуў на бераг. Памятаю, ад нашай марошкі на паўкіламетра чырвоная палоса ляжала.

За ноч кацер пяском замыла.

А назаўтра прыгналі трактар. Адкапалі кацер. Сцягнулі ў ваду, ды ён мёртвы без цягі. Скінуў Аляксей з сябе плашч, другі ўзяў у механіка, нацягнуў на багры, зрабіў клівер і — сваім ходам. Я на трактары шурую паўз бераг, бачу — хлопцы імчаць поўны наперад, пакуль ветрам не заверне, а заверне — зноў улукаткі манеўруюць. І што думаеце? Прывёў Аляксей кацер у Дальнюю Чорную рэчку. Сышоў на бераг — смяецца. Такі чалавек.

А другі раз я сустрэў Аляксея ў Падпарожжы, калі ўжо не працаваў з ім. Гляджу — вачам не веру: белы, шапка рэменем пад бараду. Я аж разгубіўся. Глядзіць на мяне, як з таго свету,— увесь у нейкай муцэ. «Што з табою?» — пытаюся. «Нічога асаблівага,— кажа, а сам ледзьве губамі варушыць.— Муку вёз, мала не перавярнула кацер».— «Што?» — не паверыў. «Муку! — са злосцю закрычаў ён.— Вёз ОРСу муку, ды жывы вось. Памацай. Жывы?»

А што сталася?

Загружаўся ў Петразаводску зацемна. Начаваць не захацеў, паплыў. Надвор'е быццам ціхае, агні відаць далёка, ну і паклалі мяшкі з мукою не ў трум, а перад рулявой рубкаю, каб лягчэй згружаць. Выйшлі ў возера, а там штармяга. Анегу ўсё ж пераплылі, у вусце Водлы трэба заходзіць. Фарватэр — пад дзевяноста градусаў паварот. Мяхі з мукою соўгаюцца па палубе, хіляць кацер то ў адзін, то ў другі бок. Што рабіць? Выкінуцца на бераг —

разбіцца. Ісці на такім павароце ў Водлу — таксама небяспечна. Імгненне рашала ўсё, а думаць не было калі. І ён пайшоў у Водлу. Паварот — хваля падкінула, вецер на борт наваліўся, і ўжо, можна сказаць, ляжаў на баку, кілем угору. Ды нейкая сіла падхапіла ўсё ж, матанула кацер, як на той свет,— выкінула ў Водлу.

Я яго ў Падпарожжы бачыў, калі ён ішоў званіць, каб муку выгружалі... Колькі такіх рэйсаў было ў Аляксея!..

У кабіну вярнуўся Толя. Ён прычыніў дзверцы, моўчкі завёў машыну, і мы адразу выскачылі з гразкае каляіны на вузкую, але сухую гравійку. Справа, пад круглым чыстым месяцам, апошні раз бліснула галоўкаю Дальняя Чорная рэчка, пагасла ўначы, мы пераехалі Бліжнюю Чорную рэчку, што ўпадала ў першую, Дальнюю, мінулі вялізны пасёлак, у якім дзе-нідзе яшчэ ззялі агні, лес адступіўся ад нас — да Пудажа было рукою падаць.

Ужо мы ні аб чым не гаварылі.

Я думаў пра Аляксея...

## ГНЯЗДО ПАМОРАЎ

На самым беразе Белага мора, паўночней за Кем, стаяць дзве маленькія вёсачкі — Кузёма і Паньгома. Кузёма — чыгуначная станцыя, Паньгома — рыбацкае паморскае гняздо. Першая жыве з чыгункі, другая — з рыбы.

Мне хацелася ў Паньгому. Але з трох бакоў яна недаступная выпадковаму падарожніку, адно з поўначы да яе можна прайсці берагам мора ў час адліву. Я так і зрабіў. Апоўдні сышоў у Кузёме з цягніка, распытаў у мясцовых жыхароў, як дабрацца ў тую паморскую вёсачку, па шпалах дзятва вывела мяне да лесу, а там, пад чыгуначным адхонам, стаяў вялізны белы камень, і на ім, чорным па белым, было напісана «Паньгома». Яшчэ і стрэлачка стаяла на камені. Яна паказвала на сцежку, што вяла ў лясны гушчар.

— Сцежка да мора выведзе, а там вярніце направа. Восем кіламетраў — і Паньгома,— у адзін голас наўздагон мне крычалі хлопцы.

І я пайшоў.

Быў час адліву.

На лясістым беразе, акаймаваным чырвонымі, сінімі, чорнымі, зялёнымі, барвовымі россыпамі камянёў, траў, дрэў, ляжала шырокая, метраў на сотню, палоса мокрага марскога дна: двойчы ў суткі, першым і другім адлівамі, яно адкрывалася сонцу, а цяпер — канчаўся першы такі адліў. Лесам ісці было гразка, прыбярэжнымі камянямі — цяжка, я паспрабаваў ісці па рудым дне, якое пакінула вада, але там грузлі боты. Паміж лесам і марскім дном заўважыў шнурочак падсохлага жвіру — прыбойны марскі рубеж. Гэтым шнурком ісці аказалася лацвей як дзе, і я ішоў ім паміж морам і лесам, дзе буялі яркія восеньскія кветкі і сівы мох, чырвоныя брусніцы, сінія чарніцы, ласкава-блакітны ганабель (дурніцы), абдавала водарам анфельсіі, лопугі, сістэры — вядомых беламорскіх траў. Усю дарогу краявіды мяняліся, і кожны з іх паўставаў маім вачам у сваёй нечаканай загадкавасці, суровасці, паэтычнасці. Кожная далячынь неадступна маніла да сябе.

Раптам адзін з такіх далёкіх краявідаў заблішчаў насустрач мне і сонцу россыпам блакітных і ружовых агеньчыкаў. Яны зіхацелі над самай марской вадою, высока ўзнесеныя на скалах. Сэрцам зразумеўшы, што гэта яна, мая незнаёмая Пальгома, я сеў на вялізны камень і доўга ўглядаўся ў яе першыя абрысы, колеры, прыслухоўваўся да грукату вады, які нёсся з таго боку і нагадваў мне чуты раней грымотны гнеўКівача.

На моры пачынаўся прыліў.

З Іванам Канстанцінавічам Кутчыевым я сустрэўся на беразе рэчкі, дзе цясніліся самых розных памераў і ко-

4 Зак. 1260

лераў бярвенне, камяні, баркасы. Стары ёмка стаяў у вузенькай, падобнай на палескі човен пасудзіне, укладваў ля ног сетку, асаджаную на абручы,— збіраўся ў мора. Доўгі і рухавы, гадамі — пад восемдзесят, але апрануты ён быў не па надвор'і лёгка: картовы пінжачок, тоўстая шарсцяная хустка вакол танклявай шыі, босыя ногі ў гумовых атопках, абвіслыя штаны на вузенькай папружцы...

Выгляд старога чалавека ўразіў мяне — я спыніўся. Ён выпусціў з рук сетку, выпрастаўся, пранізліва прыжмурыў вочы, нібыта і мая асоба нечым здзівіла яго, з лодкі ступіў на пляскаты камень, падышоў, працягнуў доўгую сухую руку, назваў сябе і павёў у хату.

Адкуль яму падалося, што я да яго?

У хаце стары падсунуў да беленькай печы ўслончык, лёгка ўзлез на яго, выцягнуў з-за коміна перацяты шпагатам пачак жоўтых газет з партрэтамі калісьці ўсім вядомых, цяпер усімі забытых людзей, разгарнуў газеты, і там аказаліся нават не жоўтыя, даўно бурыя бухгалтарскія ведамасці: у кожным радку — лічбы, лічбы і лічбы...

Запрасіўшы мяне за стол, ён пачаў расказваць пра сваю бабку, якая памерла ў дваццаць сёмым годзе, пражыўшы гадоў дзевяноста, потым — пра дзеда, які жыў восемдзесят гадоў і «памёр яшчэ маладым», памянуў прабабку, прадзеда. Нагадаў, што вёсцы дзвесце пяцьдзесят гадоў, што некалі пры царах яна дзялілася на «петкі», у якіх улічвалі толькі мужчынскія душы. Дзесяць петак на вёску — дзесяць рыбацкіх гнёздаў. Хлопчык народзіцца — яму тут жа давалі палавіну душы. Дажываў да чатырнаццаці — атрымліваў поўную душу. Усе даброты размяркоўваліся па душах. Калі жанчына патрабавала палосу лугу ці лесу або нейкае права, дык яе садзілі на месца: «Бяздушная ты, маўчы...» На памяці Івана Канстанцінавіча ў вёску з цэнтральнай Расіі прыганялі палітычных. Іх адразу ж бралі на ёлы і адпраўлялі ў мора

рыбачыць разам з бывалымі паньгомцамі. Сам Кутчысў малым хлапчуком пачаў хадзіць на рыбныя промыслы ў Баранцава мора.

— Чулі пра зуйкоў?

— Птушачкі?

— Ёсць і птушкі. Але зуйкамі ў нас яшчэ называлі малых дзяцей. Недзе ў маі яны разам з бацькамі ішлі на ёлах у Баранцава, а вярталіся — у пачатку верасня, як лісце з дрэваў пасыплецца. Там, у Баранцавым, рыхтавалі аснастку, з невадоў выбіралі дробную рыбу, на ярусы нажыўлялі. Адзін ярус — трыста метраў шнура. Праз кожныя два метры кручок. А ярусаў на ёле было і дваццаць і трыццаць. Шэсць кіламетраў яруса нажывіць не проста. Рукі дзіцячыя пухлі. А заблытаюцца кручкі — зноў зуйкам работа. Іншыя з пяці гадкоў упрагаліся. Мяне бацька пашкадаваў, упрог з сямі...

Пры Савецкай уладзе Іван Канстанцінавіч актыўна будаваў мясцовы калгас «Беламорскі рыбак». Плаваў з ярусамі і невадамі, кіраваў арцелямі ў Петразаводску, Мурманску, Кемі, яго выбіралі членам праўлення рыбнага калгасна-кааператыўнага саюза Карэліі, а потым вярнуўся да роднага берага — пачаў пісаць гісторыю Паньгомы. Ён паказаў гэтую рукапісную гісторыю мне, і я здзівіўся: там падрабязна былі апісаны рыбныя і нярыбныя гады, ёлы, доры, траўлеры, сеці, штормы, тысячы і тысячы тон сіга, селядца, сёмгі, пікшы, дзесяткі вяскоўцаў, што ляжалі на дне мора і пад магільнымі крыжамі, вечна жывыя легенды аб іх.

Калі я скончыў гартаць паньгомскі летапіс, стары сухімі доўгімі пальцамі паправіў на сухой шыі хустку, падняўся і зноў паклікаў мяне на бераг. Толькі цяпер, на беразе, я раптам здагадаўся, што гісторыя Паньгомы выводзіла мяне на цікавую сцежку, і я, ужо без старога, пайду па ёй — ад хаты да хаты, ад чалавека да чалавека.

На беразе стары неяк адразу замоўк, быццам страціў усякую цікавасць весці гаворку далей.

Глянуўшы на гарбатую вуліцу, потым на мяне і зноў туды, заўважыў:

— Вунь наш старшыня Даніла Якаўлевіч. Нагонім?.. А то паплыве — не ўбачыце.

Ён жвава падхапіў рукамі шырозныя штаніны, каб матузы ад іх, прышытыя ўнізе, не лучалі пад атопкі, смешна, як танцуючы, уподбег шыбануў па жоўценькіх драўляных кладках угару.

Я прыпусціўся следам за ім.

Дзмітрыеў — нетаропкі разважлівы мужчына гадоў за сорак — сапраўды збіраўся на тоню, пад другі адліў вады. Я напрасіўся плысці з ім разам.

Гулкімі камяністымі сходамі мы спусціліся ў маленькую зацішную бухтачку, селі ў маторную лодку: Даніла Якаўлевіч — на карму, я — бліжэй да носа, ля вёслаў. Ён некалькі разоў смаргануў за караценькі сталёвы тросік, нарэшце матор завыў, і лодка імкліва рванулася паміж камянёў у вузкую гарлавіну парога — тут рака злучалася з морам.

Ужо ладнага адплыўшы ад берага, мы нагналі малы і старэнькі, нейкі цацачны, баркас Івана Канстанцінавіча. Плыў ён да вострава, што віднеўся наперадзе, пад шэрым ветразем, стоячы на ўвесь рост,— той жа картовы пінжак на ім, хустка разматалася на ветры і матлялася за плячамі, а на галаве нягегла сядзела зімовая шапка.

— Заколы пайшоў глядзець! — нібыта з гонарам ускліннуў на карме Дзмітрыеў, на момант нават прыглушыўшы матор.

— Вось дык стары-ы! — шчыра здзівіўся я. Нейкі час не мог адвесці вачэй ад ветразя і гонкай постаці рыбака.— Не баіцца ж ні мора, ні ветру?

— А што яму баяцца? Прасолены, як селядзец...

Наша лодка хутка абагнула высокія стромыя скалы. Даніла Якаўлевіч заглушыў матор, ціха падплыў да кала,

што тырчаў з вады, выцягнуў яго з дна, разам з ім паднялося крыло круглай, на абручах, снасці.

— Можа, сёмужка на вячэру трапіла?.. Няма... А далей?.. Няўжо ніводнай не возьмем? — прыгаворваў ён, агляцаючы і адзін, і другі, і трэці заколы.

Сёмгі так і не ўзялі ніводнай — некалькі камбал ды харыус. Развярнулі лодку носам паўз бераг і паплылі далей — у доўгую вузкую губу.

Вада ўсё яшчэ схлынала, рыбакі чакалі поўнага адліву: выкінуты цяглавы невад павінен быў сесці грузам на самае дно, глухой сцяною мярэжы адгарадзіць злоўленую рыбу ад мора. На тоні, аднак, рыбакоў відаць не было, акрамя брыгадзіра Грыгорыя Паўлавіча, таксама — Кутчыева. Ён адзін стаяў у лодцы над невадам, чуйным вопытным вухам лавіў кожны падводны шоргат, не зважаючы на нас. Дзве пустыя заякараныя ля процілеглага берага лодкі віднеліся далей.

— Чай дзе-небудзь ля касцярка папіваюць,— выказаў здагадку Дзмітрыеў.— У нас так заведзена. Невад у мора, а самі на бераг чаёўнічаць.

— Брыгадзіру аднаму горача?

— Яго вока на вадзе заўсёды.

Мы таксама паставілі лодку на якар, сышлі ў мелкую, па калена, ваду, выйшлі на мокры зляжалы пясок, пакінуты вадою ў часы адліву. Ці не ўбачыўшы нас, на процілеглым беразе губы як з-пад зямлі вырасла адна постаць у ружовым рыбацкім рокане, потым другая і трэцяя — у такім самым ружовым адзенні. Усе трое падышлі да лодкі, паднялі з дна якар і пачалі веславаць да нас.

Рыбакі былі маўклівыя ад стомы і холаду. Ужо не двое, шасцёра — да нас нарэшце падплыў і сам брыгадзір — мы з гадзіну мясілі пясчанае дно, пакідаючы на ім сляды ботаў. Вецер мацнеў, халадала, грэліся хто як мог — хадзілі туды-сюды, скакалі на адным месцы, а пажылая, гадоў за пяцьдзесят, рыбачка Аляксандра

Яфімаўна разгаварылася, сябе і нас сагравала размовамі:

— Вада сейдзень нявыпадка. Быстра не спадае.

— Марану чуе,— сказаў брыгадзір.

— Вось-вось задуе вецер. А сейдзень — запад... Паміж шалонікам і пабярэжнікам. Хвалі вялікай не дае, ды халодны. Пабярэжнік, той норавам іншы. Дзьме пылка.

— Пабярэжнік — слава богу.

— Грыгорый, а пры якім ветры твой зяцёк морам накрыўся? Здаецца, у сорак сёмым?..

— Шалонік яго захліснуў. Пры шалоніку рыбы мала, бяды многа. Зарыфлены парус паставілі, а ёлачка ў іх была малая, за дорку меншая.

— Трэба са штапаком ісці. Хоць малы парусок, ды заўсёды выкінеш яго насустрач ветру,— разважыла рыбачка.— Нялёгка, праўда, наўскасяк плысці, але даплывеш, як прыпячэ.

— Трое тады загінула. І зяцёк мой, і пляменнік. З усіх адзін я жывы астаўся. Двое сутак насіла па моры, пакуль вынесла,— успомніў Грыгорый Паўлавіч.

— Цяпер у Белым і рыбка не тая.

— Вось у пяцьдзесят пятым,— згадаў брыгадзір,— адной тоняю трыццаць тон сельдзі залавіў. Памятаеш, Яфімаўна? — Ён зірнуў на рыбачку, потым на мора, сунуў рукі ў мокрыя брызентавыя рукавіцы.— Ну, арлы, пацягнем. Дай бог рыбаку рыбы.

Надышоў момант, беспамылкова ўлоўлены вопытным вокам, калі вада ўжо не спадала болей, але яшчэ і не прылівала, як бы думала, куды ёй рушыць, уверх ці ўніз, прыліваць ці пачакаць, і ў гэты момант вераўчаныя канцы невада знялі з заколаў — пацягнулі на бераг. Спачатку снасць пайшла цяжка, усё роўна як мора заваліла яе камянямі, і Грыгорый Паўлавіч першы зразумеў гэты цяжар: жвавыя вочы і паспешлівыя рукі, яго прагны твар адразу выдалі радасць. Здаровы, чырвоны, прыпухлы, як у малога дзіцёнка, твар гэты не меў амаль ніводнай мар-

шчынкі, а цяпер, павесялеўшы, і зусім як бы памаладзеў.

Я шчыра ўхапіўся за сець.

— Ты не рві, не рві снасць, бо з нашым калгасам не разлічышся,— жартаваў ён і тут жа стрымліваў маё стараннe.— Пацíху. Вось так... Рыбак на пуп усё жыццё бярэ, ды рваць пуп яму не дазволена. Сарве — і мора прагоніць к чортавай мацеры, на печ. Чаму я во і стары, а цягну, як маладая Яфімаўна? — зноў пажартаваў ён.— Усё жыццё рваўся, а пуп бярог. Трэба з напорам, але плаўна. Хапайся, ды не на смерць. Гэтак мора само робіць і нас, дурняў, вучыць...

Сець шаргацела па цыратовых робах, круглыя шкляныя кухтылі адзін за адным вынырвалі з вады. Мне дзіўна было глядзець, як Аляксандра Яфімаўна, ускінуўшы канец вяроўкі на спіну і ёмка ўпіраючыся нагамі ў топкае марское дно, вяла на вяроўцы і трапяткі невад, і чаргу мужыкоў. Нягледзячы на гады, а гадамі яна была ў брыгадзе хіба за Грыгорыя Паўлавіча маладзейшая, Аляксандра Яфімаўна здавалася жвавейшаю за астатніх, цягнула невад упарта, ледзь хілячыся то ў адзін бок, то ў другі — адчувалася і сіла ў руках, і кемнасць рыбацкая. Ні ў чым яна не ўступала мужыкам і потым, калі з вады падымалі, крэкчучы, куцец, завалены рыбаю, калі разам з усімі выбірала з кутца таўстых зіхаткіх сігоў, каб грузіць іх у лодку. Рыбацкай увішнасці, кемлівасці ў яе, як мне падалося, было, можа, нават болей, чымся ў мужыкоў, і ўсё гэта давалася ёй не адным стараннем, але і практыкай, рыбацкім жыццём. З пяці гадкоў яна таксама хадзіла зуйком у Баранцава мора з бацькамі, сотні разоў нароўні з мужыкамі змагалася са штормамі, неаднойчы выводзіла з-пад мёртвага вала сваю ёлу, улетку і ўзімку здаралася ёй плаваць дагары кілем. У моры і з Грыгорыем Паўлавічам сышлася, такім жа прасоленым рыбаком, пажаніліся, і з таго часу ўжо напару з ім лавіла селядцоў ды сігоў. Дзе ён — там і яна.

Вечарэла. Хаваліся ад вачэй далягляды. Цяжкая шэрая вада змрочна бліпчала наўкола. Мы вярталіся ў Паньгому па цяжкіх, заваленых сігамі баркасах.

Прычаліўшы да каменнага пірса, вынеслі на бераг мокрыя сеці, кінулі іх на вешалы; у аграмадныя кашы, што стаялі тут жа, на скале, пачалі выбіраць рыбу. А ў мора адсюль, з бухты, збіралася адчальваць другая рыбацкая брыгада, і там ужо былі адны жанчыны — ніводнага мужыка.

— Даніла, матор у нас глухне. Ты паглядзеў бы, што з ім робіцца,— прасілі калгаснага старшыню рыбачкі.

— Рана здаваць пачынаеце, бабкі. Яшчэ рыба ў моры не перавялася, а вы ўжо на матор ківаеце.

— Не жартуй, Даніла. Праўду табе кажам.

— Дык, можа, на сваім адбуксіраваць вас?

Змоўклі, не ведаючы, мабыць, што адказаць. Але знайшлася самая маладая:

— Я, напрыклад, твайму матору не даверуся.

Зарагаталі.

— Ды не скаль зубы і ты, Варка!.. І ты, Даніла! — усіх адразу абсекла з кармы пажылая жанчына ў рабой хустачцы і чорным, што прадвеснік ночы, кажушку.— Тут сур'ёзна вырашаць трэба, а вы, маладыя... Вам абы гіргатаць...

— А што вырашаць? Не варта буксіраваць нас. Паньгома ўся смяяцца будзе заўтра,— ужо без жартаў адказала з лодкі маладая жанчына.— На вёслах берагавіком дабяромся. Не першы раз. Ты лепей сустрэнь нас, Даніла. Штарміць пачынае.

— Можа б, і не вымётвалі? — прапанаваў старшыня.

— А гэта мы паглядзім там, у моры. Як надвор'е. Хоць заколы праверым...

І чаму, думаў я, прысеўшы ўгары каля вешал і ўважліва слухаючы рыбацкую гаворку ўнізе, гэтак жа густа перасыпаную жартамі, як і клопатамі, чаму даўней такіх вось мужных, працавітых жанчын у рыбацкіх «петках»

не прызнавалі за «жывыя душы»? Вось ноч наперадзе, непагода, цяжкая работа, што, здавалася б, не кожнаму мужчыне пад сілу, матор на лодцы няспраўны, а яны ніколечкі не сумуюць, адмаўляюцца ад старшынёвай дапамогі, яшчэ і жартуюць.

Калі Даніла Якаўлевіч падняўся да мяне на скалу, я сказаў яму аб тым, аб чым толькі што падумаў, і ён рукамі развёў:

— У Паньгоме кожная жанчына рыбачка. Ды і хто б лавіў рыбу, калі б не яны, руплівіцы. Маладзейшыя мужчыны з траўлерам у Баранцавым, а беламорская рыбка на іхніх плячах.

Нашу кароценькую размову, мабыць, пачула Аляксандра Яфімаўна: уздыхнула сама сабе, выбіраючы з баркаса ўлоў, ціхенька засмяялася.

— Ты чаго? — спытаў старшыня.

— Ды... так сабе...

Вячэралі позна. З рыбай, вядома, бо якая ж рыбацкая вячэра без рыбы? На стале ляжалі смажаныя сігі, камбала. Знайшлася і сёмужка.

— Цяпер яе мала,— прызнаваўся гаспадар.— Летась усім калгасам здалі сто пяцьдзесят кілаграмаў.

— Яе заўсёды мала было. Рэдкая рыба,— заўважыла, завіхаючыся ля печы, старшынёва жонка Марыя Антонаўна.

— Усё ж... Калісьці тонамі здавалі.

— Свой лёс і ў чалавека, і ў рыбіны,— зноў уздыхнула Антонаўна.— Бывае лепшы, а бывае горшы. Жыццё ўвесь час мяняецца. Вада ў нашай рэчцы, у Паньгоме, паніжэла, вось сёмужка і не праходзіць на нераст.

— Ну... А ў вас ці багата рыбы? — пацікавіўся гаспадар.— Ёсць сёмужка? Няма?.. Вугор ёсць?.. Га-а!..

Бачыў я, што ў лёсе беламорскай сёмужкі шмат агульнага з лёсам нашага нарачанскага вугра. Як тутэйшая сёмга ішла на свае спрадвечныя нерасцілішчы і не знахо-

дзіла іх, так і вугор з Нарачы тыцкаўся цяпер у Нарачанку, адтуль — у Нёман, і... адно губы збіваў аб бетонныя плаціны. Спрадвечны шлях вугра ў Саргасава мора быў адрэзаны, а без гэтага шляху, без цёплага мора ён ужо не мог даваць патомства, аднаўляць свой род, вяртацца маладымі чародамі на радзіму. Летась уначы, на тонях Нарачы, я на свае ўласныя вочы пераканаўся, як цяжка лавіць вугра, з якой неахвотаю ён ішоў у падвалокі славутага нарачанскага рыбака Міколы Варанца. У вёсцы Чараўкі, на той жа Нарачы, Віктар Хіхель, яшчэ адзін славуты тамашні рыбак, расказваў аднойчы, што ў час ходу вугра заўважыў яго ў гарлавіне паміж Мястрам і Нараччу і разам з сынам, за адну ноч, пацягнуў цэлую тону. Віктар, я адчуў гэта раней, шанаваў прыроду, і тут, у размове, яму рабілася няёмка за той улоў, ён як бы апраўдваўся: «...Разумееш, на цёрку вугор усё роўна не дойдзе...»

За вячэрнім акном пакаціліся залівістыя паморскія прыпеўкі:

Не пойду в Паньгоме замуж,
Не хочу сельдей ловить.
Выйду я в Кеми за дроля —
Буду барыней ходить.

Не толькі там, за вокнамі, але і тут, у хаце за вячэраю, на душы адразу неяк павесялела пасля ўсіх думак, прасцейшы і ўтульнейшы зрабіўся свет.

Раскачайте-ка повыше,
Хочу море повидать.
Не пойдет ли мой хорошенький
По бережку гулять...

Гаспадыня ўсміхнулася, спытала ў мужа:

— Можа, Надзя дроля чакае?

— Ці не масквічкі,— падумаў Даніла Якаўлевіч.— Тут да нас у Паньгому прыехалі маскоўскія мастачкі. Вёска дужа даспадобы прыйшлася. Малююць яе з усіх бакоў. І песні нашы паморскія павывучвалі. Спяваюць так, што не разбярэш, дзе іхнія галасы, а дзе галасы нашых дзевак.

І зноў:

Это лето — не два лета,
Как-нибудь переживу,
Придет миленький мой с моря —
Всю обиду растоплю.

— Не кажы,— падышоўшы да шыбкі і прыслухаўшыся, пацвердзіла сваю ранейшую думку Марыя Антонаўна.— Надзя. І яшчэ нехта падпявае. Значыць, паньгомскія дзяўчаты дроляў чакаюць. З Баранцава. Там жа наш МРТ, траўлер. Рыбачаць хлопцы.

Прыпеўкі звонка сыпаліся пад самымі вокнамі, ляцелі-раскатваліся па скалістых берагах, па моры, а потым цішэлі, як усё роўна раставалі, і адразу, здавалася, мацнела на нашым стале песня меднага шыпуна-самавара. Утульна пахла тонкім самаварным духам, смажанай рыбаю, ранішнімі, яшчэ свежымі, пірагамі.

— Песні ў нас — ой, працяжныя,— закручваючы кранік самавара, кажа Марыя Антонаўна.— Бывала, плывуць хлопцы і дзяўчаты з тоні, песні спяваюць. Здаецца, як у вёсцы сядзіш, што зусім ужо блізенька плывуць. Маткі ўсходзяцца: ах, самавары трэба хутчэй ставіць... Нальюць самавары вадою, распаляць, а потым чакаюць-чакаюць... Песні блізка, а рыбакоў няма. Самавары тухнуць, стынуць. Пасядзяць, зноў пачынаюць распальваць... Песню ў скалах ды на моры дужа далёка чуваць. Скажы — не, Даніла? — звяртаецца жонка да мужа.

— Ваша бабская справа песні,— адмахваецца ён.

— Для каго іх катаем, як не для вас? Каб вам лягчэла.

— Нам не бяда і без песень... Няма калі слухаць. Мяне тут усе за маладога лічаць. А гэты малады яшчэ ў дваццаць восьмым годзе з бацькам выйшаў першы раз у Баранцава. Яшчэ і калгаса ў нас не было. У бацькі свая ёла стаяла. Быў ён лепшы на беразе рыбак.

— Колькі ўжо стажу? — спытала жонка.

— А вось палічы,— развёў рукамі Даніла Якаўлевіч.

— У вайну ты сем гадкоў не рыбачыў.

— Вайну — па вайне. У трыццаць дзевятым пайшоў,

у сорак шостым толькі вярнуўся. Адразу — на ёлу. Потым механікам. Дзесяць гадкоў адхадзіў па Баранцавым. Бралі рыбу сецяным ловам, ярусным, дрыфцерным. На МРТ механікам плаваў. Хацелася, каб калгас багацеў. А людзей не ставала. Сам і за механіка, і за капітана, і за рыбака. Адзін. Што аднаму можна? І якар не выкатаеш. Ну, тапіўся не раз. Ды ўсе мы, паморы, не раз за жыццё топімся. Такая служба. Памятаеш, Марына, як Івана Піліпавіча Дзмітрыева мора суткі насіла на ледзяной хвалі, пакуль карабель не падабраў? У Мурманску сустрэў я старога, абняліся. А сам я прыплыў туды мотаботам у шпіталь з паламанай рукою...

Гаспадар зусім нечакана змоўк, спахмурнеў, зірнуў у акно, падумаў, адставіў шклянку з недапітым чаем ад сябе.

— Ну, жонка, мне трэба ў мора.

І ўстаў з-за стала.

— Што надумаўся?

— Там дзеўкі на вёслах. А мора на ноч разыгрываецца. Трэба маторам іх прыцягнуць.

Марыя Антонаўна ні словам не запярэчыла мужу, падала яму шарсцяныя, нагрэтыя ля грубачкі, світэр, ватоўку, шапку. Даніла Якаўлевіч моўчкі апрануўся, усцягнуў на ногі боты і выйшаў за дзверы ў самую цемень.

Уранні, прачнуўшыся, гаспадара ў хаце я не заспеў. Марыя Антонаўна, ляскаючы гаршчэчнікам у печы, сказала, што ён ранічкай паплыў вымётваць невад.

Я памыўся сцюдзёнай вадою, паснедаў ружовымі падсмажанымі сігамі і гарачым чаем — падаўся на вёску.

Сонца стаяла над морам, і ўся Паньгома купалася ў лёгкай ранішняй смузе. Холадна блішчалі шыбы, дахі, валуны і скалы, сеці на платах, гэтаксама блішчалі старыя драўляныя тратуары — яны ляжалі ўсюды, куды вокам ні кінеш, вакол хатак і свірнаў, хлявоў і лазняў. З-за

рэчкі, апяразанай пахіленым драўляным мостам, вёска выглядала надзвычай таямніча, прыгожа, зіхацела каляровымі агеньчыкамі, нібы ўпрыгожаная на свята. Да скал, як ластаўчыны гнёзды, туліліся маленькія лазні, і некаторыя з іх мелі толькі па тры драўляныя сцяны, прыбудаваныя да скалістых стромаў.

Па камянях я спусціўся ў бухту, адкуль учора выпраўляліся на сігоў і куды вярталіся потым назад, у загружаных рыбай баркасах. Скачучы з каменя на камень, прабраўся да стаянкі дораў — чалавек на дзесяць кожная. Яшчэ большыя доры, падобныя на казачныя пірогі з высока ўздзёртымі насамі, горда стаялі ў самым вусці Паньгомы, на выхадзе ў мора — у бухце ім было, мабыць, зусім цесна.

У канцы вёскі бераг ніжэў, скала канчалася, пачынаўся роўны пясчаны адхон. На пяску валяліся выкінутыя морам паплаўкі ад невадаў і сетак, шкляныя і берасцяныя кухтылі, старыя, што аджылі свой рабочы век, якары, сухія рабрыны ад дораў і баркасаў. Тут, крыху адступіўшыся ад вады, былі і могілкі Паньгомы: крыжы, крыжы, крыжы...— завельмі шмат для такой невялічкай вёскі. Амаль ля кожнай магілы прылеглі дзе як, бокам ці дагары, знявечаныя векам і штормамі баркасы і доры. Тут, пастаяўшы моўчкі, нельга было не прыгадаць словы Івана Канстанцінавіча Кутчыева: «На гэтым беразе нашы песні і нашы магілы...» Многія баркасы і доры ўжо грунтоўна пазасыпала зямлёю — тырчалі дзе нос, дзе карма. З цягам часу паморскія судны таксама ішлі ў магілы, але да канца аставаліся вернымі рыбакам — паміралі побач з імі.

Ля аднаго з баркасаў, расколатага на дзве палавіны, сядзеў аграмадны стары сабака: рабы, з белымі нагамі. Задумлівыя вочы глядзелі ў мора, слязіліся.

Вецер з мора дзьмуў мацнейшы, чымся надоечы, золкі, аж апякаў твар. Я адвярнуўся ад яго, ад сабакі і толькі цяпер заўважыў: вёска стаяла глухімі сценамі

ў гэты бок, да вады, таксама адвярнуўшыся ад яе — ганкамі і вокнамі глядзела на лес, у якім было больш цішыні, спакою і цеплыні. Ля глухіх сцен сохлі прывезеныя з начных тоняў сеткі, стаялі высокія, роўна са стрэхамі, сцірты дроў — ужо цяпер, лежачы на падворках і проста ля платоў, яны засланялі паморскія хаты ад лютых вятроў.

Паўз тую ж ваду я павярнуў да старшынёвага дома, але спыніўся перад суседскім свірнам: падалося, што ў адчыненыя дзверы зайшла Аляксандра Яфімаўна.

Свіран стаяў па-над самай вадою. Я падышоў, зазірнуў у дзверы: ля парога, пры святле, з аднаго боку сядзела Аляксандра Яфімаўна, з другога — Грыгорый Паўлавіч, а вакол іх да самай страхі — сіняя, месцамі чорная, сівая і зялёная марская трава анфельсія. Калгасу даводзіўся план не толькі на рыбу, але таксама на марскія травы: адны з іх ішлі ў медыцыну, другія ў харчовую прамысловасць. Кожны паньгомец жыў не толькі з рыбы, але і з травы. Таму штормы тут і чакалі, і пракліналі адначасова — яны не пускалі рыбакоў у мора, але затое выкідвалі на бераг травы.

— Сейгод катора трава прыб'ецца яшчэ да берага, дык яе ўжо і не возьмеш,— разважае з тою ж ахвотаю, што і ўчора на тоні, Аляксандра Яфімаўна.— Ужо не мы будзем яе падбіраць, а зімка. Што за лета паспеў сабраць, тое хутчэй дагледзь, не памарозь.

— Зборы, вядома, канулі. Да вясны,— падтрымаў жончыну думку гаспадар.— Але занятак гэта ўсё ж больш бабскі. Мужыцкая справа — рыба. Там хоць смерць на пяце сядзіць, ды ёсць што спомніць.

— Во калупаемся і спамінаем...

Я зразумеў, што з маім прыходам у іх абарвалася нейкая размова, дарагая абаім, і таму папрасіў:

— Што цікавае?.. І я б паслухаў.

Стары памаўчаў, пачысціў і адкінуў яшчэ некалькі водарасцяў, узяў у рукі чарговую, утаропіў у яе вочы, але рукі ўжо не варушыліся — пачаў:

— Спамінаем тут трыццаць сёмы год... Дык вось... Звечара выплылі мы ў Баранцава па добрай пагодзе. Выкінулі ярусы, сагрэлі ў ёле на камінку чай, папілі, леглі спаць. Хлопцы маладыя, здаровыя. Заснулі хутка. Прачнуліся — шторм. Калі пілі чай ды клаліся, гайдала вакол нас іншыя пасудзіны, а цяпер — нікога блізка не відаць было. Усе пакідалі ярусы ў моры, павыскоквалі на бераг да сваіх стаянак. Адны мы асталіся. Пацягнулі ярус, каб з пустым не вяртацца,— цяжкі, на кожным кручку вялікая траска сядзіць. Цягнем, хоць шторм. Ёлка у нас малая, усю траской хуценька завалілі. Тут яшчэ адзін ярус бачым — кухтылі падкідае на хвалі. Давай і яго выбіраць. Не дайшлі да стаянкі кіламетры два — вецер пачаў прыпадываць. На бераг позна — кладзёмся на хвалю ды ў мора. А вецер — пабярэжнік, на вачах мяняецца, ужо бура са снегам. Усё кругом адразу збялела, стаянка на гарызонце сцерлася, быццам яе і не было. Адна хваля цераз нас, другая пад нас, трэцяя зноў цераз нас. Ужо тут мы абняліся, развіталіся. Дваццаць пятага мая было гэта. Снег з лютым ветрам. Перакуліла нас дагары, ды параскідала. Вада белая, што малако, белыя валы ў вачах. Чатыры гадзіны кідала па тым ледзяным малацэ. Мяне падабраў фінскі мотабот. Адагрэлі спіртам ды чаем, тады я пачаў балакаць з фінамі. Ат!.. Якое там балаканне? Пасля было... Як заснеш, дык і бачыш малочны шторм, валы белыя бягуць на цябе, бягуць... Крычаць ахвота, ды не можаш, не дае нешта крычаць. А на цела, здаецца, нехта жалезныя абручы набівае, яны цябе сціскаюць усё мацней, ужо і дыхаць нельга...

Грыгорый Паўлавіч змоўк, выцер далонню гарачы, мабыць, ад тых яшчэ перажыванняў, лоб, зноў пачаў перабіраць траву. І як мне было зразумець яго пачуцці? Для гэтага, відаць, трэба, як ён, гадоў шэсцьдзесят пражыць на моры ў рыбацкай прасоленай робе, сотні разоў адчуваць на сваім целе штормы, дзесяткі разоў гінуць і не здавацца, выжываць, ісці на марское дно і кожны раз

дзівам падымацца з дна марскога. Такое цяжка, проста немагчыма зразумець, калі ты — не памор.

Міма свірна нячутна праплыла лодка, заваленая цюкамі з анфельсіяй. Аляксандра Яфімаўна, хоць і не глядзела ў дзверы, была занятая сваімі думкамі і сваёю работаю, ды ўсё ж, мабыць, неяк пачула тую лодку — казырком прыставіла руку да лба, гукнула:

— Ваня!.. Ці ты здаваць вязеш?

— Здаваць! — пачуўся з вады мужчынскі голас.

— А хто прымае? Старшыня на складзе?

— Кажуць, што прыплыў. Але збіраецца па зайцоў у Кузёму.

— А-а!..— супакоена выдыхнула Яфімаўна і адступілася ад парога, зноў села на сваё ранейшае месца.

— Па якіх зайцоў? — пацікавіўся я.

— Па школьнікаў. Сваёй школы няма, вёсачка наша маленькая, дык усе там, у Кузёме, вучацца. І жывуць там у інтэрнаце. Па суботах на нядзельку прыязджаюць.

— Значыць, сам Дзмітрыеў паплыве? Мне ж ён і трэба,— успомніў я...

І выйшаў з свірна на бераг.

Дома Данілу Якаўлевіча не застаў — прысеў на ўслончык ля акна, не ведаючы, ісці да яго ў бухту ці пачакаць тут. Супакоіўшыся, прыгадаў Улы і Мары. З адчуваннем нейкай віны сваёй падумаў, што пара быць у іхняй Вольніцы, як абяцаў. Значыць — ехаць? Сёння ж. Усё роўна ніхто ў нядзелю не стане вымётваць невады, усе пад сваімі стрэхамі будуць корпацца з травою, дрывамі, а дзеці прыплывуць — клопат у кожным доме сустрэць іх, абмыць, абшыць, накарміць...

Трэба ехаць, не пазаляць. І Даніла Якаўлевіч якраз плыве ў той бок, у Кузёму,— падкіне...

Я падняўся з услона, каб развітацца з Марыяй Антонаўнай.

— Ужо? Гэтак мала і пабылі?

— Яшчэ ў Калевальскі раён трэба ехаць.

— Ой, далёка,— пляснула яна ў далоні і тут жа, нечакана, як спахапіўшыся, прызналася: — Я ж беларуска таксама. З-пад Полацка. Але зямлю сваю ўжо і не памятаю. Некалькі гадкоў мне было, як бацька прывёз сюды ўсю сям'ю. Там і радні нікога не асталося. Усе тут во...

Падышла да акна, зірнула ў той бок, дзе за сціртаю колатых дроў віднеліся магільныя крыжы.

— Куды я цяпер адсюль паеду?..

Вецер мацнеў.

Хваля за хваляй, вал за валам каціліся да берага. Яны былі яшчэ дробныя, зусім не грозныя, асабліва памору, аднак гэта былі толькі прадвеснікі шторму. Магутныя хвалі нараджаліся ў нетрах вечна жывой стыхіі, прыроды, каціліся да свайго берага, выконваючы пэўную работу, а дасягнуўшы яго — разбіваліся, праз пясок і гальку немінуча вярталіся назад, у тыя ж нетры, і тады да берагоў беглі новыя і новыя хвалі. Перамагала бясконцасць, хоць жыццё было хуткаплыннае, як жыццё чалавека ў сваім чалавечым моры: у гэтым сэнсе сам чалавек аказваўся ўсяго толькі мадэллю нейкай марской хвалі. Мадэллю прыроды і самой прыродаю. Тое, аб чым і на Бесавым Носе, і ў Шокшы, і на Канчвозеры, і ў Кіжах адно мелькам думаў, пра што здагадваўся, тут раптам адчуў як рэальнасць: чалавек у доме Іванан Улы быў крапяжом паміж усімі яго сценамі, і ці не ў гэтым было яго найвышэйшае прызванне.

Спакойна і высакародна кацілася ў гэтых сценах жыццё Паньгомы. Прыходзілі і адыходзілі, выканаўшы свой абавязак, паморскія пакаленні, адно легенды аставаліся жыць, ды крыжы на магілах, ды счарнелыя баркасы пад крыжамі. І жыў, пры ўсіх бедах і смерцях, сам чалавек.

Так атрымалася, як задумаў: да Кузёмы мяне ўзяў на маторку Даніла Якаўлевіч.

Вырульваючы з паньгомскай бухты, мы заўважылі на

скале старога Кутчыева. Іван Канстанцінавіч стаяў высока, нібы паньгомскі маяк, ужо без зімовай шапкі, але ў тых самых караткаватых штанах і атопках. На плячах ужо вісеў незашпілены кажушок.

— Бач... Дастаў з печы кажух. Значыць, чакай марану. Як закон. А марана з мора — цяплынь у мора.

Рукі Дзмітрыева падняліся да каўняра шарсцянога світэра, матор працавіта завыў, і мы паляцелі паміж камянёў, на якіх сярод свінцова-цяжкой вады сядзелі, не варушыліся, надзьмутыя маладыя чайкі.

Кутчыеў стаяў на скале, глядзеў у марскую прастору...

Паміж намі ляжала шырокая вада, і ўжо нішто не магло вярнуць мяне на бераг — боцік імчаў у адкрытае мора. Я не зводзіў з старога вачэй, шкадаваў, што мы з ім ніколі ўжо не ўбачымся, не пагаворым. У сваім кароценькім кажушку стары здаўся мне тым бывалым мужным паморам, без каторага Паньгомы проста нельга сабе ўявіць. Мудрэц... Ён стаяў на высокай скале, нібы капітан на капітанскім мосціку, і Паньгома здавалася ўжо не вёскаю, а рыбацкім караблём, падначаленым свайму капітану. Кутчыеў адплываў ад мяне ў сінюю, зусім не сонечную, як уранні,— у вельмі сінюю далячынь, і скалы там высіліся ўжо не ружовыя — сінюшныя, пад колер тоўстага марскога лёду.

Была субота, вёска чакала дзяцей, і ўсе лазні паўз бераг стаялі пад сінімі дымамі. Мала дзе дымы цягнуліся з камінаў, часцей яны курэлі з-пад верхняга вянца бервяна або з маленькага акенца — амаль усе лазні паліліся па-чорнаму.

Недзе на паўдарозе ад Паньгомы да Кузёмы мы сустрэлі маторную лодку з прычэпленай да кармы доркаю. У глыбокай доры сядзела і стаяла паньгомская дзятва. Плывучы міма нас, паўскоквалі і тыя, што сядзелі, усе ў адзін голас паднялі вэрхал, махаючы над галовамі шапкамі і вучнёўскімі сумкамі. Гэта самае маладое, самае

жыццярадаснае пакаленне паньгомцаў вітала наш боцік.

— Дзед Мазай і зайцы! — усклікнуў Дзмітрыеў.

Хвілін праз дзесяць матор чыхнуў і супакоіўся, наш боцік носам ткнуўся ў прыбярэжныя камяні.

Сышлі на бераг. Даніла Якаўлевіч павёў у лес паказваць карацейшую сцежку да Кузёмы.

— Кіламетры тры асталося...

— А вы назад?

— Я назад. Дзяцей стары Мазай перахапіў.

— Такое імя?

— Нехта назваў яго дзедам Мазаем. З таго часу і прыліпла — Мазай ды Мазай. І зайцы... Дзяцей любіць.

Дзмітрыеў падаў мне на развітанне гарачую руку. Зрабілася ніякавата, балюча. Мы разумелі, што ўжо ніколі не ўбачымся. Жыццё кацілася хутка і незваротна, а дарог на зямлі ляжала багата, і паўтараць адну дарогу двойчы амаль немагчыма.

Крокаў праз трыццаць я азірнуўся.

Даніла Якаўлевіч стаяў у той жа паставе, спіною да мора і ветру, прыкурваў. Прыкурыўшы, глянуў у мой бок. Я памахаў яму рукою, і ён мне — шапкаю.

У густым маладым бярэзніку, перасыпаным ельнікам, я зноў спыніўся, але не павярнуўся, адно прыслухаўся, як за лесам, ля блізкага берага, завыў матор — баркас панёс свайго марахода зноў у мора — да Паньгомы.

Я прыбавіў кроку.

## ВУЧЫЎ СТАРЫ ВЯЙНЯМЁЙНІ

Каб сустрэцца з Іванан Улы і Васелэйн Мары, трэба спачатку дабрацца да Калевалы, а ўжо адтуль да іхняе Вольніцы, вялікай зялёнай вёскі на беразе Куйтыярві, астанецца кіламетраў пяцьдзесят.

У Калевале стаіць сасна Лёнрота. Шмат рупаў чула гэта сасна. Старыя калевальцы пераконваюць, што сла-

вуты збіральнік рунаў Лёнрот праслухаў пад ёю ад мясцовых рунапеўцаў большую частку эпасу «Калевала». Тут запісаны і песні Ямані Варагвонты, ці не самага вядомага калевальца. Праўда, у тыя часы сасна стаяла не на мысе Рух'я, дзе стаіць цяпер, але таксама на беразе Куйты. Яшчэ перад Вялікай Айчыннай вайною яна красавалася, зялёная і густая. У вайну фашысты з-за возера абстрэльвалі пасёлак — асколкі пасеклі дрэва. Яно пачало сохнуць, аслабела, і вецер зваліў яго зусім. Знайшліся «рупліўцы» — адхапілі пілою самы камель. Астатняе ўдалося ўратаваць, і гэта «астатняе», сухое і голае, пасадзілі зноў у зямлю. Ля Дома культуры, на Рух'я.

Да сасны Лёнрота я прыйшоў з Маці Пірханенам, «хросным бацькам многіх карэльскіх пісьменнікаў», як сказаў Яака Ругаеў. Карэнны калевалец, старшы школьны настаўнік і вялікі патрыёт роднага краю, Маці Пірханен увёў у літаратуру не аднаго Ругаева, але і Анці Ціманена, Мікалая Лайнэ, Пеку Перту, Арцёма Сцяпанава, Васіля Мікеля... Год за годам, карпатліва, падобна ювеліру, адточваў ён таленты калевальскага краю на асялку гісторыі народа, яго духоўнай мудрасці.

Пірханен расказваў мне, як у Латвозеры Лёнрот знайшоў Архіпа Пертунена, і той спяваў яму трое сутак. Здзівіўся Лёнрот: «Калі ж настане канец тваім песням, мудры чалавек?» І адказаў Пертунен: «Прыйшоў бы ты, Лёнрот, запісваць нашы руны хоць некалькі гадоў назад, калі жыў бацька, ён спяваў бы табе пятнаццаць дзён, і руны былі б усё новыя...»

Яшчэ Маці Пірханен казаў мне:

— Едзьце ў Вольніцу. Лёнрот запісаў там руны ад Антрэя Малінена, ад Васілы Кіелівайнена. Там жывуць іхнія ўнукі і праўнукі. Адшукайце Васелэйн Мары, Іванан Улы...

Вось адкуль пачалася мая сцежка ў Вольніцу.

Зноў вярнуўшыся да Улы і Мары, я знайшоў іх па тым жа беразе Куйтыярві, у тым жа доме, за тым жа

сталом і самаварам — як дваццаць дзён назад. І сялява ляжала на стале: смажаная, вяленая, вараная — быццам усяго на некалькі хвілін я пакідаў застолле і вось зноў вярнуўся на працяг размовы.

Улы і Мары адразу пусціліся ў роспыты, дзе быў ды што бачыў... А калі я скончыў расказваць, Іванан Улы заўважыла:

— Чужая рука пад пахаю халодная. Вось і мы з Мары баяліся, што руны будуць табе чужыя. Бо ты не ведаў дом, у якім яны нарадзіліся.

— Цяпер я шмат пабачыў.

— Цяпер і руны ты зразумееш.

Яна ўстала з лавы, усім траім наліла па шклянцы моцна заваранага чаю, па добрым кавалку свежага пірага з сялявою паклала ля кожнай шклянкі, села, уважліва паглядзела на Мары, нешта сказала ёй па-свойму — тая згодна кіўнула галавою, кінула два-тры слоўцы ў адказ. Абедзве паклалі рукі на калені і...

Не, Улы не заспявала. Яна толькі прыладзілася слухаць. Заспявала Васелэйн Мары. Пачала ціхім, задушэўным, што вясновы ручаёк з-пад вялікага каменя, голасам:

Кіелты ванга Вяйнямёйні,
Кіелты колместа пагаста...

Цётка Мары пасля кожнай страфы спынялася, каб даць магчымасць Улы перакласці радкі руны:

Вучыў стары Вяйнямёйні,
Вучыў пазбягаць трох бедаў:
Нельга свістаць на вадзе,
Нельга спяваць на хвалях,
Нельга старому жадаць маладую,
Захапляцца прыгожай.
Казаў стары Вяйнямёйні
Сваму малодшаму брату:
«Прыгожы кацёл на агні,
Калі вада ў ім кіпіць,
Мудрыя думкі ў галаве мужчыны,
Які нават без справы сядзіць.
Сіла не ломіць плячэй.
Думкі не ломяць галавы».

І тады, пры нашай першай сустрэчы, і цяпер, на па-

чатку гэтай, больш увагі я звяртаў на цётку Улы, дзівіўся яе ўвішнасці, кемлівасці, гаварлівасці і чамусьці быў упэўнены, што ў песнях яна таксама будзе першая. Але першым голасам тут аказалася Васелэйн Мары, ціхая і рахманая. Можа, не толькі чалавек выбіраў сабе руны, можа, руны таксама выбіралі сабе выканаўцу; не іначай, як самі яны выбралі і сціплую, нетаропкую душу цёткі Мары якраз пад свой лад — працяжны і нехапатлівы.

Не хадзіў нікуды я вучыцца,
Не імкнуўся ў багатыя землі,
Я блукаў па лясах тваіх, Лапі,
Веславаў я па водах Віро,
Ў родным краі спяваць я вучыўся,
На сваіх дарогах лавіў руны,
Па кустах зялёных зрываў,
У алешніку іх знаходзіў,
Ля людзей вясёлых збіраў,
У верасовых лясах ламаў
І з травінак яшчэ абіваў.
З тысяч пялёсткаў, травінак,
З паўнюткіх сотаў пчаліных,
Адкуль мёд на зямліцу капае...

Вось старыя зноў перакінуліся слоўцамі, зноў пераклала для мяне Улы:

— Сказала Мары: самі пастарэлі і руны пастарэлі. Раней усё пра каханне пелі. А я кажу: калі б усе руны памяталі, то нячысцік пералавіў бы сяляву ў Куйты.

Улы і сама чакае, калі Мары, скончыўшы спяваць адну песню, пачне спяваць другую; чакае цярпліва, моўчкі, ні словам, нават позіркам не падганяе яе. Напэўна, песня павінна сама нарадзіцца і выспець у душы, выліцца — Улы ведае гэта.

Мары ўсё маўчыць. Задумваецца. Спяваць усё не пачынае. І ўлавіўшы, відаць, што наступная песня ў Мары яшчэ не выспела, што ёй трэба ціха падумаць, Улы, каб адвесці ад яе ўвагу, заводзіць гаворку пра жыццё:

— У нас з ёю мужыкі не былі кроўнымі. А мы ўжо як кроўныя сталі.

— Адны жывяце? — пытаюся.

— Мужыкі нашы загінулі на вайне. У мяне дачка

ёсць, але не жыве разам са мною, нават не ў Вольніцы... Самі ў касе і ў рыбе. Усюды самі...

Мары ставіць на стол шклянку, адарваўшы яе ад вуснаў, паварочваецца да сяброўкі, пранікліва глядзіць на яе, у самыя вочы, пакуль Улы не паўтарае ёй па-карэльску ўсё, што дагэтуль сказала мне.

— Праўда, адна — як баркас на вяроўцы. Яго хваляю і левым бокам аб бераг, і правым бокам аб бераг, і носам у пясок. Кароўку трымаю, лужок сама кашу. Тры капы накасіла, сама зграбла. Працэнт саўгасу, працэнт мне...

Зноў перавяла пагляд на Мары, па твары яе нешта заўважыла і тут жа замоўкла, не дагаварыўшы. Мары адставіла шклянку з чаем, апусціла на калені рукі і заспявала:

Прыляцеў арол і сеў ля шула,
Лапамі зямлю хапае,
Крыламі травічку топча.
Раскапусціўся арол ля шула,
Пазірае ў вокны —
Гаспадар пытае:
— Што, арол, ты сеў ля шула?
Гаспадынін твар цябе прывабіў
Ці гаспадара багацце?..
— Гаспадынін твар мяне не вабіць,
І не трэба мне тваё багацце,
Выглядаю я ў акне нявесту...
— Ты, арол, сядзеў амаль што тыдзень,
Пасядзі яшчэ два тыдні,
Падрасце няхай твая нявеста.
Пасядзеў арол амаль што тыдзень,
Адсядзеў пасля яшчэ два тыдні —
Зноў пачаў пытацца пра нявесту.
— Адсядзеў, арол, ты цэлы тыдзень,
Потым адсядзеў яшчэ два тыдні,
Пасядзі яшчэ хоць тры дзянёчкі —
Ужо рукаў адзелі на нявесту,
Ды другі рукаў мы не адзелі...

Праляцелі і тры апошнія дзянёчкі. Што рабіць? Паклікалі бацькі нявесты «арла да арліцы». А ён — прыгожы і дужы. Арліцы абяцае дом вялікі, вясёлы, сам яго будаваў — вянцы вазіў з лясочка ягаднага, мох з балацін самых мякенькіх...

Ступіла арліца ў дом арла — жахнулася:

Першая сцяна з касцей мужчынскіх,
А другая — з касцей жаночых,
Трэцяя сцяна з касцей аленя,
А чацвёртая — ад слёзак мокрая.
У куце бацька воўкам вые-завывае,
У падмосці маці рыкае мядзведзіцай,
Сястра маўчыць — цвік у сцяне тырчыць,
Брацец меншы — злыдзень першы...

Васелэйн Мары сціхае, цярэбіць на каленях, апусціўшы голаў, фартушок, потым налівае з самавара гарачага чаю. Руна скончылася, ды не скончылася жыццё спявачкі ў руне: быццам не заўважае нас, быццам нішто, акрамя песні ды жыцця, якое ў песні, для яе цяпер не існуе. Руна прыгадалася «жаласлівая, перажывацельная», як кажа Улы, і душа цёткі Мары, поўнасцю зліўшыся з мелодыяй, з журботнымі словамі, ніяк не можа адысці, супакоіцца.

— Руны для сэрца нялёгкія,—уздыхае Улы.— На вяселлях Мары часта прасілі спяваць. Спявае і плача. У нас так бывае: калі прыходзяць сваты і бацька згодны аддаць дачку, то запальвае пад абразом свечку. Калі нявеста не згодная, то падыходзіць і гасіць свечку, а згодная — не гасіць. Потым спяваюць. Бацьку, маці. Навошта выдалі лябёдушку за сокала, няўжо не шкада свае дачушкі?.. Да слёз.

Цяпер ужо нешта кажа Мары. Уважліва выслухаўшы яе, Улы пачынае перакладаць:

— Гаворыць, што ёй не спявалі, як выходзіла. Бацька з маці не хацелі выдаваць, дык яна паехала будаваць Мурманскую чыгунку і там знайшла свайго мілёнка.

Мары глядзіць на Улы, пасмейваецца.

— А я таксама не пыталася ні ў кога. Ён мяне хацеў знайсці, дык прыехаў на Юшквозера. Я пагадзілася.

Сказала і заспявала:

Дзяўчат не мяняюць на грошы,
Не гандлююць імі пры народзе,
Вавёрак прадаюць за грошы,
Лісамі гандлююць пры народзе.

Усё. Коратка і ясна.

— У мяне не дужа суладна. Не пявуха я, не...

Зноў, аднак, была зацягнула:

Як ён пакахаў мяне на возеры,
Вочы ў яго зрабіліся прыгожыя,
Глянуў на мяне арлiным позіркам,
Растапіў ільдзінку на душы апошнюю.

Адхіліўшыся ад стала, звонка засмяялася... І заціхла.

Магчыма, Улы не жадала цягацца ў спяванні з Мары, добраахвотна аддавала ёй першынства, прызнанае ўсімі ў Вольніцы. Вось пагаварыць пра жыццё, нешта прыгадаць — гэта яна можа. І цяпер пачала ўспамінаць — як у восем гадкоў пайшла «карміць сваю галовушку», як амаль усю мужчынскую палавіну сям'і Васелэйн Мары «выбіла вайна». Успаміны расхвалявалі да слёз, і яна, што малое дзіця, прыкусіла губу, замоўкла. Заўважыўшы гэта, Мары зноў заспявала, зноў яе руны паплылі нібыта з гары на гару, з возера на возера.

Спявала Мары пра Люлікі, лыжнага майстра, які паехаў на новых лыжах паляваць лася Хійсі, каб на яго шкуры паспаць з маладой дзяўчынаю; пра млын Сампо, выкаваны маладым Ілмарыненам на шчасце ўсяго карэльскага народа; пра дзяўчыну, што моліць бацьку і маці, сясцёр і братоў выкупіць яе ад нялюбага мужа; пра белую бярозку і белага лебедзя, сінія скалы і сіняе мора...

Тым часам Улы выйшла з-за стала, пачала корпацца ля печы, зачыняць пелькі (юшкі) на доўгіх драўляных дзержаках, потым чысціла хэлу (пліту пры печы), гусіным крылом шаргацела ў купе (выцяжным каўпаку над плітою), даставала з касіно (скрыні пры печы) бульбу на заўтрашні дзень... Было відаць, што нашы сённяшнія руны блізяцца да канца, вось-вось абарвуцца на апошнім радку. Яшчэ, праўда, Мары спявала, яшчэ Улы, завіхаючыся ля печы, перакладала мне руны, але ўжо ў тую хвіліну, як яна ўстала з лавы, з-за стала, песенны настрой

у хаце пачаў ападаць, і лямпачка пад столлю пачала свяціць толькі на палавіну свае сілы.

Я не памыліўся — хутка змоўкла і Мары. Апошнюю страфу Улы пераклала не адразу, падумаўшы і ўздыхнуўшы.

— Ведаеш, чым яна закончыла свой канцэрт? Канчаў гэтак Архіп Пертунен, славуты калевалец:

Песняр, нават самы лепшы,
Не пяе ўсіх сваіх песень,
Як і вадаспад бурлівы
Усёй вады не вылівае...

І гэтыя печаканыя словы далі мне адчуць: не адны руны скончыліся для мяне на гэтых восеньскіх карэльскіх дарогах, скончылася само падарожжа, надышоў час вяртання да родных песень, час вяртання ў сцены свайго ўласнага дома.

## ДЫК ЧАМУ Ў ЛЕБЕДЗЯ ТАКАЯ ДОЎГАЯ ШЫЯ?

Я — дома.

На счарнелыя за доўгую восень дрэвы, на спацелую аконную шыбу, на спіну старога ціхага голуба цярусіць дробны, нібыта праз сіта, снег. Першы снег, магчыма, ненадоўга, але надвор'е кіруецца, усё ж, на халады, на маразы.

Раніца.

З брамкі дзіцячага садзіка выходзіць гаманлівая чарада чырвананосай малечы. Надвечар, чакаючы бацькоў, гэтымі ж насамі малыя будуць адхукваць настылыя шыбкі ў вокнах, а цяпер цёпла апранутыя непаваротні плывуць-валюхаюцца, быццам качкі. З імі наглядчыца: стромянькая, у блакітным паліто, блакітнай шапачцы, белатварая, ажно зліваецца з блакітнавата-белай раніцай. І мне адразу ўспамінаецца, што ў сваім карэльскім сюжэце я неяк згубіў адзін дзень... Мой апошні паўночны дзень.

Надоечы я вярнуўся ў Петразаводск з Калевальскага раёна — ад берагоў Куйтыярві. Да адлёту самалётам у Мінск заставалася раніца, дзень да вечара, вечар і ноч — да наступнай раніцы. Заскочыў у заўсёды шматлюдны буфет гасцініцы, папіў чаю і выправіўся апошні раз пагуляць па горадзе.

За ноч лёгкі марозік падсушыў паветра і асфальт, на дрэвы, карнізы дамоў, правады тралейбусных ліній і помнікі легла лёгкая бухматая бель.

Ад круглай, з чырвонага каменю, плошчы я прайшоў над шумлівай Ласосенкай, перасек скверык ля краязнаўчага музея, пастаяў ля помніка Пятру Першаму — цар ўзвышаўся танканогі, нібы алень, ззелянелы ад часу і пабелены зазімкам. Зноў павярнуў на левы бераг рэчкі, абышоў драматычны тэатр з жыццярадасным канёнкаўскім ансамблем рабочых і работніц на высокім франтоне. Ля тралейбуснага прыпынку на жоўтай цаглянай сцяне вісела мемарыяльная дошка: тут калісьці стаяў дом першага губернатара краю паэта Гаўрыіла Раманавіча Дзяржавіна. Цяпер — і дом не той, навейшы, і шыльда нечаканая: «Выстаўка карэльскага жывапісу».

Маленькі выставачны пакой. Адзін з нешматлікіх.

Нізкія, блага асветленыя сцены.

Карціны...

Чалавек мадэліруе прыроду. У жывапісцаў пераважаюць шэра-зялёныя гамы. Такая Карэлія: шэра-зялёная... Гэтыя думкі належала б узяць у двукоссе — успомніўся Сяргей Мікалаевіч Горшын на сваім захімічаным астраўку ў Кіжах. Ці не адсюль, ці не з гэтага выставачнага пакоя вынес ён свае думкі? Тут сапраўды шэра-зялёныя, яшчэ белыя і сінія, але не чыстыя белыя і не чыстыя сінія, зноў жа ахутаныя шэранню, фарбы панавалі ў экспазіцыях. Фарбы Карэліі, яе прырода? Так. Але... Мне цікава было б ведаць, ці пабываў Сяргей Мікалаевіч у самай апошняй зале, вузенькай, падобнай на нейкі службовы калідор...

Драўляная вёска схілілася над ракою, прытулілася да самаї вады, хаты зусім як у ваду наровяць сысці, некаторым да вады застаўся адзін чалавечы крок... Усё гэта — звычайны для краю і яго жывапісцаў пейзаж. Затое зусім незвычайныя малюнкі і фарбы: белая рака, блакітныя хаткі з высокімі, ажно пад самыя стрэхі ўзнятымі, светлымі вокнамі, валуны аплецены ўжо зусім не шэрымі — агніста-чырвонымі, сакавіта-сінімі, выразна зялёнымі, бялюткімі, чорнымі лішайнікамі, і тут жа на высозных цыбалках выцягнуліся да сонца бялюткія парасоны невядомых мне кветак... А побач — «Ладвінскі пейзаж»: чорная начная рака, за ракою, на тым беразе, дамы і дрэвы, лазні адна пры адной, амаль паньгомскія, і амаль паньгомскія дымы над нізкімі лазнямі... Яшчэ далей: прыгажуня «Айно» ў ружовым і блакітным святле раніцы — бялявыя, нібыта аснежаныя, вейкі, празрыстая кветачка ў медальёне... «Айно і дзевы» — зімовы белы пейзаж... Нават рака смерці Туанела не шэрая, як звычайна малююць у гэтым краі рэкі, а чорная і чырвоная, нібыта скрываўленая, ляжыць перад вачамі вясёлага і мужнага героя «Калевалы» Лемінкяйнена — у кантрасце з белым лебедзем, надта даўгашыім, як лебедзі Бесава Носа, белым і ледзь-ледзь блакітным, як самы шчаслівы ўспамін... «Успамін аб Ладве» — таксама ніякай шэрасці, і разам з тым, што заўважаеш з асаблівым здзіўленнем, у гэтых чыстых фарбах няма зусім ніякай спрэчкі з прыродай Карэліі, яе фарбамі, колерамі. Спрэчка вядзецца іншая — з самой шэрасцю, яе поўнае адвяржэнне. І хай сабе чыстых колераў у мясцовай прыродзе не так багата, хай пад няласкавым небам Карэліі імжаць дажджы, плывуць нізкія шэрыя хмары, хай лютуюць вятры, плывуць туманы, але ж у краі, як у любым краі, існуюць і чыстыя колеры, іх трэба толькі ўбачыць, злавіць у мімалётнасці, запыніць у сваёй памяці, у вачах. Гэта разумее аўтар. Разумее і ловіць. Ловіць чыстыя колеры, а не пахмурную дажджлівую шэрань, злоўлены чысты прамень прапускае праз

прызму гратэску і такім чынам даносіць да нас, гледачоў, панараму казачна-паэтычную і рэальна-зямную адначасова...

Я выйшаў з выстаўкі.

У вачах плылі вясёлкавыя кругі, прашытыя зусім не асеннім — летнім сонцам...

Тралейбуса доўга не было. Я зайшоў у тэлефонную будку і пазваніў паэту Марату Тарасаву.

— Глядзеў работы Юфы? Прыязджай, пазнаёмлю...

Светлы твар, светлыя валасы, блакітныя вочы... Блакітнае паліто, блакітная шапачка, блакітны шалік... Быццам адна з тых гордых «блакітных дзеў», якія толькі паўгадзіны назад захаплялі на ладвінскіх пейзажах.

— Мае любімыя колеры блакітны і чырвоны...

Усміхнулася.

— Калі я скончыла Ленінградскае мастацкае вучылішча, мяне накіравалі настаўнічаць у Карэлію. Помню, прапанавалі шмат вёсак — едзь у любую. Для мяне ўсе вёскі былі аднолькавыя, не ведала ніводную. Я выбрала Ладву. Па назве выбрала. Ладва... У гэтым слове мне адразу адчулася нешта казачнае, сама паэзія. І чысты-чысты блакіт. Здалося, што і людзі ў такой вёсцы павінны быць незвычайныя — героі казак...

— А прыехалі?

— Не. Я не памылілася. Людзі там, праўда, жывуць вельмі зямныя, ніякія не героі з казак. Проста людзі. Душэўныя, працавітыя. А прырода... Рэчка праз усю вёску. Вада чысцюткая, быццам у ёй ніхто зроду і ног не памыў. А на камяністых берагах, пры самай вадзе, хаткі з высокімі вокнамі, лазні над вадою стаяць, дымы блакітныя з іх каменак плывуць па рацэ нізка-нізка. У школу на ўрокі ідзеш цераз мосцік, ля мосціка рабінка стаіць — чырвоныя гронкі. А як сонца заходзіць! Ружовыя праменні на блакітных стрэхах і дрэвах... Ладва мне адкрыла вобраз самой Карэліі. Так, мабыць, кропля чыстай расы адбівае цэлую раніцу, усё неба...

— Але ж не кожныя вочы бачаць у той кроплі...

— Мае вочы з маленства прывыклі да казак. Я расла пад цудоўныя бабчыны казкі. Любіла іх слухаць, а потым — і маляваць. Прыехала ў Ладву, і тут мае казкі неяк адразу зліліся з вёскаю, з яе жыццём, прыродаю. Героі казак зліліся з жывой чалавечай натурай. Сапраўды. Сама дзівілася. Асабліва гэтак атрымалася з жаночымі вобразамі. Я люблю натуру жаночую. Яна надзвычай пластычная, з вельмі тонкімі лініямі. Жаночыя вобразы глыбей раскрываюць карэльскі пейзаж, побыт, характар. А потым... Я вельмі палюбіла карэла-фінскі эпас, «Калевалу». Палюбіла на ўсё жыццё. Для мастака там, у народнай паэзіі, безліч сюжэтаў, кожны радок дае незвычайныя па каларыту вобразы. «Калевала» натхняе надоўга...

З ілюстрацый да «Калевалы» ў Тамары Юфы ёсць акварэльны аркуш — «Айно».

Выйшла ў беразняк зялёны
Айно, юная дзявіца,
Венікі вязаць з галінак...

Айно — дзіця прыроды. Яна, не задумваючыся, апускаецца на дно возера і ахвотна становіцца сястрыцаю сігам. Такая гераіня і ў Юфы. І гераіня, і прырода — усё ў блакітных танах. Блакіт аб'ядноўвае фактуру адным настроем, спрыяе стварэнню высокапаэтычнага вобраза Поўначы.

— У народным эпасе ўвесь жывапіс ідзе ад прыроды і вяртаецца ў прыроду. У гэтым мудрасць эпасу і народа, які стварыў яго. Я зразумела...

Яшчэ колькі гадоў назад вядомая, здаецца, толькі сваёй вёсцы Ладве школьная настаўніца неяк адразу, раптам, становіцца адным з найбольш каларытных і глыбокіх выразнікаў нацыянальнага духу ў выяўленчым мастацтве Карэліі. Адкуль такі ўзлёт творчай індывідуальнасці? Здаецца, ён сапраўды падрыхтаваны зліццём таленту з прыродаю, сваёй і зямной, духоўнай еднасцю

з народнай паэзіяй, пабудаванай на выключнай гармоніі прыроды і чалавека.

Думаючы пра гэта, зноў успамінаю Бесаў Нос, наскальных лебедзяў першабытнага мастака. Успамінаю размову з Нілавым на беразе Анежскага возера:

— Чаму ў гэтых лебедзяў такія доўгія шыі?

— Можа, гэтакія вадзіліся лебедзі?

— А потым перарадзіліся?

— Чаму б і не?..

Тады лепшага адказу на загадку мы не прыдумалі.

А цяпер я адказаў бы Нілаву:

«Не, Яўген. І тады лебедзі маглі быць такія, як сёння. Проста першабытны чалавек быў не дурань. У яго душы таксама жыло вялікае мастацтва. Прырода дала яму адчуванне прыгажосці і разуменне паэзіі гратэску. Паглядзі на лебедзя ў Юфы... Тысячы гадоў аддзяляюць тое мастацтва ад гэтага, але адчуванне прыроды супадае, і гэта ў іх — ад агульнага настаўніка: ад прыроды. Першабытны мастак даверыўся ёй, прыродзе, і яго мастацтва перажыло тысячагоддзі. І калі нехта з цяперашніх мастакоў прыродзе давяраецца гэтак жа смела...»

Ці не таму ў наскальнага лебедзя такая доўгая шыя?..

«У народным эпасе ўвесь жывапіс ідзе ад прыроды і вяртаецца ў прыроду. Гэта мудра...»

Сапраўды...

Гэтай мудрасці, не цяжка заўважыць, у Карэліі вучыць сама прырода...

Перад вачыма — яшчэ адзін яе ўрок: зноў на беразе Анежскага возера, адно з іншага яго боку, на паўднёва-заходнім беразе, дзе здабываецца вядомы ў свеце шокшынскі малінавы кварцыт.

Распрацоўкі кварцыту — унізе, у глыбокіх нетрах каменяломняў, а ўверсе, над каменяломнямі,— звычайны хваёвы лес, раскіданыя па лесе валуны, аплеценыя лішайнікамі. Зрэшты, і валуны тут незвычайныя. Яны высыпалі цэлымі табунамі, табунамі вялізных і малых істот:

быццам незлічоныя табуны першы раз бачаных, зусім невядомых нам жывёлін пасуцца па брусніках, чарніцах, ганабелі. Адзін з валуноў нагадвае шыракагрудага скакуна, які праваліўся нагамі ў зямлю, і я саджуся на яго, нібыта ў ёмкае сядло. Прыглядаюся да іншых істот у табуне...

Пад гарою гурчыць экскаватар. Паветра над кар'ерам і возерам гайдаецца, кружыць голаў, ужо камень пада мною нібыта ажывае. Здаецца, усе іншыя камяні вось-вось ажывуць, бо кожны з іх — зусім не камень, нейкая дагістарычная акамянелая жывёліна. Вось дзік насупраць. Нібы прылёг, паранены ці стомлены, апусціў на зямлю магутны лыч. Лыч, праўда, занадта доўгі, і мне спамінаецца лебедзь з надта доўгай шыяй... Не, гэтае «занадта» якраз і робіць акамянеласць — дзіком. Доўгі, магутны лыч... Я ўстаю са скакуна, саджуся верхам на дзіка і бачу перад сабою таўсматых авечак, вялізную галаву белавежскага зубра з нейкімі дзвюма куксамі замест рагоў, старую свінню з рабенькімі парасяткамі. Свіння дужа пузатая, быццам яшчэ раз апарасіцца сабралася. А далей — жахліва-пачварныя дзікаабразы стоўпіліся, нібыта ў якой рэзервацыі. Цяпер я заўважаю, што самы прыгожы ў гэтым незвычайным табуне — скакун, усё ж: рабы, аблеплены карычневымі, жаўтлявымі, чорнымі лішайнікамі. Зноў перасаджваюся на яго рахманую спіну, зажмурваю вочы, чакаючы з каменяломні мясцовага шафёра дзядзьку Паўла, і мною канчаткова авалодвае ілюзія руху: скакун як вызваліў з зямлі ногі, палягчэў і нясе мяне ўжо некуды ад гэтага табуна пачвар, ад каменяломні...

Але — што гэта?.. Дзядзька Павел сядзіць са мною побач на скакуне, нізкім хрыпатым голасам расказвае...

Гэта ён таксама ўскочыў на скакуна?

Дзядзька расказвае, як французскі імператар прасіў у рускага цара шокшынскі кварцыт на саркафаг Напалеону і цар спачатку абурыўся — «Як так!.. Напалеон Расію

ў крыві тапіў...» — а потым астыў цар і загадаў адпусціць трыццаць блокаў бясплатна: у дар французскаму народу.

Закончыўшы пра кварцыт, дзядзька Павел расказвае пра дарагія карэльскія аметысты, рускіяльскі мармур, чырвоныя, з чорнымі паясочкамі, граніты вострава Святы Герман, шэрыя сартавальскія граніты, што ў вобразах магутных атлантаў падперлі партал Эрмітажа, калонамі ўзвышаюцца на Ісакіеўскім саборы і Адміралцействе, пра граніт Рапаківі з берагоў Ладагі, якім выкладзены набярэжныя Нявы... Расказваў пра ўладу каменя над чалавечай душою і што ён больш за шокшынскі кварцыт любіць мармур з Белай Гары, што там працаваў раней і цяпер таксама кіне Шокшу, паедзе на Белую Гару.

А скакун усё нёс нас, нібыта мы абодва былі ў яго ўладзе, нібыта нёс на тую Белую Гару.

Душа дзядзькі Паўла, яго мара аб Белай Гары нагадалі мне руны Улы і Мары, паэтычныя малюнкі Бесавага Носа, даўгашыяга лебедзя, нарэшце — спектакль «Дзеці прыроды» па п'есе Майю Ласілы на сцэне карэла-фінскага тэатра ў Петразаводску, дзе героі Юна, Пірка, Еры, Улы, Феда, Саку, Хейлі — сплаўшчыкі і сплаўшчыцы горнага лесу — жывуць, як дзеці прыроды: спяць і кахаюць паміж скал на голым каменні, прыгрэтыя навіссю хвоі, ядуць ля вогнішча, п'юць з горнага вадаспаду.

Тут, у гомане магутных хвой і вадаспадаў, чалавек — нібы ў спавядальні. Сёння, як і на зары цывілізацыі. Тут людзі болей, як дзе на поўдні, жывуць ва ўладзе прыроды. Прырода валадарыць іх душамі, іх мастацтвам. Але такая ўлада не нясе рабства. Гэта ўлада робіць чалавека моцным і мудрым...

За акном, на балконе маёй кватэры ў Мінску, шызы голуб атрасае першы, яшчэ не зімовы, снег з пасохлых, але ўсё яшчэ жывых астраў.

Лёгкі марозік прыхапіў ранішнія шыбы, вывеў на іх

празрыстыя малюнкі. Вось графічна строгія скалы з зусім белымі вяршынямі, а паміж гэтых скал — сінеча, як сінеча вады. У гэтым нешта ёсць ад Паньгомы, нешта — ад Канчвозера. Вось бязлістыя бярозкі, а побач з імі і елачкі ў сваім адвечным адзенні. Бераг белы, пясчаны. Той гарбаты мядзведзь, што ляжаў над Куйты, таксама тут. А гэта?.. Ці не сцяна шокшынскіх каменяломняў?..

І грымоты — як быццам адтуль...

Не. Гэта ў маю мікра-Карэлію, у свет майго яшчэ аднаго трызнення ёю ўрываецца паўночны вецер — марана. Ракоча мора, ракочуць азёры, халодныя, жорсткія хвалі падымаюць сваю мужную песню на вышыню дзевятага вала і б'юцца аб берагі Паньгомы, Бесавага Носа, Кіжаў, Вольніцы, Петразаводска:

— Р-р-ра!..

І зноў:

— Р-р-ра!..

Канца-краю няма магутным уздыханням вады і каменя.

Пад гэтыя стогны мне бачыцца паньгомская скала і на ёй — стары Кутчыеў. Ён зашпільвае на грудзях кажух, і цяпер усе кажухі ў Паньгоме будуць зашпілены на ўсе гузікі...

Ідзе марана.

Але ж яна нешта не вельмі грозна спявае сваю паўночную песню. Можа, гэта адтуль, з Поўначы, лятуць руны Мары і Улы? Можа, марана нясе на сваіх крылах паўночныя руны?..

Руны мараны...

У гэтых словах і гуках мне яшчэ доўга будуць чуцца песні ўсіх чатырох стыхій прыроды, памножаных на стыхію дабраты і мужнасці чалавечага сэрца.

*Восень — зіма*
*1970—1971*

Вечарэе.

За шырозным, на ўсю сцяну, акном — шурпаты бэзавы снег і бэзавае шурпатае неба. А далей за тым жа акном, уздоўж бетонкі, таксама бэзавай і шурпатай, цямнеюць драўляныя хаты, ды і не хаты — адно трохкутнікі франтонаў узвышаюцца над нечакана падмытымі адлігай сумётамі.

У малым рэстаранным зальчыку аэрапорта бязлюдная ціша. Ля стала, засланага белым накрухмаленым настольнікам, яшчэ ад навагодняга свята стаіць невялічкая ёлка, абсыпаная ватаю, нібы снегам. На ёй нястомна перамігваюцца чырвоныя, зялёныя, жоўтыя, сінія лямпачкі, і такія ж чырвоныя, зялёныя, жоўтыя, сінія, амаль навагоднія, агеньчыкі скачуць у фужэры з халодным празрыстым рыслінгам.

Спявае скрыпка. Задумліва і сумнавата, нібы вяртае жывыя душы ў нядаўні дзень, калі на зямлю павольна, неяк боязна клаўся мяккі пушысты снег, на санным прасёлку візгліва енчылі палазы, квола ззяла пухнатае аснежанае сонца, былі жаданымі музыка, ёлка, свята...

— А я, Нінка, ужо не вярнуся ў вёску. Рада, што з таго бруду вырвалася. Душою адтаяла.

— Хто гэта?.. Дзе?.. Га-а! То—за сценкаю, адкуль у белых капоціках і фартухах афіцыянткі выносяць на падносах графінчыкі, бутэлькі, шніцэлі...

— А тут хіба не вёска? — другі голас, таксама дзявочы, за той жа самай сценкаю.— Гомель ад ерадрома — цэлая гадзіна язды. Шмат пабываеш у тым горадзе?

— Ну... усё ж! Тут не горад, поле, але ж горад пад бокам...

Размова, вядома, не пад скрыпку, гэтакая размова няшчадна змывае настрой ад музыкі, свята, бэзавых пейзажаў за акном і каляровых агеньчыкаў на ёлцы, але цікава далучыцца і да дзявочага клопату, зразумець даверлівую размову за тонкай дашчанай сценкаю — на кухні.

— Мне, прызнацца, і тут не свеціць. Ты, Нінка, нядаўна прыйшла, табе тут яшчэ не абрыдзела. А мне... Вось Верку ўладкую на сцюардэсу і хвастом распішуся ў іхнім ерафлоце. Можа, як у Гомель перабяруся. А не, дык у Бранску адрасок ё...

— Ты пра якую Верку? Пра сястру?.. Колькі ёй?

— Семнаццаць будзе.

— Не афоpмяць. Зялёная.

— На сцюардэс маладзенькіх афармляюць. Перспектыўных. Абы смазлівыя. А Верка вочы як наставіць ды грыву да галавы як прычэпіць — аслепнеш.

— Я сама... сцюардэсаю б! — уздыхнула.

— За маім сталом начальства абедае. І ў кадрах каторы. Я да іх падкачуся. Я коткая,— рагатнула.— Толькі нікому не трапіся.

— Ну, што ты!

— Такія планы, Нінка. Абы Верку на сцюардэсу пусціць. Хай палётае. Свету пабачыць.

У рэстаран зайшлі маладыя лётчыкі — іх сёння таксама нямала нудзілася ў аэрапорце ў чаканні чысцейшага неба і вылету. Селі за стол.

Дзявочая размова за сценкаю аціхла, адтуль выйшла афіцыянтка ў чорнай сукенцы і белым фартуху, з вясёлымі вочкамі.

Зноў весялей замігцелі каляровыя агеньчыкі на ёлцы, гучней спявала скрыпка, зноў зіма за акном хуталася ў бэзавую адлігу, было адчуванне, быццам ні за якім сталом ты не сядзіш, няма пад табою крэсла, няма над табою белай столі, усе людскія размовы ад цябе адчапіліся, выпусцілі цябе, як птушку з сіла на волю, а ты паціху плывеш у прасторы — хай сабе бэзавым,— ляціш туды, куды душа хоча, і ўжо амаль рэальна адчуваеш, што Неглюбка не за гарамі, што яна блізка, зусім побач, і ты вось-вось апынешся на яе вуліцах, у нейкай яе хаце пад аснежанымі бярозамі, сярод яе людзей.

Такі быў настрой.

А потым... замоўкла скрыпка, пачулася дзявочае сакатанне з маладымі лётчыкамі — і прыйшла цвярозая думка, што трэба хутчэй здаць у касу білет на АН-2, які, відаць, надоўга заснуў у бэзавым тумане аэрапорта, даехаць аўтобусам да Веткі, а там і вёска — рукою падаць.

Уздоўж вуліцы старыя вербы прытрэлі на сваіх вершалінах бусліныя гнёзды. Зводдаль глядзіш: нібы каржакаватыя казакі стаяць у шарэнзе пад калматымі, як з аўчыны, шапкамі. Буслянкі на Гомельшчыне — не дзіва, ніякая не навіна. Але каб столькі ў адной вёсцы!

Стаіць вёска — шчыра скажам — не на багатай зямлі. Самі па сабе, як прызнаюцца неглюбцы, тут добра родзяць сівец ды сурэпка. Сямю патамі зямліцу пальеш — тады чакай коласа наліўнога. Але наўрад ці знойдзеш больш трывалае людское паселішча, як пад гэтымі буслінымі гнёздамі. Густавата і хат, і людзей. У суседніх гаспадарках рук не хапае ў полі ды на фермах, а тут клопат — як усім даць работу, асабліва ўзімку. Мабыць, недарма кажуць, што бусел гняздо ладзіць і сабе, і чалавеку.

Аднак жыве ў вёсцы паданне, што першымі гэтую зямлю знайшлі не буслы, а дняпроўскія казакі. Нібы заехаў сюды на гарачым кані малады казак Неглюбка, спешыўся, агледзеў месца, упадабаў яго, атабарыўся, і з таго часу пачалі тут множыцца казацкія сем'і. Не спужаліся, што зямля кволая, не мае добрага клёку. Хоць на працу, хоць на гулянку пасяленцы былі дужа спрытныя.

Вось і Матрона Апанасаўна кажа, хітравата падміргваючы разумным вокам:

— Пуста бывала ў жываце. А каб хто з маладых не пайшоў на гулянку, такога нешта не помню.

Яна сядзіць на куфры, склаўшы не па-жаночы ладныя мазолістыя рукі, а вочы глядзяць з той глыбіні, дзе прытаілася пражытая маладосць.

— Бывала, дзеўкамі скінемся,ноймем хату на ўсю зіму, і калі ўжо хазяін прадаўся — зімуе моўчкі, нам,

маладым, не ўказвае. Маўчыць і церпіць, а ўжо мы па вечарах правім свой парадак. Першымі, бывала, збіраюцца дзяўчаты. З кудзеляю, прасніцамі. Прадзём кудзелю, песні спяваем. Раптам чуем: гармонік зайграў, хлопцы ідуць. Ы-ых! Прасніцы ўбок, лаўкі ўбок — пайшла хадуном хата. Да раніцы гуляем, потым прынясём у хату саломы, спаць табуном пакладзёмся. А на масленку спаць пачыналі па свірнах, свіронках. Увесь пост гэтак. Да вялікадня. Свята дачакаемся — там і вяселлі загулі...

Заспявала:

Стукнула, грукнула на дварэ.
— Ой, паглядзі, маманька,
Ці не па мяне?
Та-ра-ра калёсачкі, та-ра-ра,
Ой, павезлі Волечку
Са двара.

Матрона Апанасаўна Кароткая, ці проста Моцечка, як яе звалі ў маладосці, завуць і цяпер, старыя і малыя, дастае з прыгожага старога куфра саматканыя ручнікі, посцілкі, абрусы на ўсе колеры, якія толькі ёсць у прыродзе,— усё сваё тканнё, за якое яе, Моцечку, Неглюбка прызнала аднойчы першай «мадзісткай».

— А ў нас мадзістак хапае,— не хоча выхваляцца Матрона Апанасаўна.— Гляньце, што панаткалі Насцюха, Просечка, Белка, Курноска...

— Дурасці было многа,— устаўляе свае думкі дачка Марыя.— У гэтае ткацтва баба як учэпіцца, дык усю зіму не разгінаецца. Анігадачкі.

— І праўда,— нібыта пагаджаецца матка.— Шмат дурнога было. У адной хаце па два станкі стаяла. Пасядзіш за адным, пасля пасядзіш за другім. Адно тчэш і тут жа другое.

Не, мала, што кажа, а думкі ў яе не было і няма, што ўсё гэта — дурное. Гэтак кажа, а ў самой вочы не могуць адарвацца ад раскінутай на ложку посцілкі, якая ткалася шмат гадоў назад і ўсё яшчэ як новая, ад маляўнічай вясёлкі на ручніках, вытканых і вышываных васількоў

і рамонкаў, мальваў і анютак, арнаментаў неглюбскіх і суседскіх — блізкіх ад Неглюбкі вёсак Браншчыны,— што змяшаліся ў адным вясёлым карагодзе.

— А вось панёва. Вось пояс-падпаяска. Паўтара фунта пояс важыў. А як два — дужа багаты. Яшчэ надзявалі хвартух галубовы, рубашачку-вышыванячку, карсет, бісерам расшыты. Аснова ці чорпая, ці чырвоная, ці зеляпцовая.

Матрона Апанасаўна накідвае на голаў бялюткую, вышываную дробнымі кветачкамі хустку, завязвае яе хітра, як могуць завязваць адно ў Неглюбцы: вакол галавы хустка абматваецца колькі разоў, падбіваецца з бакоў, а на лбе робіцца прыгожы вузел, з якога канцы хусткі стаяць тарчма, нібы рогі. Смяецца:

— У куфры маім яшчэ не адна панёва ляжыць. І карона са строчкамі. Маладымі дзеўкамі адзявалі...

Платы, ганкі, двары надта рана адтаялі, запахлі вясною. Мы ходзім з Петрусём Суглобам ад хаты да хаты: дзе ткалі раней ці ткуць цяпер, дзе насілі ці носяць панёвы і строчкі, спявалі і спяваюць свае неглюбскія песні. З Петрусём вёска прыветлівая, шчырая, як ён сам, яе жыхар, саўгасны камсамольскі важак. Увага да яго сваім цёплым крылом саграває і мяне: кожны вясковец сустракае нас па-свойску, кожная хата гасцінна адчыняе дзверы насустрач.

— Вунь блакітныя аканіцы. Там Белка жыве...

Вялізны калматы сабака дабрачымі вачамі праводзіць нас у хату. Заходзім. У хаце — ні гаспадара, ні гаспадыні. Сядаем ля круглага стала, моўчкі аглядаем хату, ад падлогі да столі нібыта сатканую з лугавых, лясных, садовых кветак, памытых цёплым летнім дожджыкам і запаленых сонцам, таксама летнім,— гэта нас акружаюць вытканыя, вышываныя, размаляваныя ўсімі колерамі дываны і посцілкі, абрусы і сурвэткі, габелены і парцьеры, фіранкі і ручнікі. На стале, на прыгожым абрусе, зіхаціць гармонік, багата аздоблены перламутравымі карункамі.

Пятрусь бярэ яго ў рукі, і твар адразу прыгожа святлее, усміхаецца. Вось ён ставіць гармонік на калені, закідвае за плечы рамяні і, спрытна прабегшыся танклявымі пальцамі па перламутравых гузічках, кажа, не адрываючы вачэй ад гармоніка:

— Белчын муж гэтую музыку робіць. Фірма Ягора Іванавіча Кавалёва вядомая.

На ўсе мяхі расцягвае Пятрусь гармонік, на ўвесь россып чырвоных макаў, якія раней, калі гармонік стаяў на стале, я не бачыў, не мог убачыць, бо яны ў мяхах былі схаваліся нібы для светлай нечаканасці, здзіўлення, сюрпрызу,— і ўжо як з тых чырвоных макаў, у чыстых звонкіх пераборах на хату выплывае «Нарэчанька». Пеця вядзе яе доўга, старанна, натхнёна, глядзіць на хату, нібы тут, у хаце з блакітнымі аканіцамі, пад гармонік Ягора Іванавіча танцуе родная Неглюбка і ён, яе музыка, проста не можа, сілы не мае, спыніць гэты танец, агністы, нібы чырвоныя мяхі гармоніка, нібы яго, Пецева, маладая душа. Адно прыцішвае гармонік, каб заўважыць:

— Наша. Яшчэ б сюды барабан!

І зноў іграе, ды гэтак распальваецца, ажно цяжка ўлавіць, дзе канчаецца «Нарэчанька» і пачынаецца «Сямёнаўна», а за «Сямёнаўнай» — «Падыспань», «Месяц», «Самалёты»: калісьці і мне любыя, свае, а цяпер амаль забытыя ўжо матывы. На шчасце — не зусім забытыя. Бо такое, мабыць, не пад сілу назусім выкрасліць з душы, з памяці. Як вось гэта...

— «Карапэт»! — нібы падслухаўшы мае думкі, кажа Пеця.

Мы не чуем, як хлябаюць хатнія дзверы, як у пакой заходзіць сам гаспадар, як ён, плячом абапёршыся аб лутку, уважліва глядзіць на няпрошаных гасцей у сваёй хаце, на свой гармонік, нібы першы раз яго бачыць,— стаіўся і слухае «Карапэта» і ўсё астатняе, што вытанцоўваюць на гузічках Пецевы спрытныя пальцы. Нарэшце я заўважаю гаспадара, але маўчу, не хочацца словамі пера-

біваць даўно не чутую музыку, якую з іншых вёсак даўно выжылі розныя «фокі», «рокі», «енькі», «лады», і адно тут, у Неглюбцы, яе яшчэ любілі, шанавалі.

Пеця сам пачуў, што побач гаспадар,— звёў мяхі, паставіў гармонік на стол, павярнуўся да Ягора Іванавіча:

— Душу адвёў.

Гаспадар каржакаваты, круглатвары, здароўкаецца за руку.

— Мне ў вёсцы сказалі, што вы глядзіце па хатах наша мастацтва. Вось я і бег дадому. Няўжо, думаю, да гаспадыні маёй не завернуць?

— Завярнулі.

— А яна ў школе. Там на кухні робіць.— Ён глядзіць у акно.— Хутка вернецца. Гэта ж вось... што ў хаце натканa ды навышывана, усё яе рукамі рабілася.

І зноў размова заходзіць пра неглюбскіх майстрыц, далей і далей бяжыць гэты зіхаткі шнурочак, пачаты ў Моцеччынай хаце.

Узяў бы Ягор Іванавіч дый расказаў пра сваё мастацтва, пра свае гармонікі, як ён падбірае ды адточвае непаўторныя галасы. Дык жа не. Усё — пра мастацтва гаспадыні, якая, між іншым, і цяпер сабрала кросны раней, як хто іншы ў вёсцы, пачала ткаць («Што тчэ — не скажа. А сатчэ — панясе па ўсёй вёсцы»), ужо набрала аснову («З работы заявіцца, тады вам адкрые свае планы. У яе гэтакая карта з планамі, што ў маршала»). Зрэдку, праўда, размова збіваецца на гармонікі, бо іначай быць не можа: жончына мастацтва ўжо шмат гадоў жыве побач з мастацтвам гаспадара («Як увесну бралі яе работы ў Мінск на выстаўку, дык і мой гармонік прыхапілі...»), і не дзе-небудзь, а тут, у гэтым вытканым кветніку, падганяюцца на любімы лад, карпатліва адточваюцца галасы гармонікаў — аднаго, другога, трэцяга.

Не дачакаўшыся гаспадыні, мы пайшлі па вуліцы далей, а пазней, як сцямнела, зноў пераступілі парог хаты

Кавалёвых. Гаспадыня ўжо сядзела ля печы за кроснамі, а гаспадар ля акна клеіў мяхі новага гармоніка. Парыпвалі панажы, навой няўлоўна для вока адматваў чорныя ніці асновы, пастуквалі набілкі, прыціскаючы ўток, падскоквалі ніці і чаўнок, нібы караблік, плаваў злева направа і справа налева, ганяючы на сабе шпулькі з сінімі, што васількі ў жыце, ніцямі. Можа, васількі па жыце і ткаліся?

Ужо ведаючы, што мы за госці і што нам трэба, Ефрасіння Якаўлеўна, або, чамусьці, Белка, як яе завуць у вёсцы, накрывае сваё тканне ручніком, устае з-за кроснаў і пачынае выгружаць з шафы ўсё рукадзелле:

— Гэтая посцілка ткалася ў чатыры ніты, а гэтая, багацейшая, у восем. Абрус у шашачкі — дванаццаць нітоў. А тут я рэкорд паставіла — дваццаць пяць. Бачыце, колькі розных адліўчыкаў-пераліўчыкаў? Сядзела ды выдумляла.

Збоку стаіць Ягор Іванавіч, пазірае на жонку і не можа ўтрымацца ад радасці за яе ўмельства:

— Яна ж у Маскве на выстаўцы ўсе залатыя медалі пабрала. І дыпломы.

— Ат!.. Маўчы,— сціпла адмахваецца жонка.— Ці я адна? І Моцечка, і Ганна Суглоб, і Маруся Хацянок маюць залатыя медалі. Ім таксама ёсць што паказаць.

— Але ж твае ручнікі павезлі нават далей?

Ефрасіння Якаўлеўна не любіць выхваляцца, выстаўляць сябе наперадзе іншых і, ужо нічога не кажучы мужу, яна збірае назад у шафу посцілкі, ручнікі, абрусы, габелены, хавае іх не столькі ад вачэй, колькі ад непатрэбнай ёй пахвальбы. Паціху разважае:

— Што далей за Маскву? Далей няма куды.

А муж і тут не маўчыць.

— Дурная баба. Ці ты газет не чытаеш? У Японію паехалі твае ручнікі. На ўсясвітную выстаўку!

Зноў пастукваюць набілкі — Ефрасіння Якаўлеўна зноў сядзіць за кроснамі, тчэ.

Гаспадар уносіць у хату бярэма сухіх дроў, скідае іх з рук ля грубкі, дастае з-за коміна смаловую палку, садзіцца на слончык і нажом на каленях скіпае смаляк. Потым запальвае ў грубцы, зачыняе дзверцы і лагодна глядзіць на Пецю, які ўжо стаіць ля парога з шапкаю на галаве, трымае ў руках рукавіцы. Ягор Іванавіч просіць Пецю яшчэ раз рэзнуць «Нарэчаньку», як бы на развітанне, але Пеця яму адно ўсміхаецца, таксама лагодна, шапку з галавы не здымае. На двары даўно сцямнела, а нам яшчэ трэба наведацца да Марыі Прыходзькі, да Ганны Суглоб, да Марусі Хацянок, і мы развітваемся, адкладаючы «Нарэчаньку» да наступнай сустрэчы.

Дзіўна, што «Фантамас» адшукаў нават Неглюбку. Праўдамі ці няпраўдамі, але на цэлыя два дні ён завалодаў шырокім экранам саўгаснага клуба, і праз вокны, сцены, дзверы гасцініцы да мяне раз-пораз дакатваюцца хвалі рогату. Я не магу заснуць. Ляжу ў ложку і чакаю, калі апошняя хваля выкіне на мой бераг, у гасцінічны пакойчык, Грышу Андрыяновіча, маладога супрацоўніка веткаўскай раённай газеты, які следам за мною прыехаў у саўгас «Дружба» і цяпер у клубе, у тым рогаце, разменьвае вольны вячэрні час.

З ложка ў акно відаць асветленае поўняю неба і па ім — шнуры-разоры падсіненых воблакаў. Яны плывуць густа, сіняга акіяна паміж імі зусім мала, амаль не відаць, і ўсё там, над зямлёю, плыве, акрамя рэдкіх зорак ды поўні — нябеснага патруля і рэгуліроўшчыка.

За глухой, з таўстога бярвення сцяною бясконца гудуць правады. Хто з нас, вяскоўцаў і падарожнікаў, не чуў іх песень на скаваных маразамі зімовых дарогах? Але каб гэтак моцна, надта трывожна — упершыню чую. Нібы не адна, а дзесяткі дарог зматалі свае правады з тэлеграфных слупоў і ўклалі мне пад падушку. Не, гэта не выдумка. Пад адным дахам з гасцявым пакоем, за сця-

ною, размясцілася саўгасная АТС, і гэта там, сабраныя ў апаратах, правады гудуць суладным трывожным хорам. Можа, нават не ад холаду, не ад марозу, можа, гудуць яны ад бясконцых людскіх размоў па начных тэлефонах, размоў вясёлых і сумных, пустых і патрэбных, слёзных і смешных. І мне ўжо не памяць нашэптвае, а начныя правады, напятыя над белай зямлёю ці згорнутыя пад падушкаю: «Наткала за сваё жыццё горы ўсяго. Калі б маё тканнё сабраць разам ды разаслаць дзе-небудзь за вёскай на лузе — расцвіла б зямля, як увесну, не было б вясне канца-краю. Ад ільну, ніцей, ткання ды вышывання ўжо кепска бачу. Сядзіш, бывала, ля акна, тчэш, а сонейка на ніці кладзецца, бліпчыць, і ад ніцей — у вочы. Тчэш кветкі і сама ад іх прыгажосці слепнеш...»

Рыпяць дзверы.

Марыя Прыходзька?..

Не... на парозе — Грыша. Стаіць — нібы здань: высокі, танклявы, у калматай заечай шапцы, а за спіною — квадрат начных снягоў. Стаіць і рагоча:

— У-ух!.. Мароз! Калі б яшчэ і снегу падсыпала...

Ранішні вецер сушыць паветра, вуліцу, вокны, твары. А ў напаленай хаце ўтульна і цёпла. Сонечнае святло яснага зімовага дня зіхаткой лускою рассыпалася па пакоі, вострыць грані слясарнага і сталярнага інструменту, шліфуе яго плоскасці — разцы, пілкі, пласкагубцы, малаткі, ціскі, надфелі, рубанкі, паяльнікі, розны іншы інструмент поўнасцю, нідзе не пакінуўшы свабоднай мясціны, ні на сценах, ні на падаконніках, захапіў хату самага вядомага ў Неглюбцы гармонікавага майстра Пятра Рыгоравіча Прыходзькі. Сёння ён ад раніцы сядзіць ля акна, абклаўшыся інструментам, зачышчае надфелем галасавыя планкі, раз-поразу прыстаўляючы то адну, то другую да вуснаў — дзьме ў іх, прыслухоўваючыся да мелодыі. Сонечнае святло праз акно слепіць майстра, а ён

адно жмурыцца, нібы кот, робіць сваю хітрую справу ды ўспамінае даўно перажытае:

— Ажно мароз па скуры...

Скаланаецца: нялёгка вяртацца ў тое мінулае.

— Ну, а потым, Рыгоравіч?

— А потым правялі мы разведку боем. Гэта было дзевятнаццатага мая. Назаўтра, дваццатага, ледзь пачало світаць, пачалі артпадрыхтоўку. У сем гадзін атакавалі і захапілі чыгуначную станцыю пад Кішынёвам. За станцыяй — зноў атака. Занялі вышыню 1031. Замацавацца не паспелі, як немец пачаў нас адтуль выбіваць. Кінуў самалёты, артылерыю. Нашу батарэю раскалашмаціў ушчэнт. Ад усёй батарэі засталіся жывыя Шарганаў, Ермалаеў ды я. Мы ўсю вайну побач прайшлі. Бывала, паміж баямі сядзіш у акопчыку пры гармаце, і здаецца, што недзе блізка-блізка гармонік зайграў...

Рыгоравіч замаўкае, адрывае вочы ад інструменту, рукі супакойваюцца на каленях, і доўга, задумліва, нібы праз сон, ён глядзіць у акно на снягі, шукае там, на чыстых снягах, за што б зачапіцца вокам.

— Трэба сустрэцца,— ціха разважае ён.— З Алёшам Шарганавым, Сярожкам Ермалаевым. Гармонік на калені паставіць. Ды свой. І... эх, урэзаць!

З думкаю пра пякельныя дні на Яска-Кішынёўскім плацдарме, пра баявых сяброў-батарэйцаў Рыгоравіч бярэ ў рукі перламутравую пласцінку з выразанымі на ёй карункамі, наждаком даводзіць да бляску, прымацоўвае да новага гармоніка, на якім ужо ззяе самае дарагое яму, салдату найцяжэйшай вайны, слова: «Перамога». Гэтае слова на ўсіх яго гармоніках.

— Мая марка,— прызнаецца майстар.— А сэнс які? Па галасістасці няма ёй роўных. За вайну палову Еўропы прайшоў, розныя гармонікі, баяны, акардэоны перабачыў. А роўных маім не знайшоў. Ну... яшчэ і другі тут сэнс. На ўспамін пра перамогу над фашысцюгамі даў назву. Хай вечна іграюць мае гармонікі пераможную...

Дзіўны лёс. Кідаў ён чалавека з краіны ў краіну, ганяў па шмат якіх дарогах, і не пад мірным небам, не пад цёплым сонцам, ганяў пад свінцовым дажджом, з агню ў агонь, ад аднаго смяротнага бар'ера да другога, гэтак — амаль пяць гадоў, а ён, чалавек, ухітрыўся не толькі галаву зберагчы, але і прагу да музыкі. Ніякі агонь не выпаліў з душы гэтае прагі.

Мне прыгадалася мастацтва і лёс старэнькай Анастасіі Захараўны Ракутавай з Гадзілавіч, недалёкай ад Неглюбкі вёскі.

— Ткуць і ў нас,— казала яна мне.— Прыязджайце.

Я прыехаў.

Сапраўды, ткацтва гадзілавіцкіх жанчын таксама прыгожае — хоць на выстаўку. Аднак лёс Анастасіі Захараўны ўразіў яшчэ мацней.

— Ткала я ўсё жыццё, з маладосці,— расказвала яна мне.— Наткала поўныя куфры. А тут вайна. Душа мая да вайны не прыстасаваная. Заўсёды ткала кветкі, травы, сонечныя расінкі... Ну, сабрала сынка ў партызаны. І муж на фронце. Адна засталася. Немцы як дазналіся, што сынок у партызанах, пачалі мяне цягаць па камендатурах, управах. Павезлі з Гадзілавіч у Рагачоў. Там дзесяць дзён білі, каб я сынка выдала. Ірады. Яшчэ і цяпер спіна чорная. На ўсё жыццё памяць. Потым у Бабруйску апынулася. Там плёткамі лашчылі. Адтуль — пагналі ў Нямеччыну. Парабкавала ў баўэра. Аднойчы баўэр прывёз машыну нарабаванага дабра. Глянула — а ў тым дабры мая, дзетачка, посцілка. Яй-богу, мая! Хіба ж я свайго ткання не пазнаю? Ці каб маімі ўзорамі яшчэ хто ткаў?.. Быць не можа!..

Дадому Анастасія Захараўна вярнулася разам з савецкімі войскамі, разам з Перамогаю. Хаты сваёй не знайшла — адны чорныя галавешкі ды чорны комін у неба тырчэў. Суседзі сышліся, кожны да сябе ў хату кліча, а яна па тых чорных галавешках залезла на роднеенькую схаладалую печку і прасядзела на ёй да раніцы. Нагава-

рылася праз слёзы з мужам, з сынам, пахавала аднаго і другога — сын загінуў у партызанскім лесе,— аплакала хату, разрабаваныя ручнікі і посцілкі, успомніла ўсё, што давялося перажыць за вайну. А мо і не ўсё? Ці ўсё прыгадаеш за адну ноч?

Настаў час сеяць. Ускапала абгарэлай рыдлёўкаю лапік зямлі і першую градку лянком засеяла. Каб было з чаго саткаць першы пасляваенны ручнік.

Вось якая гэта сіла і звада — мастацтва, калі душа яму адданая. Адна, нібы дзічка ў полі, засталася Анастасія Захараўна на сваім папялішчы, усё забрала ў яе вайна, усё спаліла, а яна, пакутніца, і на папялішчы думала пра кветкі на ручніках, нібы тыя кветкі адно і маглі сагрэць збалелую адзінокую душу, залячыць крывавыя раны, накарміць і напаіць галоднага чалавека.

Як і ў Прыходзькі...

— Можа б, за вайну і забыў я пра свае гармонікі, калі б з маленства іхнія песні ў кроў не пусціў. Гэта ў мяне яшчэ ад бацькі.

А бацька памёр рана. Умельству рабіць гармонікі давялося вучыцца ад іншых майстроў.

— Жыў у нашай вёсцы Акіндзін Мельнікаў,— прыгадвае Пётр Рыгоравіч.— Бывала, прыбягу да яго, а ён адразу, ледзь я на парог ступлю, інструмент у мяшок, кажух на плечы — і з хаты. Дужа баяўся свае сакрэты выдаць. А ў каго мне яшчэ было вучыцца?..

Бедна жыла сям'я. Гадаваліся ў гаспадарцы дзве авечкі. З імі матка звязвала шмат надзей на хоць адносна сытую зіму. А сын як прыстаў: аддай ды аддай авечак, са слязьмі прасіў. І не вытрымала матчына сэрца. Прывёў Пётр на двор суседа, з ім разам зарэзаў авечак, садраў з іх шкуру, мяса паклаў у мех — і ў Гомель, на базар. Прадаў. На тыя грошы паехаў у Тулу да вядомых гармонікавых майстроў. Зіму каля іх вучыўся, а вясною вярнуўся дадому — прывёз галасавыя планкі, наклёп, інструменты.

Пра гармонікі Пётр Рыгоравіч можа расказваць бясконца. Як падбірае дрэва («Люблю алешыну. І голас мяккі, і рук майстра слухаецца. Апрацуеш — нібы лялька»), як даводзіць паклёп («Тут не трэба спяшацца...»), памяне ўсе гармонікі, якія перабачыў за вайну пад Кішынёвам і Прагай, у Венгрыі і Аўстрыі, Польшчы і Германіі («Можа, і там — не ламачча, але ж няма той душы, што ў нашых...»), пра ўменне сваё ўставіць душу ў гармонік расказвае не як пра звычайнае рамяство, якое корміць і поіць (хоць корміць і поіць, вядома, таксама), а як пра мастацтва — з любоўю. Слухаеш яго і думаеш: не, гэты майстра не падобны на Акіндзіна Мельнікава, былога Прыходзькавага суседа, які ўцякаў з хаты, калі хлопчык прыходзіў да яго павучыцца рабіць гармонікі. Для Пятра Рыгоравіча мастацтва і майстэрства ніколі не былі адно сродкам, каб здабыць кавалак хлеба, хоць сям'я — сем сыноў — патрабавала шмат і хлеба, і адзежы, і кніжак. У кожны свой гармонік майстра ўкладваў часцінку ўласнай душы, якая ніколі не хавалася ад людзей; яму заўсёды хацелася, каб музы́ка, беручы ў рукі гармонік, не памінаў ліхам таго, хто яго зрабіў, каб душа майстра ніколі не памірала ў гармоніку, заўсёды жыла ў ім, спявала, радавала людзей.

Акіндзін Мельнікаў не вучыў быць шчодрым, шчодрасць жыла ў Прыходзьку ад прыроды. Гэта лёгка можна сказаць, але не проста зразумець. Па-сапраўднаму я зразумеў гэта пазней, калі адкрыў для сябе яшчэ адно захапленне Пятра Рыгоравіча.

Спачатку мне ў рукі трапіў фотаздымак. На ім — бацька з сынамі: Мішам, Пецем, Грышам, Ванем, Віцем, Васем, Валеркам. Восем мужчын, з іх малодшаму, Валерку,— сем гадкоў, а старэйшы Міша нядаўна скончыў дзесяць класаў. Перавага малодшага — месца на каленях у бацькі, старэйшага — чаравікі на нагах. Бацька з сынамі сядзяць вакол макета трыццаціпавярховага будынка, увянчанага шпілем і чырвонай зоркаю.

— Яшчэ адно захапленне,— усміхаўся Пётр Рыгоравіч. І са смуткам дадаваў: — Калі б мне, як маім сынам, была магчымасць вучыцца...

Яго адукацыя сапраўды не па нашым разумным часе — усяго чатыры класы. Можа чытаць, пісаць.

Што ж, не кожнаму выпадала скончыць універсітэт, з дзесяці гадоў працуючы ў гаспадарцы, стаўшы карміль-цам меншых братоў і сясцёр.

Перада мною вырастаюць макеты дамоў, вышынёю на дзесяткі паверхаў, вежы, вельмі падобныя на Астанкінскую тэлевізійную, касмічныя станцыі. Усе яны з аднаго матэрыялу — драўляных брусоў, якія можна замяніць стальнымі, жалезабетоннымі, пластмасавымі. Мацуюцца арыгінальнымі вузламі, дзе не трэба ні цвікоў, ні зваркі, ні шыпоў. Кладуцца лёгка і проста — адзін на адзін, але настолькі мудра, хітра, што складзены каркас нічым не разбурыш. І гэта не дзіцячыя цацкі. Прыходзька праектуе гэтак нарошчваць паверхі самых высокіх гмахаў, фарміраваць будаўнічыя аб'екты будучага, нават касмічныя, і ў той жа час — самыя малыя. Разлічыў, напрыклад, што сучасны саўгасны кароўнік з такіх брусоў можна сабраць за колькі дзён.

— Мой замок мацнейшы за любы зварачны шоў. Вось чытайце, што піша навуковы супрацоўнік інстытута...

Пра яго вынаходства ведаюць у Маскве, Мінску. Адны вучоныя і будаўнікі горача падтрымліваюць, другія...

Новая думка, вядома, прабіваецца ў жыццё не адразу. Асабліва калі яе аўтар — усяго толькі вясковы гармонікавы майстра з чатырохкласнай адукацыяй.

Звечарэла.

Сыпле снег. Дробны, калючы. На моцным ветры ён востра, нібы іголкамі, сячэ твар.

З пасёлка Пераяслае мы вяртаемся ў Неглюбку. З Донарам яшчэ раніцай было загадана абыходзіцца асця-

рожна, і сваёй волі мы каню амаль зусім не дыктуем, адно шэпчам нясмела, ды і то не так яму, як сабе, сябе суцяшаючы: «Ціш-ш-ш...» Ён сам ведае і адчувае дарогу, бо гэтая дарога вядзе ў цёплую вёску — дадому. Сам, без прынукі, імчыць, ажно жахліва бачыць гэтую язду, і мы ляжым ніцма, тварамі ўткнуўшыся ў сена. Два разы Донар ужо выкідаў нас з вазка, усіх траіх — сыпаліся нібы гарох са струка. У вечаровай шэрані, замеці лёгка згубілі б і дарогу, і Донара, і адзін аднаго, калі б Пеця хоць на імгненне выпусціў з рук вожкі. Ён не выпускаў іх нават тады, калі, выкінуўшы нас з вазка, Донар доўга валачыў свайго ездавога па снезе. Дзе ж ты яго, Донара, спыніш адразу: конь дырэктарскі, застаяўся ў канюшні на самых лепшых харчах.

Хата Васіля Дзямчыхіна здалёк ззяе асветленымі вокнамі.

Закалелыя, мы хутчэй прывязваем Донара да плота і бяжым у хату. Рыгор Андрыяновіч, ледзь пераступіўшы парог, скідае з галавы шапку, потым — адно за адным — паралонавую бяду-куртачку, чаравікі, просіцца ў гаспадыні Просі Іванаўны пусціць яго на цёплую печку і, атрымаўшы дазвол, не забывае прыхапіць з сабою блакнот з алоўкам, бо ўжо адчувае: будуць песні.

Яны абавязкова будуць, бо ў Просечкі — гэтак пяшчотна ў вёсцы завуць гаспадыню — сабраліся жанчыны, усе лепшыя неглюбскія пявунні. Прыйшлі і мужчыны: хто — спяваць, а хто — паслухаць. Паселі паўз сцен, як на гулянцы.

— Ну, бабы?! — пачуўся нясмелы мужчынскі голас з цемнаватага кута.

Гэта — як першы сігнал: адразу ўсе загаманілі, тойсёй закашляў, прачышчаючы горла.

— Ёсць прыгожая песня. Як яе?..

— Пачынай, Зінуля, дзедаву. «Дзевачкі-падружанькі...» Успомніла?

— І гэтую можна.

— Раней розныя спявалі. А цяпер маладых паслухаеш... То я мілёначка, то мілёначак мяне.

— А я люблю яшчэ бабчыну «Пад крастом мая магіла...».

Сыплюць жартамі, рагочуць, мужчыны кпяць з жанчын, жанчыны з мужчын, але праз нейкую хвіліну ўсё зноў становіцца на сур'ёзны лад.

— Шкада, бабанькі, што падлогу мыла і недамыла, не паспела. Але, мыючы, гэтак не спацела, як шыбуючы сюды, на спеўкі. Ажно без панчох выскачыла.

І зноў рогат. Але ўжо нядоўгі.

— Басы не прыйшлі. Вось шкада.

— Калі б сюды Івана Прыходзьку. Гэта бас!

— Яго яшчэ з фермы няма.

— Бяда такая! Я за Івана буду. Ты пачынай, Русланава,— з кута адгукаецца Даніла Мельнікаў, саўгасны конюх. Гляджу на яго і ўспамінаю ранішнюю размову з ім, калі ён выводзіў з канюшні Донара, ставіў у аглоблі, накідваў яму на галаву хамут, вучыў, як абыходзіцца з Донарам, што яго вялікасць любіць і што не любіць. Ужо наўздагон нам паспеў крыкнуць, каб да вечара вярнуліся слухаць вясковую капэлу, што ў яго хаце жыве сама Русланава — не абы-хто!

Вось і «Русланава» — Марыя Герасімаўна Мельнікава — сядзіць сярод жанчын. Паўнаватая, прывабная сваёй сціпласцю, шчырасцю, жаноцкасцю, яна разам з Просяй Дзямчыхінай заводзіць першую песню:

Цераз гору, цераз круту
Арол ваду носіць.
Маладзенькі навабранец
Начальнічка просіць:
— Начальнічак, палкоўнічак,
Адпусці дадому,
Расплакалася чарнявая
Дзяўчына за мною...
— Хай паплача, колькі можа,
Крыху патужыць,
А наш навабранец
Тры гадкі паслужыць...

Песня сумная. Пра далёкае мінулае жанчыны, яе цяжкі лёс, мары, слёзы. Пра не менш пакутлівы лёс салдацкі. Ледзяным холадам вее ад песні. Але сумнае — адно спачатку. Дзеля ўспаміну, роздуму. Ужо ў наступнай песні будзе і жарт, і ўсмешка.

— Можа, карагодную? — падае голас Просечка.

— Можна і карагодную. Хто пачне?

— Ты, Прося?..

Ой, сад, ты мой сад-вінаград.
Ходзіць хлопец па садочку, у гуселькі грае,
Ходзіць дзеўка па святліцы, песні распявае...

Адна песня змяняе другую. Неяк неўпрыкмет. Але з кожнай песняю прыкметна мяняецца настрой спевакоў, бо за кожнай песняю свой свет, свае думкі, пачуцці.

Вось жніўная:

Закацілася сонейка
За лес, за лясочак...

І вясельная:

Канчаецца жызнь бесклапотная, значыць,
Па хаце бацькоўскай не раз я паплачу...

І пра каханне:

З-пад камня з-пад белага
Цякла рэчка быстрая,
Рэчка быстрая, вада чыстая.
У той рацэ дзева мылася,
Яна мылася-умывалася,
Маладога казака паджыдалася...

Песні, пад якія Неглюбка спакон веку жыла, бедавала і радавалася, гуляла каляды і масленку, радзіны і вяселлі, працавала і адпачывала. Пад гэтыя песні чалавек нараджаўся, пад песні паміраў — пад галашэнне. Ніколі не жыла вёска без песень, і спяваюць іх тут па-свойму. Часам тутэйшыя спевы падобныя на запаволеную размову жанчын паміж сабою, часам песня — нібы бурная вясновая рэчка, імчыць весела, рассыпіста, а найчасцей — працяжна-раздумлівыя песні ў неглюбцаў, якія, здаецца, і пра сённяшні дзень, і пра ўчарашні, і ў заўтрашні мосцік вядуць. І мала сказаць, што песні ідуць ад душы, ад

сэрца — яны ідуць праз усю істоту спевака, ад нейкіх старадаўніх асноў жыцця, старадаўніх, але не забытых, жывых і сёння ў душы неглюбца, у яго побыце. Ад тых, мабыць, асноў, на якіх ад веку мацаваўся здаровы чалавечы дух, усведамленне людской сілы, справядлівасці, дабра, прыгажосці...

Перш чым развітацца з Неглюбкай, мы з Грышам завіталі ў кантору, да дырэктара саўгаса Васіля Іванавіча Карніенкі. Усе дні, праведзеныя ў Неглюбцы, неяк не выпадала сустрэцца, пагаварыць. Не па нашай віне. І не па яго. Кіраўнік саўгаса — чалавек заняты. Нават цяпер, узімку, калі палі і лугі маўчаць, спяць, даюць хлебаробу адпачынак.

— Не прысядзеш,— прызнаецца ён.— То нарада ў Ветцы, то нарада ў Гомелі. Вось зноў ехаць...

У невялічкі, цёпла напалены дырэктарскі кабінет адзін за адным заходзілі саўгасныя спецыялісты, механізатары, брыгадзіры, рабочыя, неслі з сабою пах бензіну, сена, адталага снегу, а яшчэ неслі скаргі, просьбы, розныя клопаты. Толькі разышліся наведнікі і мы з Карніенкам завялі размову, як дзверы зноў адчыніліся — з'явіўся дырэктар мясцовай школы Аляксандр Ягоравіч Прышчэпаў. Ён прыйшоў са сваімі школьнымі клопатамі, і Васіль Іванавіч гэта ведаў, аднак пачатую размову не перапыніў, тым больш што школы яна таксама датычыла.

— У некаторых маладых пупавіна слабая,— заўважыў Карніенка.— Павінна з зямелькаю моцна вязаць, а яна рвецца. Выскачыць маладзён з дзесяцігодкі і ўжо грэбуе вясковым хлебам. Ужо, глядзіш, у горад навастрыўся.

Дырэктар школы адчувае, што каменьчык кінуты ў яго агарод — шукае апраўдання:

— У вёсцы інстытутаў няма.

— Калі б усе да навукі рваліся. А то ж абы з вёскі.

— Ну... у нас яшчэ не бяда. Рук хапае.

Гэтай заўвагі Карніенка не прымае, нават не чуе:

— А можа, і школа вінаватая? Не мацуе ў маладых любоў да роднай вёскі? Як думаеце?

— А Вера Дзеравянкіна?

— За Веру вам дзякуй. Але Вера гэтакая ў нас адна?

Васіль Іванавіч з непрыхаванай — навошта гэтакае хаваць? — радасцю кажа пра дзяўчыну: скончыла дзесяць класаў — нікуды не паехала з вёскі, сама папрасілася даглядаць цялят, потым завочна вывучылася на заатэхніка, пайшла брыгадзірам у самую адсталую брыгаду, і добра пасобіла брыгадзе, каб выйсці ў перадавыя. Нядаўна паставілі загадваць вялікай саўгаснай фермаю — і там стараецца.

— Вось якая дзяўчына!

— Трэба моладзь зацікавіць работай. Але не адной работай,— кажа Прышчэпаў.

— Згодны,— ківае Карніенка.— Вось Палац культуры будуем. Бальніца свая, школа сучасная. Кожны дзень самалётам можна з Неглюбкі ў Гомель і назад. Дваццаць мінут лёту — і ў абласным тэатры. Жыць можна?

— У іншай вёсцы, глядзіш, і палацы стаяць, а людзі ў горад бягуць...

— Дык у чым справа?

Карніенка ўстаў з-за стала, прайшоў, задумлівы, па кабінеце. Відаць было, што гэты неспакой даўно хвалюе яго, што гэтакія спрэчкі яму не новыя.

І раптам — Грыша:

— А можа... Можа, справа ў ручніках?..

І ўжо размова пра вясковы патрыятызм неглюбцаў перакідаецца на мясцовае ткацтва, песні, рамёствы, якія здаўна жылі і жывуць тут на правах мастацтва. Недарма вёска прызнала мастаком па лазе пастуха Івана Асіпенку, які пляце кошыкі ды шкатулкі, а мастаком-бондарам — Івана Лямцава, а мастаком-печнікам — Васіля Каротчанку. Тут, у Неглюбцы, ніякае рамяство не было толькі рамяством дзеля хлеба надзённага, любое рамя-

ства тут разумелася як дар божы, як талент, і патрабаванні да яго былі як да мастацтва, каторае можа ствврыць не проста рэч, а рэч цудоўную, каб у ёй жыла душа. Тым больш — ткацтва ці гармонікі. Удалы гармонік ці прыгожы ручнік, хто б іх ні зрабіў, хутка станавіліся вядомыя на ўсю вёску. Сваім мастацтвам Неглюбка любавалася, ганарылася, успрымала яго душою, душа неглюбца жыць без гэтага не магла.

— Вазьміце нашых буслоў,— разважаў Васіль Іванавіч.— Увесь свет аблётаюць, а раднейшага месца, як Неглюбка, не знаходзяць, вяртаюцца.

Ён, здавалася, казаў Грышу, бо глядзеў на яго, і па ўвазе да хлопца было відаць, што Грышава думка пра неглюбскае мастацтва, пра тое, што яно трымае неглюбцаў на роднай ніве, у родным куце, яму спадабалася.

Ён нават успомніў:

— Быў у мяне перахлёст. Помню, як прыехаў я ў Неглюбку. Дырэктарам прызначылі. Гляну́ў, як тут жанчыны хусткі носяць, і загадаў... А як носяць — бачылі? Хусткі прыгожыя, вышываныя. На галаве — карона. З-пад кароны нібыта рогі тырчаць. Трэба не адзін дзень вучыцца, каб гэтак завязваць. Пад каронай — і на ферме, і ў полі, і на сходзе, і на свяце. Значыцца, я і загадаў, каб паздымалі кароны, каб хусткі насілі звычайна. І што атрымалася? Адчуў адразу, як паставіў жанчын супраць сябе. Кароны яны паздымалі, але і душы свае ад мяне замкнулі. Іду па вуліцы — як на чужака глядзяць. І тады я зразумеў, што перастараўся. Хустка — гэта ўбор жанчыны, таксама мастацтва, тое, па чым неглюбскую жанчыну можна пазнаць і ў Гомелі, і ў Маскве. Давялося направіцца. Ну, на ферме, у полі — там каб зручней у рабоце. А на сход, на вуліцу, на сустрэчу з дырэктарам дазволіў ісці пад каронаю. Скажу вам, што неглюбцы сваё мастацтва шануюць. І добра...

— Ды... цяпер і ў нас творыцца нешта новае,— махнуў рукою, як не пагадзіўся, Прышчэпаў.

А мне зноў прыгадаліся песні ў Просеччынай хаце, твары неглюбскіх жанок, зачараваных сваімі спевамі, і яшчэ — песні іх дачок і сыноў, сённяшняй неглюбскай моладзі, у Ветцы, на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці. Успомніў з горыччу і здзіўленнем. Дзеці такой песеннай вёскі, нашчадкі вельмі самабытных мастацкіх традыцый спявалі на раённай сцэне не тое, што спяваюць іх маці, не тое, што яны, маладыя, самі спяваюць у роднай вёсцы, там у іх і мова была не беларуская, не руская, нейкі моўны сурагат, а песні — пра Адэсу-маму, Нар'ян-Мар, пра дзяўчыну, якая «танцуе на палубе». Куды дзяваліся свае, неглюбскія? Не, я не пра тыя, што аплакваюць долю рэкрута, які «служыў службу ваенную, ды стаў паміраць», дзе «плача Ганначка, замуж ідучы», хоць гэтыя песні таксама духоўны скарб Неглюбкі і таксама заслугоўваюць сцэны — як фальклорнае, гістарычнае багацце народа. Калі са сцэны моладзь не хоча спяваць сумна-старадаўняе, то ёсць жа іншыя песні, усім сваім ладам, зместам сугучныя і маладосці, і дню сённяшняму, і Неглюбцы, яе духоўнаму абліччу. Яно няблага паспяваць і пра Нар'ян-Мар, але не забываючы роднае мастацтва, песні свайго краю, сваёй вёскі, матчынай хаты, у якіх можна куды глыбей і цікавей для ўсіх выказаць сваю духоўную сутнасць. Як прыемна, калі ў саўгасным клубе, у Неглюбцы, паміж песень «рэпертуарных», песень «для раённай сцэны» тая ж самая моладзь спявае песні «для сябе», «для душы», і сярод іх — неўміручыя для беларусаў, для той жа Неглюбкі, «Верасы», «Мяцеліцу», «Зялёны дубочак», у якіх свая вясковая мова, свая душа, блізкія вобразы, на свой мілы лад пастаўленая мелодыя.

— А ці лёгка цяпер маладым разабрацца, што сваё, што чужое? — разважае дырэктар школы.— За акіянам пяюць, а Неглюбка слухае...

Маўчыць адзін дырэктар, маўчыць другі дырэктар. І ўсё ж, не хацелася думаць, што адказу на пытанне

Прышчэпаў не ведае. Мабыць, проста не хацеў прызнацца, што ён, настаўнік, яго школа — тая першая ў вёсцы сіла, якая павінна пасобіць моладзі знайсці сваё, роднае, любіць і шанаваць матчына. Бо правы Грыша: пашана да сваіх песень, матчынага ручніка, бацькавага гармоніка — гэта ж вернасць чалавека бацькам, роднаму полю і хлебнаму коласу, які на ім вырастае, цвіце, наліваецца зернем.

Неўзабаве мы пакідалі Неглюбку. Васіль Іванавіч зноў даў нам Донара — даехаць да Веткі. За возчыка быў ужо не Пеця, а штатны конюх Даніла Мельнікаў.

Ехалі моўчкі. Наш возчык усю дарогу ціхенька, сабе пад нос, напяваў нешта задумлівае і тужлівае — пра «дзеву красную», «ягадку», «чырвоную каліну»,— і ці пад яго песню, ці пад свае ранейшыя думкі мне прыгадаўся гомельскі аэрапорт, маленькі ўтульны рэстаранчык, белы настольнік, бэзавыя снягі ў акне і размова дзяўчат за перагародкай пра вёску, іх шчырая мара зачапіцца за горад. Нічога кепскага пра тых дзяўчат я не думаў: хіба то мара адно іхняя, хіба яе не нарадзіла само жыццё? Але думка, што тыя дзяўчаты маглі быць неглюбскімі, у галаў не прыйшла. Можа, што я не доўга пра іх думаў, а можа, таму, што конюх Даніла спяваў пра «дзеву красную», «ягадку», «чырвоную каліну»...

Мы ўз'ехалі на гару. Неглюбка адплыла ад нас у белую, іскрыстую пад сонцам прастору, ляжала ў разлозе белых палёў, канцамі вуліц чапляючыся за пагоркі, весела іскрыліся яе густыя шыферныя дахі, вышэй комінаў узвышаліся заснежаныя буслянкі, а прыродзе быццам і гэтай прыгажосці здавалася мала — над вёскаю запальваліся чырвоныя, ружовыя, жаўтлявыя, сінія дугі. Аднымі канцамі апускаліся на белае поле злева ад Неглюбкі, а другімі — на такое ж белае поле справа ад Неглюбкі.

Вясёлка?! Сярод зімы?!. Сярод бялюткіх снягоў у ясным марозным небе, над усёй вёскаю, над усімі яе хатамі — нібы вышываны ручнік над святымі лікамі абразоў.

А ў нашых душах — маёй і Грышавай — жыла іншая, такая ж нечаканая, не менш прыгожая вясёлка, вытканая не капрызам прыроды, а рукамі, натхненнем, тонкімі мастацкімі душамі неглюбцаў.

Вясёлка ў небе над вёскаю пагасла хутка, як і ўспыхнула. А тая, другая, запаленая ў нашых душах, была несмяротная.

Дарога з Неглюбкі бяжыць праз Ветку, а ў Ветцы, на адной з вуліц, стаіць дом Фёдара Рыгоравіча Шклярава, і яго не абмінеш таксама, бо ён, ды і сам гаспадар,— як бы працяг неглюбскага мастацтва.

— Я меў магчымасць пазнаёміцца з беларускім ткацтвам у многіх абласцях і раёнах. Вывучаў ткацтва рускае, украінскае. Але перакананы, што Неглюбка — гэта унікальны запаведнік народнага ткацтва. Роўнага яму няма.

Гэтак думае Шкляраў.

Запаведнасцю дыхае і дом мастака. Звонку ён — ад падмурка, на якім ляжыць разьбяны грэбень, і да вільчыка, дзе раскінуў крылы, быццам узляцеў у неба, голуб,— увесь нібы вытканы каляровымі ніцямі, апрануты ў вытканую на кроснах сарочку жаніха, усыпаны колерамі чатырох пор года, сціпла, з густам аздоблены разьбою. Я ўжо чуў, як дом Шклярава называлі шкатулкаю, і мне няма што дадаць да гэтага параўнання, бо ў Ветцы (а тут спакон веку было нямала цудоўных майстроў па дрэве, і адно лепшыя з іх, сапраўдныя мастакі, рабілі шкатулкі) яно гаворыць само за сябе. Яшчэ ў мяне ў думках жыла Неглюбка, яе ручнікі і песні, гармонікі і бусляпкі, панёвы і кароны, мова і твары неглюбцаў, а ўжо побач з гэтым багатым светам, быццам з ім пад адной страхою, адкрывалася мастацтва Фёдара Рыгоравіча: талент выразаць з дрэва дамы-шкатулкі, у звычайным корані дрэва бачыць скульптурна выліты прыродаю вобраз, з вераю ў дабрыню вясны і сонца пісаць жывапісныя карціны,

рэстаўрыраваць старажытныя іконы, разумець, цаніць і збіраць рэчы далёкіх продкаў (рукапісныя кнігі, самавары, лампадкі). Адкрывалася яго бязмежная любоў да неглюбскага ткацтва, а праз гэту любоў — само неглюбскае ткацтва.

Ды і гэта — яшчэ не ўсё. Шкляраў ведае гісторыю свайго краю і там, у яе далёкіх далячынях, ясна бачыць вытокі народнага мастацтва, якое і сёння здзіўляе. Ён заўважае, што Неглюбка, яе мастацтва, не існавала асобна, нейкім адасобленым востравам. Проста яна ўклала свой голас, свае мары, сваю душу ў ткацтва і гармонікі, як, скажам, суседні Свяцк здаўна выяўляў сябе ў звычайных хатніх куфрах. У кожнай хаце раслі-гадаваліся нявесты, і пра куфар з пасагам бацькі дбалі загадзя. Які ён быць павінен — куфар нявесты? Мабыць, каб яго не сорамна было прынесці ў любы дом, пры любым народзе. Такія куфры Свяцк рабіў не толькі сваім нявестам, але і ўсім блізкім вёскам. Яны ўпрыгожваліся разьбою, чаканкаю, мастацкім роспісам — люба-дарага паглядзець і ў рукі ўзяць. А яшчэ па суседству была вёска, дзе жылі багамазы — пісалі іконы. А яшчэ ў адной вёсцы жылі майстры чыгуннага ліцця: мне пашанцавала бачыць рукамыйнік гэтых майстроў — на два ражкі, з процілеглых бакоў, кожны ражок вылiты ў форме галавы пеўня з разяўленай дзюбаю. Тут жа, пад Веткаю, была вёска, дзе рабілі мастацкую кераміку. Нямала вёсак славілася сваімі мулярамі. Скажам — Грабаўка. Яна таксама недалёка ад Веткі. Грабаўскія каменшчыкі будавалі Маскву і Пецярбург, Пскоў і Ноўгарад, Гомель і Адэсу, Харкаў і Слуцк — усіх гарадоў, дзе рабілі грабаўцы, і не палічыш. Гэта на іх долю выпаў гонар узводзіць Маўзалей Леніна. А калі яго будаўніцтва было закончана, адзін з чорнабародых грабаўцаў, Арцём Башлыкоў, застаўся ў Маскве і рэстаўрыраваў вежы Крамля — Спаскую, Нікольскую, Сенацкую, Арсенальную, Троіцкую.

Захопленасць самым нечаканым заняткам знаходзіш

у тутэйшых вёсках, такую захопленасць, якая свеціць чалавеку ўсё жыццё, не пакідае душу да скону. У кожнай вёсцы, як правіла, захапленне і занятак свае, не тыя, што ў суседзяў. Ёсць, напрыклад, паселішча з надта старой назваю — Галоднае. Тут жылі людзі, душы якіх не маглі існаваць без волі, прасторы, вандровак і... без вады. Калі ты з Галоднага, хлопчык ты ці стары, цябе ў гэтых месцах будуць называць мараком. І не выпадкова тут усе мужчыны — ды і жанчын колькі! — з дзяцінства марылі стаць маракамі, а потым і станавіліся імі. Працавалі ў портах і на караблях Чорнага мора, Дняпра, Сажа, Прыпяці.

Воля! Што яшчэ саладзей чалавеку? Асабліва тут, на Веткаўшчыне, дзе Неглюбка, Галоднае, Свяцк... Колькі моладзі пакідала тое ж Галоднае ў пошуках волі і вярталася ў вёску ўжо дзядамі — паміраць. Здаўна славіўся гэты край сваім вальнадумствам, і неаднойчы тут з'яўляліся царскія ды панскія войскі, каб прымусіць мужыкоў цярпець, маўчаць. Не атрымоўвалася. І, мабыць, не выпадкова ў 1772 годзе тут хаваўся ад царскай кары Амельян Пугачоў — правадыр вальналюбнага казацтва. У сваёй «Гісторыі Пугачова» А. Пушкін пісаў пра гэта: «Из показаний самого Пугачева, в конце 1772 года приведенного в канцелярию дворцовых дел, известно уже было, что после своего побега скрывался он за польской границей, в... слободе Ветке». І яшчэ там сказана, што жыў Пугачоў у Ветцы пятнаццаць тыдняў.

Вось і думаеш: ці не гэтакім беглым вальнадумцам, як Пугачоў, быў той казак, які, згодна з паданнем, не забытаму ў вяках, заснаваў Неглюбку, паклаў пачатак яе рамествам і мастацтву? Ці не гэтым вальналюбствам і моцаю духу народнага быў вызначаны росквіт мясцовых мастацтваў? Як бы там ні было на самой справе, бясспрэчна адно: вальналюбная паэтычная душа народа знайшла ў неглюбскім мастацтве, асабліва ў ткацтве і гармоніках, сваю непаўторную песню самавыяўлення.

Зноў прыгадваецца размова са Шкляравым.

— Узяў я неглюбскі ручнік,— прызнаваўся ён,— зняў з яго ўзор, павёз у Мінск на мастацкі савет, каб зацвердзілі для нашых фабрычных вырабаў. Там і ахнулі: гэтакая прыгажосць! Адразу мне прэмію адвалілі. А я ж узор зняў у адным колеры?! Каб яны, на тым савеце, пабачылі, як неглюбцы ткуць гэты ўзор у сем колераў!..

За акном ззяла сонца. Зіма, а сонца хілілася да вясны, на вясну глядзела. Мы пілі чай з мёдам, які пах вясновым, у квецені, лугам. Вясновым водарам дыхалі і пейзажы Шклярава, развешаныя на сценах. І настрой у гаспадара быў светлы, вясновы.

— Учора з сынам выйшлі на Сож. Паглядзець, як там вясна, ці не паказвае свой грэбень? Не. Снягі ляжаць глыбокія, сухія. Дык мы вытапталі слядамі: «Прывет вясне!»

Я слухаў, думаў і адчуваў, што на гэтым мае паездкі сюды не скончацца, што прачыненыя ў Неглюбку і Ветку дзверы зноў паклічуць мяне. У галаве пачыналі выспяваць пуцявіны новых падарожжаў па спакуслівым краі, яны пракладаліся па незнаёмых мне пакуль што вёсках, дзе ва ўсіх бедах, войнах, галадоўках, халадэчах захаваліся і жывуць паклады мастацкага ліцця, керамікі, старажытных ікон, чаканкі, а не жывуць яны, дык жыве памяць аб іх. Яшчэ гэтыя дарогі не былі для мяне пазначаны верставымі слупамі, але сонца над імі ўжо стаяла, яны пахлі вясною, набрынялі цеплынёю, ужо таўкачыкі трыпутніку падымаліся па прасёлках на сваіх стройных моцненькіх ножках.

*1969*

# ЗМЕСТ



*Виктор Филимонович Карамазов*
РАДУГА СРЕДИ ЗИМЫ
Путешествия
Для старшего школьного возраста
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастак Л. М. Марчанка. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. Г. Законнікава.

ІБ № 39

Здадзена ў набор 25.05.78. Падп. да друку 04.11.78. АТ 09881. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 8,40. Ул.-выд. арк. 7.49. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1260. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.